# НАШ КРАЙ

№ 9-10 1930

ШТОМЕСЯЧНІК
Ц. Б. КРАЯЗНАЎСТВА

# ЗЬМЕСТ

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!




# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

№ 9-10 (60-61) Верасень—Кастрычнік 1930

ГОД ВЫДАНЬНЯ ШОСТЫ





ВЫДАНЬНЕ
БЕЛАРУСКАЕ АКАДЭМІІ НАВУК
МЕНСК—1930

## XIII-я гадавіна Кастрычніка і Краязнаўства.

Краіна Саветаў, краіна дыктатуры пролетарыяту, а з ёй і ўвесь сусьветны пролетарыят да XIII гадавіны Кастрычніка прыходзіць з вялізарнейшымі дасягненьнямі ў галіне соцыялістычнага будаўніцтва. Факты самага жыцьця зьнішчылі прароцтвы розных опортуністычных элемэнтаў, прароцтвы правых, якія зьяўляюцца кулацкай агэнтурай, у нашых радох. З вялізарным энтузыязмам рабочая кляса пад бальшавіцкім кіраўніцтвам, рашуча выконвала і выконвае свой баявы плян пяцігодкі ў чатыры гады. Дзякуючы правільнаму і цьвёрдаму кіраўніцтву бальшавіцкай партыі, мы як ніколі маем моцны саюз рабочай клясы з асноўнай масай сялянства — серадняком. Мы маем рашучы паварот серадняцкіх мас да соцыялізму. Ад абмежаваньня і выцісьненьня кулака партыя перайшла да ліквыдацыі кулацтва як клясы на падставе суцэльнай колектывізацыі. Дзякуючы бязьлітаснай барацьбе партыі з правым і левым ухіламі, як у тэорыі, гэтак і ў практыцы, партыя дабілася вялізарнейшых посьпехаў у выкананьні пяцігодкі ў чатыры гады і перайшла да выкананьня трэцяга году пяцігодкі".

Трэці год пяцігодкі азначае новы гіганцкі крок у справе індустрыялізацыі СССР. Прырост продукцыі за 1930/31 год будзе роўны ўсёй даваеннай прамысловай вытворчасьці. У трэцім годзе пяцігодкі побач з закончанымі і ўступіўшымі ўжо ў эксплёатацыю Сталінградзкім трактарным заводам, Растоўскім заводам сельгасмашынбудаўніцтва і другімі новымі заводамі патрэбна забясьпечыць разгортваньне на поўны ход будаўніцтва такіх гігантаў, як Магнітабуд, на адбудаваньне якога павінна быць затрачана за адзін год болей двухсот мільёнаў рублёў, Кузнецкбуд, Ніжагародзкі аўтазавод, Харкаўскі і Чалябінскі трактарныя, Уральскі гігант цяжкага машынабудаўніцтва, Бярэзьнікаўскія і Бобрыкаўскія буйнейшыя хэмічныя камбінаты, Саратаўскі комбайнавы завод і г. д. Пераважная большасьць гэтых заводаў па моцы сваёй правышаюць усё, што краіна мела да гэтага часу, у галіне мэталюргіі, хэміі, машынабудаўніцтва і павінны быць пушчаны ў ход на працягу трэцяга году пяцігодкі адны поўнасьцю, другія ў першую чаргу. Акрамя таго, у наступаючым годзе пачынаецца будаўніцтва такіх заводаў, як Ніжнетагельскі і Марыупальскі мэталюргічныя і Днепракомбінат у складзе цэлага шэрагу буйнейшых новых заводаў. У 1930/31 г. мы павінны дабіцца першых буйнейшых вынікаў у ажыцьцяўленьні дырэктыў XVI партзьезду аб стварэньні новай вугольнай мэталюргічнай базы ў СССР—Урала-Кузьнецкага комбінату. Програму будучага году ілюструюць наступныя рашаючыя лічбы: 7,5 мільёнаў тон чыгуну, 74,5 мільён. тон вугалю, на 2,5 мільярдаў новых машын, акрамя таго

на 845 мільёнаў рублёў сельска-гаспадарчых машын і 745 тысяч конскіх сіл новых трактараў“ (з адозвы ЦК УсеКП ад 3/IX).

Кастрычнікаўскі пленум ЦК КП(б)Б, падводзячы вынікі выкананьня другога году пяцігодкі, з усёй цьвёрдасьцю падкрэсьліў, што ўсе дасягненьні, якія мы маем ў соцыялістычным будаўніцтве СССР і Савецкай Беларусі магчымы толькі дзякуючы правільнай генэральнай лініі партыі, за якую змагалася УсеКП(б) на чале з ленінскім ЦК. Баявой програмай гэтага кварталу далейшага наступленьня ў выкананьні пяцігодкі ў чатыры гады пленум ЦК КП(б)Б ухваліў наступныя леміты: рост валавой продукцыі па рэспубліканскай прамысловасьці супроць чацьвертага кварталу 1929/30 году на 20,5%, рост рабочых на 7,3%, рост продукцыі працы на 22,6% (без дрэваапрацоўчай прамысловасьці) і 20,88% па ўсёй прамысловасьці супроць сярэдняга гадавога роўню 1929/30 году пры абавязковай умове дабіцца сапраўднага паляпшэньня якасьці продукцыі.

Вось тыя галоўныя паказчыкі, якія вядуць да каранной перабудовы ўсёй гаспадаркі СССР, і БССР з краіны аграрнай у краіну соцыялістычнай індустрыі, у краіну саўгасаў і колгасаў. Вось тая асноўная програма, на выкананьне якой павінна быць мобілізавана ўся пролетарская грамадзкасьць.

Вырашаючы па-бальшавіцку нацыянальнае пытаньне, КП(б)Б забясьпечыла вялікія посьпехі гаспадарчага і культурнага будаўніцтва БССР. Правільнае правядзеньне ленінскай нацыянальнай політыкі, праходзіць у рашучай барацьбе з усімі відамі нацыяналістычных ухілаў. Партыя рабочай клясы вяла і будзе весьці самую жорсткую барацьбу як з вялікадзяржаўным шовінізмам, галоўнай небясьпекай, на даным этапе, гэтак і з контррэволюцыйным беларускім нацыянал-дэмократызмам, як згоднікам і агентурай польскага фашызму, гэтак і з іншымі шовінізмамі розных колераў.

У гэты адказьнейшы пэрыод соцыялістычнага наступленьня па ўсяму фронту, у пэрыод абвостранай клясавай барацьбы Беларуская Акадэмія Навук ня стала штабам у барацьбе за пролетарскую ідэолёгію і пролетарскую культуру—Акадэмія да апошняга часу была апорным пунктам ворагаў пролетарыяту, контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму. Трэба з усёй рашучасьцю констатаваць, што як Беларуская Акадэмія Навук у цэлым, так і абсолютная большасьць краязнаўчых організацый, ёй падпарадкаваных ня ўключыліся ў актыўны ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве, ня сталі ў шэрагі барацьбітоў за пролетарскую культуру па зьместу і нацыянальную па форме. Краязнаўчыя організацыі былі і ў значнай меры і цяпер зьяўляюцца організацыямі, засьмечанымі чужымі для нас элемэнтамі і ў першую чаргу элемэнтамі нацдэмаўскімі. Ва ўсёй сваёй працы краязнаўчыя організацыі менш за ўсё займаліся пытаньнямі соцыялістычнага будаўніцтва, пытаньнямі культурнай рэволюцыі. Краязнаўчыя організацыі і орган ЦБК „Наш Край“ ідэялізавалі кулака, беларускую старажытнасьць і самабытнасьць, смакавалі „Нашу Ніву“ і г. д.

Зразумела, што такое становішча далей недапусьціма і мы павінны зараз-жа сконцэнтраваць усю ўвагу на гэтым, мобілізаваць усё лепшае і ліквідаваць безадкладна вялікі прарыў на культурным фронце. Мы павінны каранным чынам зьмяніць як зьмест, так і мэтоды краязнаўчай працы. Зьмест краязнаўчай працы вызначаецца нашым соцыялістычным будаўніцтвам, нашымі тэмпамі ў перабудове ўсёй нашай гаспадаркі, барацьбой, якую праводзіць комуністычная партыя з вора-

гамі дыктатуры пролетарыяту. Мы павінны безадкладна мобілізаваць краязнаўчыя організацыі вакол конкрэтных задач нашай партыі: выкананьне прамфінпляну, разгортваньне соцспаборніцтва і ўдарніцтва, рацыяналізацыя вытворчасьці, абмен практыкай, вынаходзтва, політэхнізацыя школы і г. д. Краязнаўчыя організацыі і ўся пролетарская грамадзкасьць на мясцох павінны даць самы бязьлітасны адпор спробам аполітызаваць краязнаўчыя організацыі, рашуча ачышчаючы шэрагі краязнаўцаў ад варожых элемэнтаў.

Бязумоўна, што перабудова работы павінна таксама зьмяніць самы склад організацыі. Уключэньне краязнаўства ў соцыялістычны сэктар павінна даць новую армію краязнаўцаў і краязнаўчых гурткоў з рабочых, колгасьнікаў, селькораў, комсамольцаў, спэцыялістых нашай прамысловасьці і сельскай гаспадаркі. Мы павінны шырока популярызаваць сярод пролетарскіх мас задачы краязнаўства. Кастрычнікавая рэволюцыя заклікала да політычнага, гаспадарчага і культурнага будаўніцтва мільённыя масы працоўных. Не адзінкі інтэлігенты, „любители старины“, „рэдкасьцяў“, а тысячы рабочых, колгасьнікаў, чырвонаармейцаў, комсамольцаў павінны прыйсьці да краязнаўства і каранным чынам зьмяніць мэтодолёгічныя ўстаноўкі краязнаўства. „Краязнаўства гэта адна з форм актыўнага ўдзелу мас у соцыялістычным, організацыйным, усебаковым вывучэньні данага раёну ў мэтах дапамогі плянуючым органам; скарыстаньнем вынікаў гэтага вывучэньня мы можам адыграць вялікаю ролю ў справе павялічэньня тэмпаў соцбудаўніцтва. Усё гэта вывучэньне, не саматужніцкае і не аматарскае, а пастаўленае на моцныя ногі масавай працы павінна быць актыўным“. „Об‘яснить мир, чтобы изменить его“ (Маркс), а зьмяніць яго можна толькі навуковым мэтодам Маркса і Леніна. Савецкае краязнаўства павінна ўзброіцца востра абточаным мэтодам дыялектычнага матар‘ялізму, каб у сваіх працах стаць на ровень навуковай мэтодолёгіі з перадавымі атрадамі барацьбітоў на навуковым фронце.

Часопіс „Наш Край“, пачынаючы ад сваёй безклясавай назвы, павінен зьмяніць свой твар. Ён павінен стаць органам барацьбы за марксыцкую ідэолёгію ў краязнаўчым руху, мобілізуючы масы вакол соцыялістычнага будаўніцтва. Няпрымірная ідэёвая барацьба з варожай марксызму ідэолёгіяй, самае бязьлітаснае выкрыцьцё контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму і рашучы бязьлітасны адпор аполітычнасьці краязнаўства, увязка з задачамі соцыялістычнага будаўніцтва, мобілізацыя мас і вучот масавай працы месц, шырокае разгортваньне крытыкі і самакрытыкі,—вот тыя асноўныя лёзунгі, якія павінен праводзіць у жыцьцё наш орган краязнаўчага друку. Ва ўсёй працы нам трэба катэгорычна адмовіцца ад стыхійнасьці і стаўкі на самацёк. Концэнтруючы ў сябе ўвесь комплекс перабудовы раёну, краязнаўчыя організацыі павінны змагацца за плянавасьць сваёй працы, за вялікі посьпех у выкананьні ўзятых ва сябе задач. Вось тыя асноўныя і неадкладныя задачы, за вырашэньне якіх мы павінны ўзяцца зараз-жа, каб к XIV гадавіне Кастрычніка прысьці не з прарывамі, а з такімі-ж вялікімі посьпехамі, як уся рабочая кляса прышла да XIII гадавіны Кастрычніка.

---

В. Самцэвіч.

# Аб удзеле краязнаўчых організацый у выкананьні прамфінпляну.

Выкананьне прамфінпляну зьяўляецца аднэй з найгалоўнейшых задач нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Комуністычная партыя, савецкая ўлада, профсаюзныя організацыі і ўся наша савецкая грамадзкасьць паставілі сваёй баявой задачай і прыймаюць усе меры да таго, каб выканаць заданьні, вызначаныя плянам нашага соцыялістычнага будаўніцтва ў галіне прамысловасьці.

У змаганьні за прамфінплян разам з „трыкутнікам“ прамысловых прадпрыемстваў значны ўдзел прымае наш друк (завадзкія, фабрычныя і цэнтральныя газэты). На друк ускладаецца абавязак і адказнасьць за асьвятленьне „пытаньняў, зьвязаных з прамфінплянам“ і „за конкрэтныя вынікі па мобілізацыі пролетарскай грамадзкасьці пэўных прадпрыемстваў вакол справы выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну“ (з рэзол. плен. ЦК КП(б)Б па дакладу аб выкан. прамфінпляну). У вырашэньні пытаньня „выкананьня і перавыкананьня“ прамфінпляну павінны актыўны ўдзел прыняць і нашы краязнаўчыя організацыі і краязнаўчы друк.

Якія-ж конкрэтныя задачы можна паставіць перад краязнаўчымі організацыямі ў справе дапамогі нашай прамысловасьці ў выкананьні пастаўленых перад ёй плянавых заданьняў?

Краязнаўчыя організацыі ў раёне сваёй дзейнасьці павінны асабліва вялікую ўвагу зьвярнуць на вывучэньне прамысловых прадпрыемстваў перш за ўсё з пункту погляду організацыі і выкананьня тых задач, якія пастаўлены перад імі прамысловым плянам соцыялістычнага будаўніцтва. У сучасны момант уся ўвага партыі і савецкай улады концэнтруецца на наступных першачарговай важнасьці пытаньнях: павялічэньні *колькасных* і *якасных* паказальнікаў працы, *зьніжэньні сабекошту,* палепшаньні капітальнага *будаўніцтва* і становішча рабочае клясы, а між тым „заданьні па продукцыйнасьці працы, зьніжэньні сабекошту прамысловай продукцыі і кошту будаўніцтва сыстэматычна недавыконваюцца, тым самым зьніжаючы агульныя вынікі работы ў прамысловасьці“ [1]). Надаючы надзвычайна вялікае значэньне пытаньню зьніжэньня сабекошту (пры палепшаньні якасьці продукцыі) і памяншэньню кошту будаўніцтва ў справе паскарэньня тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва, партыя прапануе „асаблівую ўвагу ў практычнай рабоце прамысловасьці аддаваць пытаньням соцыялістычнай рацыяналізацыі па лініі барацьбы за лепшую організацыю вытворчасьці, павышэньня продукцыйнасьці працы, найбольш рацыянальнага скарыстаньня сырцу, матар'ялаў, апалу і абсталяваньня, па лініі барацьбы са стратамі ў вытворчасьці і звароце, што павінна забясьпечыць выкананьне плянавых заданьняў па сабекошту пры абавязковым паляпшэньні якасьці працы“ (там-жа).

Вось на вывучэньне гэтых бліжэйшых задач: павялічэньне продукцыйнасьці працы і паляпшэньне якасьці продукцыі, зьніжэньне сабекошту і будаўніцтва — і павінна быць у першую чаргу зьвернута

[1]) З тэзісаў да дакладу т. Куйбышава на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б), ухвал. Політбюро ЦК ЎсеКП(б).

ўвага краязнаўчых організацый пры дасьледваньні прамысловых прадпрыемстваў свайго раёну.

Краязнаўчыя організацыі павінны ўсебакова дасьледваць організацыю і правядзеньне на прадпрыемствах соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва. Краязнаўчыя організацыі павінны выявіць найлепшыя формы і мэтоды організацыі працы, адшуканыя рабочымі ў парадку соцспаборніцтва і ўдарніцтва, дасьледваць найбольш спагадныя і няспрыяльныя ўмовы для палепшаньня працы і шырока популярызаваць посьпехі і дасягненьні найлепшых ударных брыгад і прадпрыемстваў.

„Неабходнай прадпасылкай выкананьня пяцігадовага пляну зьяўляецца вырашэньне проблемы кадраў, а таму краязнаўчае дасьледваньне прамысловых прадпрыемстваў павінна быць накіравана на вывучэньне спосабаў падрыхтоўкі на прадпрыемствах новых кваліфікаваных рабочых (праз школы, курсы, завочнае навучаньне, прыкамандыраваньне да спэцыялістых і г. д.) і вылучэньне кіраўнікоў з рабочай масы.

Вельмі важным пытаньнем у справе павялічэньня продукцыйнасьці працы зьяўляецца належнае выкарыстаньне абсталяваньня прамысловасьці і ўкараненьне новай тэхнікі. Краязнаўчыя дасьледваньні, праведзеныя ў шэрагу прамысловых прадпрыемстваў, могуць выявіць новыя магчымасьці і спосабы выкарыстаньня прамысловага абсталяваньня і тым самым дапамагчы павялічэньню тэмпаў працы; з другога боку — краязнаўчыя організацыі праз адпаведны друк і шляхам дакладаў могуць і павінны популярызаваць дасягненьні ў справе найлепшага скарыстаньня абсталяваньня перадавых фабрык і заводаў.

Прымаючы пад увагу, што „ўвядзеньне бесьперапыннага тыдню і павялічэньне колькасьці працуючых зьмен значна ўзьнімаюць магчымасьць скарыстаньня фабрычна-заводзкага абсталяваньня, павышаюць загрузку прадпрыемстваў, спрыяюць абаротнасьці капіталаў, павялічэньню валавой продукцыі і зьніжэньню сабекошту“ (з тэзісаў дакладу т. Куйбышава) краязнаўчыя організацыі павінны дасьледваць і паказаць конкрэтныя вынікі пераходу на бесьперапынны тыдзень дасьледваных прадпрыемстваў, выявіць практыку організацыі працы пры пераходзе на бесьперапынны тыдзень паасобных прадпрыемстваў, паказаць меўшыя месца перашкоды, адносіны з боку рабочых розных катэгорый, адміністрацыі, спэцыялістых і г. д. Неабходна організаваць глыбокае дасьледваньне ўсяе папярэдняе практыкі ў гэтай справе і популярызаваць дасягнутыя посьпехі. Адначасова з гэтым краязнаўчыя дасьледваньні павінны выявіць тэхнічныя дасягненьні лепшых прадпрыемстваў з мэтай пашырэньня іх на іншыя прадпрыемствы.

Асабліва актуальным у даны момант зьяўляецца пытаньне зьніжэньня сабекошту прамысловай продукцыі. Задачай краязнаўчых досьледаў і павінна зьявіцца дасьледваньне мэтодаў і шляхоў вырашаньня гэтага пытаньня ў паасобных прадпрыемствах, а таксама і тых перашкод, якія сустракаюцца пры выкананьні гэтае задачы партыі і ўраду. З гэтым пытаньнем павінны быць зьвязаны і пытаньні рацыяналізацыі вытворчасьці, барацьбы са стратамі, рабочага вынаходніцтва і інш.

Краязнаўчыя дасьледваньні павінны выявіць таксама, ці даведзены прамфінплян да кожнага варштату, як усьвядомілі і як успрыймаецца гэты плян рабочымі, якія ўносяцца ў яго папраўкі, дадаткі і г. д.

Выкананьне прамфінпляну залежыць ня толькі ад тэхнічных дасягненьняў у справе пераабсталяваньня фабрык і заводаў, ад пляна-

васьці працы, але і ў значнай меры залежыць і ад сьвядомасьці, стараннасьці і організаванасьці рабочых, і таму ў краязнаўчых досьледах неабходна зьвярнуць вялікую ўвагу на ўдзел мас ў выкананьні памянёнай задачы.

Нашы фабрыкі і заводы маюць ужо вялікую практыку і багатыя каштоўныя матар'ялы па рацыяналізацыі вытворчасьці, але гэтыя матар'ялы належным чынам ня вывучаны, не сыстэматызаваны і не популярызаваны сярод шырокіх рабочых мас і савецкай грамадзкасьці наогул. Гэту задачу павінны ўзяць на сябе краязнаўчыя організацыі, цесна ўвязаўшыся з прадпрыемствамі і паасобнымі іх організацыямі: фабзаўкомамі, вытворчымі камісіямі, ударнымі брыгадамі, рабкорамі і інш. Вельмі пажадана і неабходна, каб на фабрыках і заводах былі організаваны спэцыяльныя краязнаўчыя гурткі з найбольш актыўных рабочых — ударнікаў, рабкораў і паасобных спэцыялістаў для распрацоўкі вышэйазначаных актуальных пытаньняў.

Вывучэньне практыкі нашага сучаснага соцыялістычнага прамысловага будаўніцтва — адна з вельмі важных і сур'ёзных задач. „Мы вельмі мала ведаем нашу прамысловасьць, зусім мала вывучаем яе мінулае і сучаснае і гэта зьяўляецца перашкодай для правільнага плянаваньня яе будучага разьвіцьця“ (цырк. ліст старшыні ВСНГ СССР т. Куйбышава і старшыні ЦБК т. Сьмідовіча. „Торг.-пром. газ.“ ад 17/VIII-1929 г.). Задача нашых дасьледчых установаў наогул і краязнаўчых організацый у першую чаргу — неадкладна ўзяцца за дасьледваньне найбольш актуальных задач у прамысловасьці і дапамагчы партыі і савецкай уладзе „дагнаць і перагнаць“ капіталістычныя краіны і хутчэй пабудаваць соцыялізм у нашай краіне.

---

Цішка Гартны.

## Соцыялістычныя высоты.

*(Уражаньні з выстаўкі).*

Шустрая, рэзвая трамвайная адзінка ўпіраецца ў тупік. Кондуктар выгуквае:

— Сходзіць з задняе пляцоўкі, направа.

Направа выстаўка. Яе плошча пачынаецца да астаноўкі трамваю. Яе павільёны прыцягаюць да сябе ўзрокі з-за дробных будынкаў Камароўскай ваколіцы.

Але вось — выстаўка, як на далоні. Вагромная ў 75 гэктараў прастора выставачнага пляцу цягнецца ўправа да лесу, а наперадзе, паднімаючыся ўзвышшам, адгароджваецца жывёлаводнымі будынкамі.

Высокая, нарадная брама аддзяляе пляц ад Барысаўскага тракту. Але і самы тракт на працягу трох кілёмэтраў свайго адгону таксама экспонат. Ён закованы ў клінкэр, у цэмант, у каменьні, і роўнаю стужкаю імчыцца к лесу. Імчыся, бяжы, мы завяртаем у браму.

Перад намі дзьве роўныя, шырокія вуліцы з лёгкіх, прыгожых павільёнаў. Жоўценькі пясок пад нагамі і кветкі, кветкі.

За павільёнамі — выставачныя палі, усе з густымі, урадлівымі расьлінамі.

Гэта жывыя экспонаты.

За імі—высокая башта і адбегшыя ўбакі выставачныя будынкі.
Разьбягаюцца вочы — куды пайсьці ў першую чаргу?
Не, зараз не аглядзець — усёроўна адкуль пачаць.
Выстаўка патрабуе многаразовых наведаў і пільнае ўвагі.
Яна ўмяшчае ў сябе вялікія і багатыя дасягненьні.
Яна дэмонструе посьпехі рабочае клясы на гаспадарчым і культурным фронтах на працягу яго дзесяцігадовае працы.
Яна сьведчыць за нячуваныя ўздымы соцыялістычнага будаўніцтва, якое вядзе комуністычная партыя і савецкая ўлада.
Яна няшчадна б'е клясавага ворага рабочых і бядняцка-серадняцкага сялянства.
Яна дапамінае: кулаку, нэпману, шкодніку, беларускаму контррэволюцыйнаму нацыянал-дэмократу —
Бачце:
Гэта ваша магіла.
Савецкая Беларусь, у цесным братнім саюзе з другімі савецкімі рэспублікамі цьвёрдымі, рашучымі, нячуванымі крокамі набліжаецца да соцыялізму.
І дарэмны ўсе патугі — унутраных і ўнешніх інтэрвэнтаў перашкодзіць гэтаму!..
У паднятых лунаючых сьцягах — рэе нячутны, але жывы і абудны прызыў Ільліча—
Наперад!

———

Налева — павільёны прамысловасьці.
„Дагнаць і перагнаць капіталістычныя краіны ў тэхнічных і экономічных адносінах", агалошвае лёзунг.
Краіна рабочых уверана ідзе па гэтаму шляху.
Павільён — яскравая сьведка.
Вось машыны, якія вырабляе завод Энэргія. Цэлы рад стройных, прыгожых варштатаў, якія нядаўна наяжджалі да нас гасьцямі з заграніцы:
Абутковы варштат.
Такарны варштат.
Сьвярлільны варштат.
Абутковая машына для шкленьня.
Двохпавярховы экстрактар.
Гравi-сартыроўка.
Гэта — вытворчасьць аднаго заводу, які да вайны быў невялікаю кустарнаю майстэрняй.
Побач другі буйнейшы завод, Комунар, з сваімі вырабамі: двух-цыліндравая помпа, ручныя сьвярлільныя станкі, рознакаліберныя ціскі, камнедрабілкі. І гэта ўсё дасягненьні апошніх пяці-шасьці гадоў. Комунар, як і Энэргія, на вочах з маленькае майстэрні вырас у буйное прадпрыемства з лікам рабочых у 1200 чалавек. Завод працягае расьці і разьвівацца, мэханізуючыся і ўдасканальваючы сваю вытворчасьць.
Посьпехі мэталёва-машыннай вытворчасьці працягаюцца посьпехамі скуранога вырабу, прадстаўленага заводам Бальшавік. Продукцыя Бальшавіка займае значнае месца ў павільёне і вызначаецца вялікаю якасьцю і адмысловым выглядам. Тут усе сарты скуры, пачынаючы ад грубае юхтовае выцяжкі і канчаючы тонкім элястычным шаўро. Гатункі шаўра надзвычай багаты і рознастайны і нічым ня ўступаюць заграгічнаму. Адмысловым зьяўляецца і выраб сьвіное скуры.

Пры гэтым Бальшавік вырабляе нават сьвіную падэшву, якая па сваёй носкасьці дужа трывалая. Але ня толькі ў гэтым заключаюцца дасягненьні нашае скуранае прамысловасьці. Іх багацьце папаўняецца яшчэ сваёй выпрацоўкай тых хэмічных экстрактаў і фарбаў, якія патрэбны для скураной прамысловасьці. Гэты род тавараў увесь час імпартаваўся з-за мяжы і ставіў наш скураны выраб у залежнасьць ад капіталістычных краін. Зараз і фарбы і экстракты свае. Вось яны паказаны ў роўным шарэнгу шкляных банак. Іх колер выразна глядзіцца з разьвешаных выробленых скурак, прыцягаючы да сябе пільную ўвагу наведнікаў выстаўкі.

Тым-жа багацьцем вызначаецца і вытворчасьць беларускіх шкляных заводаў. Яна за апошнія часы значна сягнула наперад. Асортымэнт вырабу высокі, якасьць дасканалая. Ня дзіва таму, што шкляная прамысловасьць пасьпешна заваёўвае іншакраёвыя рынкі, выцясьняючы вытворчасьць капіталістычных краін (Малая Азія).

З другога канца прамысловага павільёну дэманструе свае дасягненьні наша папяровая прамысловасьць. Яе рост і разьвіцьцё яскрава сьведчацца прыведзенымі лічбамі. Калі ўзяць папяровую продукцыю ў 1913 годзе за 100% ці ў ліку 18450 тон, то ў 1930 годзе яе тонаж дасягае 43170 тон, ці амаль не на трыста процантаў павялічэньня! К канцу пяцігодкі колькасьць вытворчасьці падымаецца да 65450 тон.

Адпаведна гэтаму вырасла і продукцыя картону. У 1913 годзе яна вызначалася 2580 тонамі, у 1930 годзе — 5775 тонамі, к канцу пяцігодкі — 22300 тонамі! Лік рабочых, заняты ў папяровай прамысловасьці ў бягучым годзе 2930 чал. і мае падняцца к 1933 году да 4177 чалавек. Калі да гэтых лічбаў колькаснага росту дадаць яшчэ рознастайны асортымэнт вырабу, яго палепшаную якасьць — то перад вамі ва ўсёй вялікасьці паўстане дасягнуты посьпех у галіне папяровай прамысловасьці. Яна можа чым пахваліцца!

Насупроць экспонатаў Дабрускай і Шклоўскай папяровых фабрык скромна прымасьцілася невялічкая вітрына з узорамі нітак і тканіны з штучнага шоўку. Пад шклом паказаны ў малюнках процэс яго вырабу. Гэтым будзе займацца магілеўская фабрыка, гордасьць беларускае прамысловасьці, якая мае ў канцы бягучага году распачаць сваю чыннасьць. Фабрыка будзе выраблять штучнага шоўку з хваёвага дрэва па папярэдніх намётках 1200 тон у год. Гэты волат нашай лёгкай прамысловасьці мае ўсесаюзнае значэньне.

Вагромнае значэньне мае зусім новая прамысловасьць па апрацоўцы мінэральнага ўгнаеньня. Гэта справа пачалася некалькі год назад і зараз шпарка пасуваецца наперад. Крычаўскі завод і Клімавіцкі млын заняты перамолам фасфарытаў — давёўшы сваю продукцыю да 16000 тон у бягучым годзе і маючы падняць яе да канца пяцігодкі да 160.000 тон. Здабыча цьвёрдага фасфарыту ў 1930 годзе дала лічбу ў 60.000 тон. Залежы яго каля Бахраўкі вылічаны ў 10 мільёнаў тон! Гэтыя вялікія багацьці выкапняў, якія пойдуць для нашых колгасных і саўгасных палёў, зробяць цэлы пераварот у справе ўзьняцьця ўраджайнасьці. Да фасфарытаў трэба дадаць яшчэ Віцебскія вапнякі, якіх здабыта ў 1930 годзе 30000 тон, хэмічную крэйду, сапрапэль, мазырскі граніт.

Асабліва характэрны „сапрапэль“. Ён залягае па розных мясцох БССР на абшарах у 35 тысяч гэктараў. Шляхам перапрацоўкі гэтая цікавая парода дае: смалу, кокс, попел, парафін, крэозот, гляўбэраву соль, серкавакіслы амоні...

А вось дзе кавалак новаадкрытага мазырскага граніту. Гранітныя залежы злучаюць сабою тэрыторыю БССР з тэрыторыяй УССР.

Такім чынам павільён навочна засьвядчае шпаркі рост нашае соцыялістычнае прамысловасьці, які рашуча зьмяняе нашы ўзаемаадносіны з капіталістычнымі краінамі шляхам вызваленьня ад іх залежнасьці.

Павільён, таксама, выразна паказвае, як Савецкая Беларусь пасьпешна ператвараецца з краіны аграрнай у краіну індустрыяльна-аграрную.

Павільён яскрава дэмонструе вялікія дасягненьні рабочае клясы БССР, дружна і самааддана ажыцьцяўляючай генэральную лінію комуністычнай партыі, свайго правадыра ў барацьбе за комунізм.

---

Пра гэта сьведчыць не адзін павільён прамысловасьці. Насупроціў яго, улева, вы пападаеце ў рад павільёнаў сельскае гаспадаркі. У першым з іх сабраны ўзоры вынікаў досьледаў дасьледчых сельскагаспадарчых станцый. Вось досьледы Турскае станцыі з лугавою травою: на месцы нястраўных дзікіх асотаў — багаты ўраджай дасканалых кармовых траў. Удалымі пучкамі яны глядзяць на вас са сьценак павільёну. Насустрач скуткі досьледаў віцебскае комуны Новы Шлях з вапненасьцю глебы. Тут ужо проста цуды: палі, даваўшыя 80 пуд. з гэктара дробнасаломенага засьмечанага зельлем жыта — пасьля вапнаваньня давялі ўраджай да 250 пудоў на гэктар! І што за жыта — люба паглядзець! Ня меней захапляе ўраджайнасьць траў, даведзеная дасьледчымі станцыямі да 67 цэнтнэраў з га мешанкі (канюшына з цімафееўкай).

А вось процэс культываваньня сыпучых пяскоў. Там, дзе вятры ўздымалі хмары пылу, з першага вопыту дасягнуты збор 2,2 цэнтнэраў жыта з га. Праз два-тры гады ўраджайнасьць дасягае 16,7 цэнтнэраў з га! Некаторыя станцыі давялі ўраджай жыта да 32 цэнтнэраў з га і вагі пшанічнага зярняці 1000 штук у 38,79 грам!

Нельга ня спыніцца на цукровых бураках і бульбе. Цукровыя буракі даюць да 18% цукровасьці, гэткім чынам даводзячы ўраджай цукру на га 55,1 цэнтнэраў. Бульба, якая дае 12% валавога даходу сельскае гаспадаркі, даведзена ўраджаем да 125 цэнтнэраў на га! Усе паказаныя ў павільёне дасьледы праведзены на сваіх парашкох! Фосфарыты, маючыя 17% кіслаты, карналіты, апатыты, вапнякі — раней замежныя — зараз свае. Свае і парашкі супроціў шкоднікаў — тут іх багатая колекцыя з хлорыстага барыя, сераўглерода, формаліна, палісульфіда, кальцыя, тутунёвага экстракту і інш. Ці-ж гэта не яскравая, вагромістая рэволюцыя ў сельскай гаспадарцы, прынесеная краіне Саветаў шляхам пасьпешнага ажыцьцяўленьня генэральнае лініі нашай Ленінскае комуністычнае партыі? Ці-ж гэта ня цуды, якія родзіць сваёй уздымнаю працаю гаспадар краіны, рабочая кляса БССР у цесным саюзе з бядняцка-серадняцкім сялянствам, на чале якога стаіць партыя Леніна?

Усе гэтыя дасягненьні, увесь паказаны вопыт маглі адбыцца толькі ў умовах саўгасна-колгаснага разьвіцьця сельскае гаспадаркі. Гэта кожны пераканаецца, уважліва аглядзеўшы павільён!

---

Ня дзіва, што ён прыцягае да сябе пільную ўвагу вялікае колькасьці наведнікаў выстаўкі. Жыта і пшаніца, буракі і травы, ператвораныя ў ураджайную глебу пяскі і адноўленыя лугі — не даюць ад

сябе адарвацца. Вось грамадка гомельскіх колгасьнікаў: яны зьдзіўлена ківаюць галавамі і хорам прыпяваюць:

— О-о-й-жа! Дзі-ву-тка! Ды каб-жа тое хутчэй да ў наш колгас...

Тлумач спачувальна ўхмыляецца:

— Год, другі і ваш колгас, дзядзькі, будзе паказваць гэткія-ж скуткі вашае працы...

Колгасьнікі вераць у гэта і сваю веру перадаюць адзін другому ў задаволеных озірках...

— Дробная, індывідуальная гаспадарка гэтага не дасягне. Ведайце, таварышы. А колгас — цалкам і поўнасьцю...

Тлумачова ўказка абводзіць ядраныя пукі махрастага вусатага ячменю, гэткай-жа вусатай пшаніцы-яркі.

— Бачыце, колас!

— Аж люба! Фунт з аднаго!..

Жаночыя вочы прыліпаюць да сьцяны і ядуць жоўтыя пучкі высокае, важкае збажыны. Ім ня хочацца пакідаць павільёну.

Але наперадзе многа другіх. З дзьвярэй у дзьверы — павільён паляводства. Восем акруг, ужо разьбітых на раёны сустракаюць наведывача паказчыкамі свае вытворчасьці. Між сьцен, тэрасаю, сотні мяшэчкаў з зярнём. На сьценах пучкі збожжа і травы. На ператочных сьценках параўнальныя табліцы.

Колгасьнікі-гомельчане разводзяць рукамі, мэрам-бы хочучы абняць усё ўгледжанае перад сабою і моцна прыгарнуць да грудзей. „Аграмаджаны сэктар“ — чырвоны радок літар па некалькі разоў перачытвае кожны экскурсант.

Аграмаджаны сэктар з першага ўзроку паказвае буйную перавагу над індывідуальным.

Дзесяць гадоў соцыялістычнага будаўніцтва, якое вядзе комуністычная партыя і савецкая ўлада, перагналі тысячагадовае правяданьне ў умовах старога, прыгоннага ладу...

Вось — на прыкладзе: жыта — у рост чалавека, авёс гоніцца за жытам, веерам раскідаючы буйныя бобкі зярнят. — Пачакай вопытная станцыя! Індывідуальны сэктар пакорліва апускаецца на многа цалей ніжэй. Дробнае, загірсованае жыта, рэдкі, нізкарослы авёс і не трава — а мураўка.

— Паглядзеце на параўнальныя табліцы ўраджаю на адзін гэктар:

Менская акруга:

Колгасы даюць: жыта 8,3, індывідуальныя палі 8,2; аўсу: колгасы 9,1, індывідуальныя — 7,8; бульбы: першыя 104,9, другія — 97,5.

Аршанская акруга:

Жыта: колгасныя палі 8,5, індывідуальныя 7,6; авёс: колгасныя палі 10,1, індывідуальныя 7,9; бульба: першыя 95,1, другія 92,1.

І гэтак у кожнай акрузе, перавышка ўраджаю заўсёды ў аграмаджаным сэктары.

Але гэтыя лічбы толькі папярэднія: скутак першых спробаў, пачатку. Колгасы і саўгасы шпаркім тэмпам павялічваюць сваю ўраджайнасьць. Гэта зразумела ўсім, апроч заклятых ворагаў соцыялістычнага будаўніцтва.

Гомельчане-экскурсанты з задаваленьнем выслухоўваюць тлумача і пацьвярджальна ківаюць голавамі. Іх ужо ніхто не саб'е з абранае дарогі колгасьнікаў. Перавагу колгасаў над індывідуальнаю гаспа-

даркаю яны адчулі на практыцы, і выстаўка ўсяго адбівае жыцьцё, сапраўднасьць.

---

Якава гэта сапраўднасьць — асабліва выразна паказваюць жывёлаводныя павільёны. Іх некалькі ў рад. І заўсюды яны напоўнены гледачамі-экскурсантамі. Ужо пры ўваходзе на выстаўку можна заўважыць на ўзвышшы, каля падвеснага перадатчыка корму, грамадкі наведнікаў. Туды сходзяцца з усіх павільёнаў выстаўкі. Ды таму ня дзіва. І тут ёсьць на вошта паглядзець. Павільён дробнае жывёлы, сьвіней, выключна павучальны. Гадоўля гэткіх экзэмпляраў магчыма толькі ў умовах аграмаджанае гаспадаркі. Адна ў адну белыя тлустыя сьвіньні, як няма лепш, сьведчаць за гэта. Калі селянін-індывідуальнік меў у сябе што падобнае? Ніколі. Гэта ведаюць усе. Проблема жывёлагадоўлі вырашыцца праз організацыю жывёлаводчых саўгасаў і колгасаў. Навочны прыклад. Праца сьвінаводных станцый дэмонструецца на выстаўцы. Яна паказальна і ўплывова. Ад „чэмбэрленаў“, „ганулякˮ, „нінак“—гладкіх, крывалычых харашуноў колгасьнікам-сялянам ня хочацца адыходзіць. Палюбавацца спорным прыплодам падзесяцёрнага (і нават 13 парас.) маладняку, пацікавіцца сотнямі кілёграмаў вагі і запамятаваць, што колгас — выгадавальнік выстаўленага багацьця. Тутака і тлумач не патрэбны.

Можна абыйсьціся без тлумача і ў гавядным „павільёне“. У чатыры рады чырвоныя экспонаты кароў; масьць адна, а парод — да дзесятку: беларуская, мяшаная, нямецкая, швіц, ангельская, палепшаная. Любуйся. І экскурсанты паважна прыглядаюцца да абазначальных дошчачак, чытаюць назвы і запамінаюць вагу, удойнасьць, пароду.

І зноў аграмаджаны сэктар. Бо пры якіх-жа іншых умовах даступны магчымасьці навуковага падыходу да справы жывёлагадоўлі? На індывідуальнай гаспадарцы? Сьмешна. Гэту вочавідную недарэчнасьць бароніць кулак да яго ідэолёг—нацыянал-дэмократычны эканоміст-профэсар, тэорэтык хутароў і дэмократычнае рэспублікі. Гэта аспрэчвае правы ўхілісты, які падхоплівае лёзунг кулака, ачышчаючы яму дарогу для мірнага ўрастаньня ў социялізм.

Ды як-жа не спрачацца кулаку і яго ідэолёгу супроціў таго, што зьнішчае ўсякую падставу для іх эксплёататарскай дзейнасьці, што няшчадна ліквідуе яго, як клясу?

Пяройдам да чарговага павільёну. У ім прадстаўлены быкі з розных саўгасаў і колгасаў. Вось гэты крайні першага раду, вага якога ў 850 кілё, назваю Макс з магілеўскае дзеткомуны. Яго сусед, голяндзец-стракач Грозны ў 940 кілё—ужо далёкі да лятучага голяндца. Яго паказвае саўгас Ружанполь Менскай акругі. І ў рад, некалькі іх таварышоў паважна раздумоўваюць самавітымі лэндлёрдамі.

— Бачыце-э! — тыя-ж гомельцы, што дзівіліся са збажыны ў павільёнах дасьледчых станцый.

— Во-ась га-авя-ада-а! — абводзяць яны пальцамі па радох адборнае, прыгожае гавяды.

— Не раўня нашай мізэры!

— Ясна — не раўня, як нельга параўнаць індывідуальнае гаспадаркі да гаспадаркі колгаснае.

Наведнікі-экскурсанты не рашаюцца выходзіць з памяшканьня... А да іх нясупынна далучаюцца ўсё новыя ды новыя людзі, ажно цесна

робіцца ў праходах. Быкі абводзяць сваіх цікуноў недавернымі ўзрокамі і спакойліва пажоўваюць жвайку.

---

На паўкілёмэтравым адгоне ад жывёлаводных будынкаў красуецца ўдала распляняваны павільён электрычных прыладаў ды сельскагаспадарчых машын. Да павільёну простая дарога і туды не абмінае зайсьці кожны, хто агледзеў жывёлу. Сельска-гаспадарчыя машыны — гэта іншага роду здабытак колектыўнае гаспадаркі. Шырокія прасторныя палі колгасаў прызначаны для вось гэтых рознастайных складаных машын, што імі запоўнены вялікі пакой павільёну. Тут машыны розных фабрык і розных краін. Побач з гомельскаю сіласарэзкаю стаяць замежныя чатырохлямешныя плугі. Але замежныя сельска-гаспадарчыя машыны — выпадковыя. Ужо даўно нашы савецкія заводы перагналі паказаную конструкцыю.

А вось, перад намі ўзоры вытворчасьці украінскіх заводаў. Вагромная чырвоная снасьціна, з добрую сельскую хату — гэта малатарка вырабу заводу Чырвоная Зорка ў Зіноўеўску. Машына намалочвае і насартоўвае ў гадзіну тры тоны збожжа. І кошт яе — толькі дзьве тысячы рублёў. Побач — жатка і снопавязалка. Кошт 480 руб.

Абедзьве машыны пераважаюць па якасьці заграцічныя. А коштам яны многа таней, — паведамляе тлумач.

З вытворчасьцю заводу Чырвоная Зорка знаёмы многія колгасьнікі і тыя, хто наведваў колгасы. І жаткі-снопавязалкі, і малатарні, і дыскавыя бораны, і сеялкі — усе ўжо здалі экзамэн дасканалай працы на колгасных палёх. Толькі-б пабольш іх! Затуліся замежны прадпрыемца — годзе з табою мець справы! Досыць трымаць нас у сваёй залежнасьці! Краіна рабочых і колгаснага сялянства рашуча зьнішчае перакіданыя да цябе масты. Яна шпарка пераходзіць на ўласнае самаабслугоўваньне сваімі тэхнічнымі сродкамі. Яна нагоніць і перагоніць капіталістычныя краіны. Першыя два гады пяцігодкі яскрава сьведчаць аб нячуваных посьпехах у разьвіцьці нашае прамысловасьці, нашага паляводзтва, сьведчаць аб нашых навукова-тэхнічных дасягненьнях. Прыклад з комбайнам. Бач гэтую новую складаную машыну выпускае ўжо савецкі завод у Запарожжы! Гэта ня форды і ня жондэры, а свае, пролетарскія, савецкія харашуны, што ўжо дзесяткамі гуляюць па розных кутках вялікага Саюзу.

— Я бачыў, — апавядае тлумач, як некалькі гэтых волатаў працавалі ў саўгасе Гігант Данецкае акругі. Люба паглядзець! Не нацешыцца!—Дзіва сказалі!—адказвае з густа абвіўшае комбайн сьцяны людзей сівабароды дзядуля: — Во, чаго дачакаліся! — дзівіцца ён і пільна разглядае складаную цікавую машыну.

— І колькі-ж хоцькі яна напрацуе ў дзень?

— Сажне і змалоціць ад 15 да 20 гэктараў!

Тлумач уважліва паказвае, здаецца, зусім просты процэс жнітва і малацьбы, якую праводзіць комбайн. Збажына роўнымі градкамі падхопліваецца жнівярнымі скрыдламі машыны, кладзецца на прасторны рухавы пояс і падаецца ў малатарню, дзе салома адпіхаецца к заду, а зярнё, правеянае ад мякіны, сыплецца ў трубу, а адтуль у падстаўленую пасудзіну... Комбайн мае пры сабе і рэзэрвуар у паўтоны зьмяшчэньнем.

— А як тады, калі збожжа сырое?

Тады жнівярны мэханізм перастаўляецца і зжатая збажына ападае пад машыну, між калёс, дзе роўна і акуратна кладзецца напрост;

падсохшы, яе чыста і акуратна падбіраюць зубцы жнівяркі і поясам адпраўляюць у малатарнае аддзяленьне. Такім чынам...

Тлумача перабіваюць з усіх бакоў запытаньнямі:

— А ў нас, у БССР, ён ужо ўжываецца?

— А ці сам комбайн рухае, ці яго цягне буксыр?

— А колькі ён каштуе?

Адказы тлумача здавальняюць цікаўных, але навіна гэткае складанае машыны, як комбайн, ня можа іх зразу заспакоіць.

— Да чаго людзі дадумаліся!

І ў суцэльным, бліскучым вобразе паўстае перад наведнікамі выстаўкі нячуванае зьявішча вялікае эпохі соцыялістычнага будаўніцтва.

Гэта толькі і магчыма ў умовах дыктатуры пролетарыяту, у вызваленай краіне Саветаў, пад мудрым кіраўніцтвам комуністычнае партыі. Гэта толькі і магчыма там, дзе колектыўная праца мільённай рабочай гушчы мае прад сабою мэтаімкнёнае накіраваньне ў агульных інтарэсах. Разгойданы ўздым працоўнага энтузыязму творыць нябачныя цуды! Стагоднія адгоны праходзяцца часамі, векавыя ўстоі ломяцца буйнымі парывамі соцыялістычнага перартварэньня. Блутаныя, гнілыя тэорыі буржуазных пракокаў падаюць, як пажоўклыя лісьця, і замацованая імі „непрэложнасьць“ соцыяльных законаў рассыпаецца парушынаю ў дынамічнай дзейнасьці рэволюцыйнага ленінізму.

---

Але прагледжанае намі выяўляе сабою яшчэ няпоўны абраз паказаных выстаўкаю дасягненьняў савецкае ўлады на экономічным фронце. Посьпехі прамысловасьці, паляводзтва і жывёлагадоўлі папаўняюцца буйнымі посьпехамі ў нашым унутраным і замежным гандлі. Вось павільёны, якія дэмонструюць наш вываз. У лесбелаўскім павільёне ён пачынаецца з запалак. Тут паказаны ўвесь процэс гэтае вытворчасьці і вітрына тых малюнкаў і памераў нашых славутных запалак, якія застаўляюць буржуазію капіталістычных краін так многа клапаціцца і злавацца на іх. Цэлы шэраг буржуазных краін, пачынаючы ад лімітрофаў і канчаючы гарачаю Афрыкаю, знаёмы з савецкімі запалкамі. Іх міглівыя агенчыкі разносяць па земляной кулі пякучыя іскры полымя пролетарскае рэволюцыі. І сваёю якасьцю і сваёю вартасьцю яны б'юць капіталістычную вытворчасьць, выціскаючы яе з рынкаў. Эх, гэта савецкая запалка! Ці-ж не праз яе ідзе столькі гоману сярод буржуазіі! Ці не ад яе туляцца нямецкія соцыял-фашыстыя і польскія фашыстыя, азіраючыся на швэцкіх каралёў запалкавае прамысловасьці. У вайне з савецкаю запалкаю нажыў сабе ня мала клопату швэцкі капіталісты, запалкавы прадпрыемца Івар Крэйгер. Ён вытрас свае кішэні на займы за запалкавую монополію і буржуазна-соцыялфашыстоўскай Нямеччыне і панскай Польшчы. Яго нахабная рука працягалася і да Савецкага Саюзу — але па ёй моцна ўдарыла савецкая запалка! Прэч! Краіна рабочых абыдзецца бяз панскае ласкі!

Пры запалках — славутная беларуская фанера. Шырокія эластычныя лісты гэтага практычнага ва ўсіх адносінах вырабу распрасьцерліся на сажнёвую вышыню і перакідаюцца ўзрокамі з дубоваю клёпкаю, з дубовымі брускамі і знатнымі мэтровымі ў дыямэтры дубовымі кражамі. Вунь некалькі гэтых волатаў прытуліласся ў кутку заможнымі свахамі. Гэта слаўнейшыя прадстаўнікі лясных багацьцяў Савецкае краіны. Яны знаюць сабе кошт! Ня здарма-ж на гэтыя дубы ўвесь час памыкаецца інтэрвэнісцкая буржуазія нашых суседзяў. І ня здарма-ж на гэтых буда-кашалёўскіх ды васілевіцкіх дубох, як і на брагінскіх

ды менскіх хвоях, прадажніцкая беларуская рада меркавала будаваць фінансавую падставу для свае контр-рэволюцыйнае ўлады! Яна заваблпала лясным багацьцем на Беларусь і нямецкіх окупантаў і Пілсудзкага, яна суліла лясныя багацьці Скарападзкаму і францускім інтэрвэнтам за апякунства і дапамогу ў яе змаганьні з рабочымі і сялянствам БССР, з іх Савецкаю краінаю. Для праступнага гандлю народным лясным багацьцем беларускія белагвардзейцы засноўвалі гандлёвыя палаты, рабілі экономічныя досьледы і пабіраліся адкідамі з окупанцкіх сталоў.

А вось цяпер, во і дубы, і хвоі, асіна і елка вярнуліся да сваіх сапраўдных гаспадароў — рабочае клясы і бядняцка-серадняцкага сялянства. Цяпер аны аддаюць сябе на магутны развой социялістычнага будаўніцтва, якое з нячуваным пасьпехам вядзе партыя Леніна.

---

Павільёны коопэрацыі. У ім багаты асортымэнт іншых экспортных тавараў: грыбы, зьвярыныя скуркі, жывёльны клей, яйкі, воск, ягады, садовіна і лён. Усё ў выглядзе — гатовым да пераезду. Але лён і садовіна — тут, як-бы выпадкам. Яны маюць пад сябе асобныя павільёны, якіх нельга не паглядзець, якімі нельга не пацешыцца. Тым болей, што экспонаты іх, захапляючыя гледача-экскурсанта, павінны сваёй каштоўнасьцю і сваімі багатымі якасьцямі ізноў-жа таму і адзінаму аграмаджанаму сэктару, саўгасам і колгасам. Вось павільён садовіны, гародніны і лекавых траў. Уваходзіш і шаломішся ўнікумнымі ўзорамі фунтовых яблык, летніх антонавак, смуглых цыганак, чырвоных апортаў, бялюткіх папяровак. Сотні розных сартоў, смакаў, росту, выгляду. Табліца выразна адмячае, што ў 1925-26 г. г. плошча пад садамі займала 21168 га, а ў 30 годзе — ужо 30490 га! Валавая продукцыя ад садоў у 30 годзе дасягала вагі ў 127 тысяч тон!

У асяродку жывога яблычнага поясу высіцца вітрына, запоўненая цікавым асортымэнтам выробленага з яблык продукту. Тут і павідла, і жэле, і натуральны сок, і суроп, і мармэляда!.. А недалёка паказная майстэрня, дзе вы можаце бачыць, як садовіна перарабляецца ў дужа прыемныя і смачныя далікатэсы. Глядзіш і радуешся, якія магчымасьці адчыняюцца перад гэтага роду прамысловасьцю!

Ну, мы забеглі наперад, ня скончыўшы аглядаць садова-гароднага павільёну. Аддзел гародніны і лекавых зёлак дасьць вочка фруктовому аддзелу. Глядзеце і дзівецеся: вось вам мар'іна-горская дыня. Праўда, яна ня гэткая салодкая, як яе украінская сястра, усё-ж стараецца не адстаць. Побач 28 гатункаў цыбулі! А тыквы гароду колгасу Чырвоны Гароднік — 48 кілё вагою! А шклоўскія гуркі-доўжыкі да кілё вагою, а як падняць — кабачкі, бручка, капуста, кармовыя буракі? Узрокі ня ў моцы спыніцца, абягаючы цуды вытворчасьці адноўленай колектыўнай працаю зямлі!

Вызваленая з-пад капіталістычнай эксплёатацыі, стаўшы здабыткам мільёнаў працоўных — гэтая зямля адкрывае ім свае нявычарпаныя скарбы. Дзесяць год таму, як лепшая частка яе, захопленая абшарнікамі, пладзіла зграю дармаедаў, а вагромныя прасторы сялянскіх ніў не высыхалі ад сьлёз, недастачаў і нэндзы. Рабочая кляса, колгасьнікі і бядняцка-серадняцкае сялянства, ажыцьцяўляючы генэральную лінію комуністычнай партыі, выкрываюць вагромністыя багацьці свае зямлі, ператвараюць яе ў падваліну социялізму.

Асабліва цікаўна справа культываваньня лекавых расьлін. Відавочна, што і яны могуць расьці ў нашых умовах і пры гэтым папаўняць

наш экспорт. Мальва, рамонак, валяр'яна, мята. Кожная з гэтых расьлін дае свой асобны продукт. З мальвы, да прыкладу, здабываецца так празываная шток-роза, якая ідзе на падфарбоўку він, як бясшкодная, і на афарбоўку шоўку. Этэрна дае лекавы алей. Экспонаты і шток-розы і алею тут-жа, на воку. Але цікавей тое, што пры павільёне на дасьледчым выставачным полі вы можаце бачыць жывымі мальву, этэрну, валяр'яну і іншыя травы, паказаныя на выстаўцы ў павільёне новых расьлін.

І садовіна і гародніна складаюць вялікую лічбу ў нашым экспорце. Аднае цыбулі вывозіцца за межы да 4 мільёнаў пудоў!..

---

Але пяройдзем да агляду павільёну тэхнічных культур. Гэты павільён наводдаль ад іншых, але не пабыць у ім — проста грэх. Бач, лёнаводзтва займае досыць паважнае месца ў нашай сельскай гаспадарцы. За апошніх два-тры гады заснавана многа вялікіх ільнярскіх саўгасаў. Па засеву плошчы ільну БССР займае шостае месца ў сьвеце, а па валакну — другое! У павільёне паказана ўраджайнасьць ільну ў колектыўных і саўгасных гаспадарках і параўнальна ў гаспадарках індывідуальных. Зьлічвайце! Вось арцель імя Молатава ў Магілеўшчыне. Лён дае 6,3 цэнтнэраў валакна на га засеву. А насупраць лён з індывідуальнае гаспадаркі паказвае толькі 3, — 3,5 цэнтнэра. Комуна Вінчэўскага на Віцебшчыне вырошчвае лён з гэктара засеву 6,2 цэнтнэра валакна, а віцебскія аднаасобныя гаспадаркі ледзьве дацягваюць ураджай да 4 цэнтнэраў. І так усюды, па ўсіх раёнах — колгасна-саўгасны лён на многа пераганяе ўраджаем лён індывідуальных гаспадарак. Ды справа ня толькі ў адным ураджаі — лён аграмаджанага сэктару і па якасьці сваёй шмат ляпейшы за лён паасобнікаў. Рост, мяккасьць, тонкасьць ніткі, вага — усё гэта ўжыўна колгаснаму лёну. Ды ці трэба аб гэтым спрачацца — во, глядзеце, усё перад вашымі вачыма ў наяўнасьці багатых экспонатаў павільёну.

Тое самае зьявішча і ў справе культуры канапель. На выставачным полі вы бачыце каноплі ў сажань з лішнім росту, тоўстакомлевыя, важкія па зернятах. Адмысловыя каноплі дастаўлялі на выстаўку паасобныя колгасы. Каноплі колгасу Чырвоны Араты былое Віцебскае акругі даюць ачко славутным італьянскім каноплям; колгасныя вышэй і таўсьцей яе, а знача і багацей валакном.

У аддзеле канапель паказаны досьледы з імі на балотных глебах. І што-ж вы думаеце — ураджай даходзіць да 8,5 цэнтнэраў на га! А калі ўзяць на ўвагу агромістую прастору забалочанай глебы, прыкладна, да 2,600 тысяч г, то можна ўявіць сабе, якую будучыню адкрывае для соцыялістычнае гаспадаркі культываваньне канапель на забалочанай глебе!

У павільёне вобразна прадстаўлена разьвіцьцё снасьцін для апрацоўкі ільну. Ад грубых, прымітыўных церніц самадзяржаўнае пары да выробленай нашымі заводамі мэханічнай складанай машыны!

Рознастайныя вырабы з ільну і канапель папаўняюць агульную карціну нашага ільнярскага багацьця.

Пакідаючы павільён тэхнічных культур, нельга не адмеціць паасобных двух яго экспонатаў. Першы — гэта прысланая палойка мяккага шаўкавістага ільну сялянкаю Аўдоцяю Жылінскаю, які яна хавала, як памяць ад мацяры, ажно з 1868 году! І другі — гэта саматканая посьцілка прыгожага ўзору з вытканым савецкім гэрбам, лі-

тарамі БССР і лёзунгам „Пролетарии всех стран, соединяйтесь!“ работы сялянкі Круглянскага раёну Нізок.

Неадлучнымі ад посьпехаў савецкае ўлады ў галіне матар‘яльнай культуры зьяўляюцца яе посьпехі і ў галіне культуры „духоўнай“. Рад павільёнаў адлюстроўваюць гэта багацьцем выстаўленых экспонатаў. Цікавейшы за іншых бязумоўна, павільён Белдзяржвыдавецтва. У ім выразна адбіты агромністыя ўздымы культурнага будаўніцтва рабочых гушчаў Савецкае Беларусі ў галіне друку. Зусім нядаўна, тыя-ж дзесяць гадоў назад, як выдавецкую справу ў Беларусі прадстаўлялі сабою мізэрныя, гнюсавыя, рэдкія брошуркі царкоўных брацтваў і саюзаў Міхаіла Архангела. Ад гэтых брошур дыхала гнільлю струхлелых машчэй і смуродам загнілага самадзяржаўя.

„Борьба за святое православие“.

„Слова православной правды“.

„Пятилетие религиозно-нравственных чтений“.

„Торжество православия“.

Гэткімі пэрламі надаралі губарнатарскія і архірэйскія выдавецтвы шырокія гушчы працоўных Беларусі. Гэткімі атрутлівымі сродкамі напаўняліся школьныя бібліотэкі. І вельмі трапна над гэтай брыдою пастаўлена фігура бравага аўтомата-гарадавіка, які найлепш сымболізуе сутнасьць самадзяржаўнае сыстэмы асьветы. Гарадавік у аднэй руцэ з нагайкаю, а ў другой з пагромнаю брошураю — вось дастойны помнік крываваму самадзяржаўнаму мінуламу...

Кастрычнікавая рэволюцыя рашуча і канчаткова зьнішчыла ўсю спадчыну крывавага самаўладзтва. Магутны ўздым рабочае клясы пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі разбурыў таксама патугі буржуазіі і нацыянал-дэмократычных вандэйцаў замяніць самаўладзтва цара і губарнатараў — уладаю памешчыцкай і капіталістычнай буржуазіі праз эсэраўскія ўчрадзілкі і нацыяналістычна-контррэволюцыйныя рады. Ленінская нацыянальная політыка комуністычнай партыі дала магутны штуршок разьвіцьцю і будаўніцтву нацыянальнай пролетарскай культуры. Ліквідацыя няпісьменнасьці, організацыя вышэйшых навучальных устаноў, нараджэньне беларускае пролетарскае літаратуры, актывізацыя рабочых гушчаў вакол бягучых пытаньняў соцыялістычнага будаўніцтва пацягнула за сабою буйны ўзрост друкарскае продукцыі. Абыходзячы колам выдавецкага павільёну, бачыш, якімі нячуванымі тэмпамі павялічвалася выданьне беларускай масавай літаратуры, школьнай, мастацкай, навуковай, ленінскай. Выпуск тому выбраных твораў Леніна болей усяго характарызуе посьпехі ў галіне выдавецкай справы, аб‘ёмам свае продукцыі яна дасягае ажно чатырохмільённай сумы за 1927—1930 г. г.! Гэтыя агромністыя заваёвы комуністычнае партыі і савецкае ўлады на культурным фронце цалкам і поўнасьцю абавязаны той адзінай у сьвеце нацыянальнай політыцы, якую рашуча і пасьпяхова праводзіць комуністычная партыя. Культурнае будаўніцтва, як надбудова экономічна-прамысловага разьвіцьця, адыгрывае вельмі значную ролю ў агульным соцыялістычным будаўніцтве. І ня дзіва таму, што на гэты вучастак быў накіраваў сваю атаку беларускі контррэволюцыйны нацыянал-дэмократызм. Карыстаючыся падатлівасьцю раду адпаведных таварышоў, адыгрываючыся на іх давер‘і і выкарыстоўваючы недахоп маладых марксыцкіх кадраў, беларускі нацыянал-дэмократызм шырокаю струёю прасачыўся ў беларускую школьную, мастацкую і навуковую літаратуру.

Абвостраньне клясавае барацьбы ў скутку рашучага наступленьня на капіталістычныя элемэнты вёскі і гораду, рэконструкцыя сельскае гаспадаркі на падставе суцэльнай колектывізацыі і ліквідацыі кулацтва, як клясы, актывізавала ўсіх ворагаў краіны саветаў. Беларуская контррэволюцыйная нацыянал-дэмократыя, як ідэолёг кулацтва і саюзьнік інтэрвэнтаў, выпаўняе волю сваіх клясавых патронаў у змаганьні супроціў рабочае справы, супроціў пераможнага подступу да комунізму.

Але яе намеры і патугі разьляцеліся ў шчэпы. Фронт культурнага будаўніцтва будзе поўнасьцю ачышчаны ад агентаў клясавага ворага і шчыльна ўключыцца ў суцэльную лінію магутнага, развойнага соцыялістычнага будаўніцтва...

---

„Няхай жыве беларуская пролетарская культура!“

Гэтым лёзунгам убраны другі павільён культурных дасягненьняў. У гэтым павільёне цэлы рад устаноў дэмонструюць свае заваёвы. Тут разьмешчаны куток землекарыстаньня, некалькі пакояў колектывізацыі, тры пакоі Беларускае Акадэміі Навук, Наркамасьветы і Музэю рэволюцыі.

Багатая колекцыя дыяграм і рознастайных картаў кутку землекарыстаньня ўсебакова выяўляе сабою той грандыёзны ўзрух у вёсцы, які ўнясла ў яе перабудова сельскае гаспадаркі на падставах колектывізацыі. Вось мясьціна лугавое гаспадаркі. На залёным полі растыканы буйныя плямкі жоўтае фарбы — гэта кулацкія сенакосы. Сярод іх дробнымі чырвонымі крапінкамі — бядняцкія. Тут-жа, пры боку, шырокія, разгорнутыя прасторы колектыўных лугоў.

Насупроціў — карты збожжавых палеткаў. Доўгія, вузкія стужачкі ва ўсе бакі -- гэта індывідуальная форма, і роўныя, разгоністыя нівы — гэта колгасныя палі.

Рознаколерныя слупкі дыяграм адмячаюць падзел зямлі на індывідуальны, колектыўны і дзяржаўны сэктары. 1928 год і год 1930. Чырвоны слупок колгаснага сэктару ў 1930 годзе ў дзесяць раз перарос гэткі слупок 1928 г. Колектывы дасягнулі чатырнаццаці процантаў гаспадарак. Вырасьлі і слупкі, што адзначаюць саўгасныя гаспадаркі. І ўсё ніжай ды ніжай апускаюцца слупкі індывідуальнага сэктару.

Цікавыя даныя надзяленьня працоўных яўрэяў зямлёю. Да рэволюцыі яўрэйская насельнасьць мела 11.400 га на 1910 сем'яў. У 1925 годзе зямельны фонд працоўнага яўрэйства падняўся да 3.739 індыв. гаспадарак з колькасьцю зямлі ў 14.720 га і 42 яўрэйскіх комуны мелі ў сябе 5.117 га! На працягу 1925 году сярод яўрэйскага земляробскага насельніцтва наглядаецца вялікі ўздым колгаснага будаўніцтва. І ў 1926 годзе налічваецца 118 яўрэйскіх колгасаў з лікам 1.000 сямей і з зямельным фондам у 14.688 га. Наступны год гэту лічбу павялічвае заўважна цішэй.

Яшчэ паўней паказаны гэты гістарычны процэс у аддзеле колектывізацыі...

Акадэмічны павільён добра адбівае ў сабе багацьце парод беларускае глебы. Колекцыя мінэраляў расстаўлена ўсьцяж дзьвюх сьценак павільёну і ўпіраецца ў прадоўжныя скрынкі геолёгічных напластаваньняў. Самавіцей і цікаўней другіх—гэта прадстаўнік выміраючых—бабёр. Яго ламачкавая хата прыцягае да сябе найбольшую ўвагу наведнікаў павільёну...

І на працы Акадэміі адбіўся шкодніцкі ўплыў беларускага нацыянал-дэмократызму. Ён доўгі час паралюшаваў разьвіцьцё акадэмічнае чыннасьці ў бок яе шчыльнага набліжэньня да социялістычнага будаўніцтва, у бок яе пераходу на службу рабочай клясе. Замыкаючыся ў вузкі, абмежаваны акадэмізм, нацыянал-дэмократы абвярталі яго на служэньне сваім контррэволюцыйным мэтам. У наступным Акадэмія павінна рашуча залатаць гэты свой прарыў, уключыўшы сябе ў зьвяно будаўнікоў пролетарскае, марксыцкае навукі і карысных для пабудовы соцыялізму навуковых досьледаў. Яна не павінна служыць бэстам рэакцыйных, шкодніцкіх элемэнтаў.

З акадэмічным аддзелам мяжуе цікавы аддзел Наркамасьветы. Ён складаецца з кутка бязбожніка, кутка профэсыянальнае асьветы, кутка дашкольнае асьветы. Экспонаты профэсыянальных школ выразна засьвядчаюць шпаркае і пасьпяховае разьвіцьцё гэтае галіны асьветы. Дыяграмы малююць агромністыя поступы ніжэйшае, сярэдняе і вышэйшае адукацыі. Ад 60 процантаў няпісьменнага вясковага насельніцтва — да ўсеагульнага абавязковага навучаньня! Ад цёмнае, пахіленае вясковае школы да сьветлых і прасторных будынкаў! Які грандыёзны размах! І дашкольнае выхаваньне прынесла Кастрычнікавая рэволюцыя. Дзіцячыя дамы, прытулкі, ясьлі густою сеткаю абвілі Савецкую краіну. З шасьці-сямі гадоў дзіця ўступае на шлях грамадзкага жыцьця, стыкаецца з колектыўнымі формамі быту. Ні гісторыя, ні сьвет ня бачылі дагэтуль тае вялікае адданае ўвагі, якую накіроўвае пролетарская дзяржава справе выхаваньня маладога пакаленьня. На гісторыі асьветы БССР можна ўгледзець тыя нячуваныя заваёвы, якія прынёс і разгартае далей Вялікі Кастрычнік.

Тут-жа, з боку наркамасьветнага аддзелу павільёну, знаходзіцца пакой Музэю рэволюцыі. У ім прадстаўлена ў жывых, яркіх і багатых фарбах гісторыя Кастрычніка на Беларусі, ад якога пачынаецца шлях новага жыцьця.

Гісторыя Кастрычніка на Беларусі багата вялікімі пэрыпэтыямі мужнага змаганьня рабочае клясы на чале з комуністычнай партыяй за сваё вызваленьне. Гэтае згаманьне цесна зьвязана з агульнарасійскім соцыялістычным і рэволюцыйным рухам рабочых і заходзіць далёка ў гісторыю. Цэлы рад бліскучых перамог адбівае на сваіх старонках барацьба рабочых Беларусі пад сьцягам соцыял-дэмократычнае партыі бальшавікоў. З 90 гадоў закладаліся яе організацыі на Беларусі, вядучы рабочыя масы ў барацьбе з самадзяржаўем і буржуазіяй да подступаў Кастрычніка. Гэтыя подступы былі забраны ў 1917 годзе ў Беларусі адначасна, як і ва ўсёй Расіі. Але ўмовы прыфронтавай паласы, якія дазвалялі пад аховаю нямецкіх штыхоў гуртавацца контррэволюцыйным сілам, адцягнулі на нейкі час запанаваньне Кастрычніка на Беларусі.

З лютага 1918 году пачалася нямецкая окупацыя. З благаслаўленьня окупантаў павяла сваю контррэволюцыйную працу беларуская буржуазія. Агнём і мячом пайшло зьнішчэньне заваёў Кастрычнікавай рэволюцыі. Расстрэлы рабочых і пажары вёсак запаўнялі штодзённую хроніку крывавага окупанцкі-белагвардзейскага рэжыму. І гэты рэжым цягнуўся ажно да лістапада 1918 г., калі бурлівы ўздым рэволюцыйнай хвалі парваў ланцугі окупанцкага прыгону і вярнуў Беларусь Савецкай фэдэрацыі.

Першы зьезд комуністычнай партыі Беларусі ў сьнежні месяцы 1918 г. абвясьціў Беларусь Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікай. Але

наступ белапалякаў вымусіў яшчэ на год прыпыніць пачатае з канца 1918 г. савецкае будаўніцтва БССР. Над ёю ізноў павісла цяжкая рука на гэты раз белапольскага окупанта, які вярнуў на Беларусь сярэдневяковыя жахі. БССР абярнулася ў арэну нячуваных зьверстваў, гвалту і крывавых распраў. Між тым беларускія белагвардзейцы з прывітаньнем сустракалі гэтых „выбавіцеляў беларускага народу". Аддаўшы сябе ў паслугу панскім гвалтоўнікам, яны сваёю прадажніцкаю дзейнасьцю дапамагалі нішчыць заваёвы рабочых мас Беларусі, дапамагалі разбураць захопленую савецкую краіну. Праз адноўленыя контррэволюцыйныя організацыі (нацыянальны камітэт, вайсковую камісію), праз аплачваны окупантамі друк беларуская радаўшчына выпаўняла волю і заданьне белапольскіх окупантаў у справе адарваньня БССР ад Савецкага Саюзу. Організуючы белую армію, яна накіроўвала яе на фронт супроціў рабоча-сялянскае чырвонае арміі, якая ішла на дапамогу рабочым Беларусі ў іх барацьбе за сваё вызваленьне, за ўзварот на Беларусь вялікага Кастрычніка.

У выставачным аддзеле Музэю рэволюцыі вобразна паказана разьвіцьцё рэволюцыйных падзей, пачынаючы з імпэрыялістычнае вайны. У многалікіх здымках, у газэтах і адозвах, у портрэтах і докумэнтах паўстае перад вамі бурлівая эпоха апошніх пятнаццаці гадоў.

Вось чорнасотніцка-патрыётычныя маніфэстацыі за ўдзел самадзяржаўнае Расіі ў вайне. Вунь сасланыя на катаргу члены бальшавіцкай фракцыі IV Думы. Крывавая авантура самадзяржаўя не павінна быць разьдзета перад працоўнымі гушчамі! Хто гэта пасьмее рабіць — таму катарга. Але ні катарга, ні расстрэлы не затрымалі абурэньня рабочых і салдацкіх мас, якія адплацілі самадзяржаўю за векавы прыгон пераможнаю рэволюцыяй.

Лютаўская рэволюцыя адбіваецца ў аддзеле багатай колекцыяй фотографій, портрэтаў, друкаваных докумэнтаў. Перад вамі паседжаньне часовага буржуазнага ўраду і побач—засяданьне Пецярбускага Савету рабочых і салдацкіх дэпутатаў, красавікаўскае выступленьне рэволюцыйнай часткі пецярбурскага гарнізону супроціў зрадніцкай політыкі Мілюкова і магутная першамайская маніфэстацыя 1917 г.

Вось першыя нумары цэнтральнага органу нашай комуністычнай партыі „Правды", тут-жа меншавіцкія „Известия петербургского совета рабочих и солдатских депутатов"... Рэльефна выдзяляецца цікавы здымак групы бальшавікоў — членаў выканаўчага камітэту СР Дэпутатаў; сярод іх таварышы Сталін, Молатаў, Красікаў, Казлоўскі і інш. Побач зафіксаваны рад момантаў з семнаццатага году на Беларусі. Цікавейшыя гэта: вядомы фронтавы зьезд у Менску 7 красавіка, на якім было нанесана паражэньне буржуазнай партыі кадэтаў і часоваму ўраду; ячэйка бальшавікоў 32 тылавога эвакуацыйнага пункту; т. Фрунзэ ў якасьці начальніка менскай міліцыі і інш.

Кастрычнікавая рэволюцыя прадстаўлена здымкамі атрадаў чырвонае гвардыі, пасяджэньнем мірнае нарады ў Бярэсьці, багатай колекцыяй адозваў, пастаноў, комуністычных газэт. Асабліва цікаўна паказана праламленьне Кастрычніка на Беларусі. Вось адозвы абласнога камітэту комуністычнае партыі да насельніцтва Беларусі; загад аб разгоне беларускага контррэволюцыйнага конгрэсу; група бальшавікоў-падпольшчыкаў; нумары газэт „Зьвязда", „Камуніст", нямецкае газэты „Чырвоны Салдат", нелегальныя лістоўкі і адозвы. Ніжэй пад гэтым докумэнты аб контррэволюцыі на Беларусі. Яны пачынаюцца ўваходам нямецкага войска ў Менск. Далей ідуць адозвы і паста-

новы рады контррэволюцыйных усебеларускага зьезду і радаўскага ўраду. Апошні таксама ня мінуў прадстаць перад гісторыяй у жалкіх постацях сваіх членаў. Групавы здымак гэтых „герояў“ глядзіць на вас сумнаю плямаю з цёмнага нябыцьця. Рэволюцыя няшчадна растаптала гэтых нікчэмных паўзуноў, хоць прынесеную імі шкоду прыходзілася доўга зжываць. І вось беларуская нацыянал-дэмократыя асьмелілася яшчэ дагэтуль працягаць працу гэтае контррэволюцыйнае нечысьці! Праўда яна бліскуча здала паўторны экзамен на гэта пры белапольскай окупацыі. Гэтая, адначасна жахлівая героічная эпоха ў жыцьці Савецкае Беларусі вельмі поўна адбіта Музэем рэволюцыі. Вобразы нячуваных зьверстваў і крывавых распраў драпежнай польскай буржуазіі з дапамогай беларускай белагвардзейшчыны не забудуцца надоўга; яны будуць будзіць і ўздымаць да клясавай помсты да тых часоў, пакуль апошняя не паложыць канца панаваньню буржуазіі...

Вось судовы процэс і крывавая расправа над дукорскімі партызанамі; вунь расстрэлы мазырскіх сялян; тут-жа дзікія зьдзекі з чырвонаармейцаў пад Рэчыцай і дзесяткі здымкаў з пагромных разбурэньняў і пажараў Менску, Слуцку, Барысаву і дзесяткаў мястэчак і вёсак.

І з якім натхненьнем далей вы ўглядаецеся ў адбіткі тых героічных момантаў, якія зьвязаны з пераможным наступам Чырвонае арміі, з вызваленьнем БССР ад белапольскай окупацыі, з пераходам яе на мірнае будаўніцтва!

Празрыстаю бліскавіцаю праходзяць непазбыўныя моманты мужнага змаганьня за вялікі Кастрычнік на Беларусі! Адзін малюнак за другім: наступ чырвонае кавалерыі на белапольскія банды, адпраўка пяхоты на польскі фронт, т. Мясьнікоў на позыцыях, камандуючы фронтам т. Тухачэўскі на фронце, пасяджэньне рэволюцыйнага савету фронту і беларускі рэволюцыйны камітэт!

Перамога Кастрычніка!

Сьледам шэраг гадоў уздымнага соцыялістычнага будаўніцтва, пасьпешнага набліжэньня да комунізму...

——

Выстаўка выразна і поўна адбівае гэта сваім багатым зьместам, сваёю дасканалаю клясыфікацыяй і падборам экспонатаў з усіх галін народнае гаспадаркі БССР. Выстаўка сьведчыць жывымі прыкладамі, наяўнасьцю фактаў аб тых агромністых посьпехах, якіх дасяглі рабочая кляса і бядняцка-сераднякцкае сялянства БССР на чале з комуністычнаю партыяй бальшавікоў Беларусі. Дзесятак гадоў пролетарскае дыктатуры пакрываюць сотні гадоў жыцьця і працы пры іншых умовах.

Выстаўка заўражае магутнае ператварэньне адсталай заняпаднай краіны ў квітучую цытадэль соцыялістычнага будаўніцтва. Яна выяўляе гіганцкія плёны ўздымнай колектыўнай працы рабочых і бядняцка-серадняцкіх сялянскіх мас для ўзмацненьня соцыялістычнага базысу пролетарскае краіны. Выстаўка навучае і кліча да новых непаслабных тэмпаў у нашай барацьбе за комунізм.

У гэтым нязьмернае значэньне выстаўкі, яе вялікая прыцягальнасьць да сябе, яе популярнасьць сярод шырокай партыйнай, рабочай, колгасьніцкай грамадзкасьці.

Цікавасьць і захапленьне выстаўкаю ніколькі не памяншаецца, ня гледзячы на паўтарамесячнае яе функцыянаваньне. Наплыў наведні-

каў-экскурсантаў ня меншыцца, і ўзмоцнены рух трамвайнае адзінкі нясупынна дастаўляе поўныя вагоны людзей.

Да дзесятага верасьня выстаўку наведала (па даных галоўвыстаўкому) 37.000 сялян, з якіх: 35% колгасьнікаў, 25% аднаасобнікаў і 40% сельгаслесработнікаў. Двайную лічбу наведнікаў даў Менск. Другая дэкада верасьня значна павялічыла абедзьве гэтыя лічбы. Гэта выразна кажа за тое, што выстаўка павінна быць адкрытай звыш намечанага тэрміну. Яе выхаваўчая, інструктуючая, пазыўная роля ярка адбіваецца ў тых многалікіх запісах, якія пакідаюць па сабе рабочыя экскурсанты, колгасьнікі, бедзякі і серадзякі сяляне.

Вось некалькі характарных водзываў з тысячаў іншых. Экскурсант фабрыкі імя К. Маркса т. Г. Марчэнка кажа: „Выстаўка ня толькі паказвае нашы дасягненьні, але і інструктуе для далейшай работы. Такое інструктаваньне, пабыўшы на выстаўцы, атрымалі і мы“. Бядняк-селянін Манько запісвае: „Мы, сяляне, на ўсебеларускай выстаўцы ўбачылі сапраўдную аднолькавую зацікаўленасьць як рабочых, гэтак і працоўных сялян, у справе перабудовы краіны; убачылі, што толькі самыя буйныя формы землекарыстаньня выведуць нас з бядоты. Выстаўка дае шмат карысьці, шмат чаму навучае, дае магчымасьць уявіць селяніну будучыню“. Колгасьнік м-ка Вузды з калгасу „Інтэрнацыянал“ т. Марголін засьвядчае: „Я прышоў да выніку, што выстаўка зьяўляецца самым лепшым агітатарам за колектывізацыю“. Лепельскі бядняк селянін т. Юркевіч дадае: „Нам, сялянам, выстаўка дае шмат відавочнага. У колгасах жыць нам, бедняком, лепш будзе“. Група экскурсантаў жыліцкай школы саўгасу Вуча Бабруйскага раёну зазначае: „Мы рухаемся наперад да соцыялізму. Мы разгарнулі соцыялістычнае наступленьне па ўсяму фронту. Выстаўка адбівае гэты шлях. Яна лепш, як хто, можа даказаць панікёрам, правым ухілістым важнасьць генэральнай лініі партыі“. Колгасьнік т. Башкіраў заяўляе: „Ад экскурсантаў Лупалаўскага раёну Кароўчынскага сельсавету пасылаем прывітаньне комуністычнай партыі за яе дасягненьні на 13 годзе рэволюцыі і пажадаем ёй правесьці пасьпяхова пяцігодку па ўсяму СССР. Пажадаем нашай комуністычнай партыі быць моцным і нясупынным барацьбітом за нашае соцыялістычнае будаўніцтва, каб даць адпор таму, хто імкнецца перашкодзіць нам правесьці рэконструкцыю сельскае гаспадаркі“.

З гэткімі думкамі пакідаюць выстаўку дзесяткі тысяч яе наведнікаў. І толькі выяўны вораг соцыялістычнага будаўніцтва, адкрыты і прыхаваны контррэволюцыянэр, той, хто бачыць сваю гібель у ажыцьцяўленьні генэральнае лініі комуністычнае партыі — адзавецца аб выстаўцы адмоўна. Ды зразумела чаму: выстаўка хавае пад сабою апошнія іх надзеі на ўзварот мінулага.

---

Яшчэ хочацца раз прайсьціся па раскінутых дасьледчых палёх выстаўкі. Хочацца паўторна слухаць апавяданьні яе радавых арганізатараў, зацяжна, з натхненьнем апавядаючых аб цудах узросту нашае прамысловасьці, вызваляючай нас ад капіталістычнай залежнасьці, аб ператварэньні пяшчаных зямель у плённыя ўрадлівыя нівы. „Яшчэ толькі вясною тут высечана дваццаць пяць тысяч пнёў, — кажа адзін з членаў дырэкцыі, т. Кіпрыянец, — а цяпер — паглядзець, якое было жыта! А каноплі ростам у тры мэтры, а цукровыя буракі, а лекавыя зёлкі, капуста, сланечнік, тыква, лён. Усё гэта на пяшчанай цаліне“. Тав. Кіпрыянец вялікі прыхільнік садаводзтва. Вось ён з зацягненьнем

тлумачыць паказнае выращчэньне садовых дрэў. Перш дробныя дзічкі, пры боку ў рост чалавека гадавалыя шчэпы; далей двухгадоўкі з пяцьма тоўстымі ралкамі, а за імі — роўна рассаджаны садок. Як проста і стала! Як цікава і прыемна!

І хоць ноч на дварэ — выстаўкі ня хочацца пакідаць. Яна трымае вас у сваім цёплым абдыме, варушыць думкі і ўздымае палкія імкненьні да няспыннай працы на карысьць пролетарскай соцыялістычнай краіны. Яшчэ крыху палюбавацца яе вячэрнім выглядам: паглядзець на пераліві рознаколерных агнёў, на выбліскі зазыўных лёзунгаў. І перанесьціся думкамі ў праменьнях прожэктарнай вежы туды, на захад, за межы, дзе голасна прагукаць: мы заняты мірным будаўніцтвам; мы пасьпешна, нячуванымі тэмпамі разьвіваем сваю гаспадарку — і той, хто задумае гэтаму паперашкодзіць, сустрэне наш рашучы, зьніштажаючы адпор...

Але сярэбраны званок трамваю кліча да ад‘езду. Дзесятая гадзіна. Гомельчане-колгасьнікі накіроўваюць да выйсьця. Заўтра паўтарэньне агляду.

---

Рэмізаў.

# Фэнолёгічны агляд па БССР за 1929 год.

Нязначны лік фэнолёгічных наглядваньняў 1929 году не дае магчымасьці зрабіць пэўныя вывады аб сярэдніх для вэгетацыйных пэрыодаў пасьпяваньня культур і інш., але ўсё-ж на падставе атрыманых ЦБК вестак можна прасачыць веснавы рух у прыродзе; цяжэй зрабіць характарыстыку лета і яшчэ менш даных для вызначэньня ходу асеньніх зьяў. Аднак, у гэтым годзе можна атрымаць некаторае ўяўленьне аб фэноаномаліях, дзякуючы атрыманьню аўтарам гэтага агляду шэрагу фэнолёгічных наглядаваньняў ад гр. Т. Я. Галавацкай, якая праводзіць нясупынныя наглядаваньні ў в. Лазаравічах Быхаўскага раёну з 1895 году. (Гл. артыкул. М. Сьмірнова „Асноўныя элемэнты біоклімату Беларусі“. „Наш Край“ № 3—1928 г.).

З прычыны працяжнай і лютай зімы 1928-1929 году веснавы фэнолёгічны рух у БССР, асабліва з пачатку, быў досыць дэпрэсыўны; затым гэтая дэпрэсія паступова зьмяншаецца і ў канцы вясны зусім зьнікае. Ніжэйпаданыя фэноаномаліі выведзены з 25—30-гадовых наглядаваньняў для Лазаравіч і з 5-гадовых—для Менску.

Веснавыя фэноаномаліі 1929 г.:

| | сакавік | красавік | май |
|---|---|---|---|
| Лазаравічы . . . . . | 9 | 6 | 1 |
| Менск . . . . . . | 5 | — | 2 |

Лютая зіма, асабліва месяц люты, пашкодзілі пладовыя дрэвы ў аколіцах Менску. Ёсьць такія сады, дзе да 30% дрэў загінула, а 10—15% загінуўшых дрэў можна знайсьці ў кожным пладовым садзе. Часткова пашкоджаны марозамі 50—60% пладовых дрэў, асаб-

ліва ігруш. На жаль, вестак аб выніках лютай зімы з іншых месц БССР у ЦБК не атрымана.

Першыя гракі (Tripanacorax frugiledus), а таксама масавы іх прылёт наглядаліся амаль па ўсёй БССР у другой дэкадзе сакавіка, толькі ў Азарычах (Мазыршчына) першых гракоў наглядалі 3 сакавіка. У параўнаньні з папярэднім годам гэтая зьява значна спазьнілася, бо ў тыхжа Азарычах у 1928 годзе першыя гракі былі адзначаны яшчэ 10 лютага, у Менску—28-га, у Рагачэве 29-га лютага. Затое масавы прылёт гракоў у папярэднім 1928 г. наглядаўся амаль што на працягу ўсяго сакавіка м-ца, а ў 1929 годзе гэтая зьява адбылася ў працягу 10—12 дзён. Прылёт шпакоў ((Sturnus vulgaris) і першая песьня жаўранка (Alauda arvensis) адзначаны, як і ў 1928 г., у апошняй дэкадзе сакавіка, а першая песьня берасьцянкі (Fringilla cuelebs) наглядалася між 10 і 17 красавіка, у папярэднім-жа годзе—між 20 сакавіка і 22 красавіка; тут мы бачым тую-ж зьяву працяжнасьці, якая адзначалася і ў прылёце гракоў. Яшчэ больш дакладна выяўляецца зьменшэньне дэпрэсіі з параўнаньня табліц „Бяроза і Чарэмха“ за 1929 г. (гл. таб. 1) і за 1928 г. (гл. „Наш Край“ № 12 за 1929 г., стар. 22).

| | месяц | 1928 г. | 1929 г. | % адносіны працягу пэрыодаў |
|---|---|---|---|---|
| 1. Лік дзён ад пачатку руху соку да зеляненьня бярозы (у сярэдн.) . . . . . . . . . . | IV | 25 | 19 | 76 |
| 2. Лік дзён ад зеляненьня да зацьвітаньня чарэмхі (у сярэднім . . . . . . . . . . . | V | 14 | 7 | 50 |

Констатаваць зьменшэньне дэпрэсіі, зразумела, магчыма толькі пры той умове, калі прыняць працяжнасьці фаз і пэрыодаў фэнолёгічных зьяў 1928 году блізкімі да сярэдніх (а верагоднасьць гэтага вялікая). Трэба яшчэ заўважыць, што вышэйпаказаныя сярэднія пэрыоды 1928 году выведзены з 20 пунктаў нагляданьняў, а 1929 году—толькі з 5 пунктаў; значыць пэрыоды гэтага году ня можна лічыць дакладнымі.

Першая навальніца, якая наглядалася ў БССР 20 красавіка, ахапіла паўночную палову Менскае акругі, паўднёвую частку Полацкае, паўднёва-заходнюю Віцебскае і паўночна-заходнюю Аршанскае акругі. Пасьля першай навальніцы ў яе раёне адзначана пахаладаньне. У паўднёва-ўсходняй частцы Віцебскай акругі і ў г. Віцебску першая навальніца была 26 красавіка. 2 мая навальніца наглядалася ў Магілеўскай акрузе ў раёне рэк Сажа і Бесядзі; над заходняй паловай Бабруйскае і паўночна-заходняй Мазырскае акругі першая навальніца прайшла толькі 18 мая, на 17 дзён пазьней першай навальніцы каля гор. Полацку, якая там наглядалася 1 мая; урэшце ўсходняя частка Аршаншчыны была ахоплена навальніцай толькі 19 мая. Няма вестак аб першых навальніцах для цэнтральнай і паўднёвай Беларусі.

Апрача памянёнага пахаладаньня ў апошняй дэкадзе красавіка, паведамленьне аб пахаладаньні ёсьць з Бабінавіч, там яно было ў канцы мая, і 12-13 чэрвеня адзначаны ранішнікі.

Канцом вясновага руху можна лічыць зацьвітаньне жоўтай акацыі Caragana arborescens) і бэзу (Syringa vulgaris), і гэтыя зьявы на Беларусі наглядаліся ў 4 і 5 пэнтадах мая (гл. табліцу VII).

Для характарыстыкі летніх фэнолёгічных процэсаў, па прыкладу мінулага году, скарыстаны матар'ялы пасьпяваньня жыта і лесавых ягад (толькі суніц—Fragaria vesca). Апрача гэтага, у 1929 годзе прыводзім яшчэ табліцу зацьвітаньня валошкі ў жыце (Centaurea Cyanus), ліцы (Tilia cordata) і верасу (Calluna vulgaris Salisb.) і працяжнасьці пэрыодаў у днёх між гэтымі зьявамі. Пасьпяваньне жыта ў 1929 г. ў сярэднім цягнулася 39 дзён, а ў 1928 г.—41 дзень, але і тут трэба памятаць, што сярэднія лічбы ў гэтым годзе выведзены ад значна меншага ліку нагляданьняў, як у 1928 г.; гэта датычыцца і суніц. Пэрыод пасьпяваньня суніц (Fragaria vesca)—32 дні, на 3 дні даўжэй мінулагодняга пэрыоду. Для маліны і чарніц, дзякуючы адсутнасьці нагляданьняў, вылічыць пасьпяваньне было немагчыма.

Разам з фэнолёгічнымі зьявамі летні пэрыод ніжэй характарызуецца і мэтэоролёгічнымі. Досыць інтэнсыўнымі былі вятры і навальніцы ў чэрвені, ліпні і нават верасьні. Вось некалькі паведамленьняў аб бурах і навальніцах, дасланых Белгеофізу ад цэлага шэрагу наглядальнікаў розных мэтстанцый. Наглядальнік з в. Салонае (Жлоб. раён) піша: „8—12 чэрвеня бура, вецер насіў хмары пяску і засыпаў засевы". З м. Чачэрск паведамляюць аб гурагане 5 ліпня, які вялікія спустошаньні зрабіў у лесе парку і садох; 12 ліпня ў м. Чэрвені гураган паламаў дрэвы; 22 ліпня над Лагойскам і ваколіцамі праняслася моцная навальніца, зрабіўшая шкоду ў лесе. У жніўні бураў і навальніц не наглядалася, але з в. Салонае паведамляюць аб загінуўшым ад сонечнай сьпёкі кані і засушшы: „Зямля так перасохла, што падобна да попелу і цяжка араць", аналёгічнае нагляданьне даслана з Чачэрску. Далей, у верасьні зноў наглядаюцца навальніцы і варочаюцца буры. „5 верасьня а 17 гадзіне ў 5 км на поўнач ад м. Бабінавічы"—піша наглядальнік мэтстанцыі Вярбіцкі,—„прайшла віхура, паклаўшая на шляху 18 старых бяроз і разбурыўшая шмат сялянскіх будынкаў"; далей, „6 верасьня ў Воршы а 17 гадз. 45 хв. пранёсься гураган з WSW паласой. Разбурана некалькі амаль новых будынкаў. Скінула стрэхі і дахі са старых. На ст. Ворша разьбіла каля 2 дзесяткаў вагонаў, заціснуўшых 2 чалавек, якія схаваліся пад вагоны ад дажджу. Паваліла шмат дрэў. У ваколіцах Оршы быў град, які зьнішчыў яравыя засевы. Параскіданы копы аўсу"; і ўрэшце, 10 верасьня наглядальнік мэтстанцыі з в. Салонае Слашчэўскі паведамляе, што ў часе навальніцы моцным ветрам былі скінуты стрэхі з двух гумён.

Калі папрабаваць фэнолёгічнымі нагляданьнямі ахарактарызаваць восень 1929 г., дык дзякуючы зьніжэньню інтэнсыўнасьці нагляданьняў увосень з боку нашых фэнолёгаў-наглядальнікаў, асабліва неактыўных у 1929 г., прыходзіцца абмежавацца толькі невялікай табліцай ходу лістападу клёну і асіны (табл. V).

У заключэньне прыведзена табліца (VI) ускрыцьця рэчак і працяжнасьці лёдаставу ўзімку 1928-29 г., але гэты пэрыод лёдаставу было магчыма вывесьці толькі для 5 рэчак у 5 пунктах.

---

*Табл. I.* **Бяроза і чарэмха.**

| № па чарзе | Акруга | Фэнпункты | Бяроза (Betula alba): Пачатак руху соку | Бяроза: Зеляненьне | Бяроза: Лік дзён | Чарэмха (Prunus Padus): Зеляненьне | Чарэмха: Зацьвітаньне | Чарэмха: Лік дзён |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Бабр. | Паворчыцы . . . | 20-IV | 6-V | 16 | — | 15-V | — |
| 2 | Маг. | Касьцюковічы . . | 19-IV | 10-V | 21 | 11-V | 17-V | 6 |
| 3 | Мен. | Менск. . . . . | 18-IV | 10-V | 22 | — | 17-V | — |
| 4 | „ | Барысаў . . . . | 28-III | 11-V | 43(?) | 11-V | 16-V | 5 |
| 5 | Віц. | Матушова . . . | — | 11-V | — | 11-V | 19-V | 8 |
| 6 | Пол. | Полацак . . . . | 18-IV | 9-V | 21 | 8-V | 16-V | 8 |
| 7 | Смал. | Белы . . . . . | 25-IV | 12-V | 17 | 11-V | — | — |
| | | У сярэднім | — | — | 19 | — | — | 7 |

*Табл. II.* **Працяжнасьць пасьпяваньня азімага жыта.**

| | | Зацьвітаньне | Першае жніво | Працяжнасьць пасьпяваньня |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Салонае . . . . . . | 12-VI | 25-VII | 43 |
| 2 | Менск . . . . . . | 17-VI | 22-VII | 35 |
| 3 | Матушова . . . . . . | 18-VI | 27-VII | 39 |
| 4 | Касьцюковічы . . . . . | 15-VI | 24-VII | 39 |
| 5 | Полацак . . . . . . | 13-VI | 23-VII | 40 |
| | У сярэднім . . . | — | — | 39 |

*Табл. III.* **Працяжнасьць пасьпяваньня лесавых ягад.**

| № па чарзе | Акруга | Фэнпункты | Суніца (Fragaria vesca): Зацьвітаньне | Суніца: Першыя ягады | Суніца: Працяжн. пасьпяв. | Маліна Rubus): Зацьвітаньне | Маліна: Першыя ягады | Маліна: Працяжн. пасьпяв. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Маг. | Касьцюковічы . . | 15-V | 16-VI | 32 | 8-VI | 12-VII | 34 |
| 2 | Мен. | Менск. . . . . | 24-V | 23-VI | 30 | — | — | — |
| 3 | Віц. | Сялюты . . . . | 11-V | 14-VI | 34 | 6-VI | — | — |
| 4 | Пол. | Полацак . . . . | 17-V | 14-VI | 28 | — | 13-VII | — |
| 5 | Смал. | Белы . . . . . | 14-V | 19-VI | 36 | 9-VI | 13-VII | 34 |
| | | У сярэднім | — | — | 32 | — | — | — |

*Табл. IV.* **Зацьвітаньне васількоў, ліпы і верасу**

| № па чарзе | Акруга | Фэнпункты | Зацьвітаньне: I Васількоў у жыце Centaurea Cyanus | Зацьвітаньне: II Ліпы Tilia cordata | Зацьвітаньне: III Верасу Calluna vulgaris Salisb | Лік дзён: I—II | Лік дзён: II—III | Лік дзён: I—III |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Маз. | Слабада . . . . | 5-VI | 2-VII | — | 27 | — | — |
| 2 | „ | Капаткевічы . . . | 10-VI | 8-VII | 17-VIII | 28 | 30 | 58 |
| 3 | „ | Дабрына . . . . | 17-VI | 19-VII | 16-VIII | 32 | 28 | 60 |
| 4 | „ | Санюкі . . . . | 19-VI | 17-VII | 3-VIII | 28 | 27 | 55 |
| 5 | Маг. | Касьцюковічы . . | 12-VI | 6-VII | 4-VII | 24 | ? | ? |
| 6 | Арш. | Горкі . . . . . | 6-VI | 10-VII | — | 34 | — | — |
| 7 | Мен. | Менск. . . . . | 18-VI | 13-VII | 21-VII | 25 | 8 | 33 |
| 8 | „ | Барысаў . . . . | — | — | 29-VII | — | — | — |
| 9 | Віц. | Матушова . . . | 15-VI | 11-VII | — | 26 | — | — |
| 10 | Пол. | Полацак . . . . | 15-V | 12-VII | — | 27 | — | — |
| 11 | Смал. | Белы . . . . . | 12-VI | 8-VII | — | 26 | — | — |

*Табл. V.* **Лістапад.**

| № па чарзе | Акруга | Фэкпункты | Клён (Acer platanoides) | | | | | Асіна (Populus tremula) | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Пачатак афарбоўкі | Пачатак ліс-тапад. | Поўнае ага-леньне | Лік дзён | | Пачатак афарбоўкі | Пачатак ліс-тапад. | Поўнае ага-леньне | Лік дзён | |
| | | | I | II | III | I-II | II-III | I | II | III | I-II | I-III |
| 1 | Маз. | Азарычы . . | 16-IX | 16-IX | 5-X | 0 | 19 | — | — | 5-X | — | — |
| 2 | „ | Санюкі . . . | 6-IX | 13-IX | 5-X | 7 | 29 | 4-VIII | 12-VIII | — | 8 | — |
| 3 | Бабр. | Парычы . . | 20-VIII | 23-IX | — | 34 | — | — | — | — | — | — |
| 4 | Маг. | Касьцюковічы | — | 21-IX | 10-X | — | — | — | 23-IX | 15-X | — | — |
| 5 | Мен. | Менск . . . | 17-IX | 19-IX | 23-X | 2 | 36 | — | — | 25-X | — | — |
| 6 | Віц. | Матушова . . | 30-VIII | 22-IX | 20-X | 23 | 51 | — | 23-IX | 20-X | — | — |
| 7 | Смал. | Белы . . . | 19-VIII | 24-VIII | 9-X | 5 | 50 | 21-VIII | — | 5-X | — | 45 |

*Табл. VI.* **Працяжнасьць лёдаставу зімою 1928—29 г.**

| № | Назва ракі | Месца нагляданьня | Акруга | Замярзаньне ў 1928 г. | Ускрыцьце ў 1929 г. | Працяжнасьць лёдаставу |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Дняпро . . . | Магілеў | Маг. | — | 26-IV | — |
| 2 | „ . . . | Лазаравічы | „ | 12-XII | — | — |
| 3 | Бярэзіна. . . | Парычы | Бабр. | 19-XII | 20-IV | 122 |
| 4 | „ . . . | Барысаў | Мен. | — | 19-IV | — |
| 5 | Сож . . . . | Гомель | Гом. | — | 21-IV | — |
| 6 | „ . . . . | Барба | „ | 17-XII | 20-IV | 124 |
| 7 | Прыпяць . . | Тураў | Маз. | 19-XII | 14-IV | 116 |
| 8 | Случ . . . . | Слуцак | Бабр. | — | 15-IV | — |
| 9 | Сьвіслач . . | Менск | Мен. | 16-XII | 21-III | 96 |
| 10 | Цітаўка (уток Сьвіслачы) . . | Мар'іна-Горка | „ | 16-XII | 19-IV | 124 |
| 11 | Пліса. . . . | Смалявічы | „ | — | 23-III | — |
| 12 | Зах. Дзьвіна . | Полацак | Пол. | — | 21-IV | — |

*Табл. VII.* **Вясновыя фіто-фэнолёгічныя нагляданьні 1929 г. (паводле матар'ялаў ЦБК).**

| № | Акруга | Пункты нагляданьняў | | | Пачатак руху соку ў бярозе Betula alba | Зацьвітаньне: Падбел Tussilago Farfara | Пралеска блакітная Anemone Hepatica | Пралеска белая Anemone nemorosa | Шэрая алешына Alnus incana Wild | Ляшчына Corylus avellana | Падсьнежнік Calanthus nivalis | Жоўты кураслеп Anemone ranunculoides | Лотаць Caltha palustris | Зеляненьне: Чарэмха Prunus Padus | Бяроза | Зацьвітаньне: Чарэмха | Клён Acer platanoides | Вішня садовая Prunus cerasus | Ігруша садовая Pirus communis | Яблыня садовая Pirus malus | Жоўтая акацыя Caragana arborescens | Парэчка Ribes rubrum | Бэз лілёвы Syringa vulgaris | Сасна Pinus |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| a | b | c | d | e | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 1 | Мазыр. | Мілашэвічы | 51°48′ | 27°53′ | 9-IV | — | — | — | — | 19-IV | — | — | 26-IV | — | — | — | 11-V | — | — | — | — | 12-V | — | — |
| 2 | „ | Тураў | 52°04′ | 27°44′ | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 8-V | 15-V | — | 15-V | 16-V | 16-V | 16-V | — | — | — | — |
| 3 | Бабр. | Паворчыцы | 52°43′ | 27°24′ | 20-IV | — | — | — | — | — | 21-IV | — | 3-V | — | 6-V | 15-V | — | 19-V | 14-V | — | — | — | — | — |
| 4 | „ | Парычы | 52°50′ | 29°23′ | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 11-V | — | — | 13-V | — | — | — | 18-V | — |
| 5 | Гом. | Чачэрск | 52°55′ | 30°55′ | 12-IV | 21-IV | — | — | — | 8-IV | 18-IV | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Бабр. | Слуцак | 53°01′ | 27°34′ | — | — | — | — | 16-IV | 12-IV | 6-IV | 28-IV | — | 8-V | 6-V | — | 19-V | 25-V | — | — | — | — | 26-V | — |
| 7 | Маг. | Лазарэвічы | 53°17′ | 30°22′ | 15-IV | — | — | — | — | — | — | — | 10-V | — | — | — | — | 18-V | — | — | — | — | 19-V | — |
| 8 | „ | Касьцюкоў. | 53°22′ | 32°03′ | 19-IV | — | 22-V | 22-V | 4-V | — | — | — | — | 11-V | 10-V | 17-V | 17-V | — | 20-V | 22-V | 22-V | 20-V | 21-V | 29-V |
| 9 | Менск. | Менск | 53°54′ | 27°33′ | 18-IV | — | 8-V | — | — | — | — | — | 8-V | — | 10-V | 17-V | 14-V | 23-V | 19-V | 21-V | 26-V | — | 24-V | 27-V |
| 10 | „ | Барысаў | 54°15′ | 28°30′ | 28-III | 2-V | — | — | — | 1-V | — | 3-V | 6-V | 11-V | 11-V | 16-V | 18-V | 19-V | 17-V | 21-V | 18-V | 13-V | 21-V | — |
| 11 | Віцеб. | Матушова | — | — | — | — | 2-V | 6-V | — | — | — | — | — | 11-V | 11-V | 19-V | — | 23-V | — | 28-V | 26-V | — | 27-V | 30-V |
| 12 | „ | Сялюты | 55°10′ | 30°20′ | 22-IV | — | 17-V | 1-V | 2-V | — | — | — | — | — | — | 18-V | — | 22-V | 21-V | 22-V | 19-V | — | 21-V | 28-V |
| 13 | Полац. | Полацак | 55°29′ | 28°48′ | 18-IV | 5-IV | — | — | 21-V | 5-V | — | 9-V | 8-V | 8-V | 9-V | 16-V | 18-V | 17-V | 17-V | 20-V | 20-V | — | 21-V | — |
| 14 | Смал. | Белы | 55°50′ | 32°57′ | 25-IV | 4-V | — | 7-V | 29-IV | 7-V | — | — | 8-V | 11-V | 12-V | — | 16-V | 21-V | 26-V | — | 21-V | 16-V | 24-V | 26-V |

*Табл. VIII.* **Орніто-фэнолёгічныя нагляданьні ў 1929 г. (паводле матар'ялаў ЦБК).**

| № | Акруга | Пункты нагляданьняў | | | Зьяўленьне гракоў Tripanocorax frugiledus | Зьяўленьне шпакоў Sturnus vulgaris | Першая песьня жаўранкі Alauda arvensis | Першая песьня зябліка Fringilla coelebs | Зьяўленьне белай пліскі Motacilla alba | Першыя стаі | | Прылёт белага бусла Cyconia alba | Зьяўленьне ластаўкі-касаткі Hirundo rustica | Першая песьня салаўя Luscinia | Першыя крыкі | | | Адлёт | | Перш. адлётн. стаі. | | Зьяўленьне гілёў Pyrrhula pyrrhula |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | Гусей Anser | Жораваў Grus Grus | | | | Івалгі Oriolus galbula | Зязюлі Cuculus canorus | Драча Crex Crex | Ластавак-касатак | Белага бусла | Гусей | Жораваў | |
| a | b | c | d | e | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 1 | Мазыр. | Мілашэвічы | 51°48′ | 27°53′ | — | — | — | — | — | 1-IV | — | 2-IV | — | — | — | 25-IV | 10-VI | — | — | — | — | — |
| 2 | Гом. | Церахоўка | 52°13 | 31°27 | — | 25-III | — | — | 10-IV | 13-IV | — | 8-IV | 28-IV | — | — | 29-IV | — | — | — | — | — | — |
| 3 | Мазыр. | Капаткевічы | 52°18 | 28°50′ | 19-III | 26-III | 22-III | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 3-VI | 7-IX | 28-VIII | 12-XI | 5-X | — |
| 4 | Гом. | Гомель | 52°27′ | 31°00′ | 17-III | — | 2-IV | — | 20-IV | 15-IV | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 5 | Мазыр. | Азарычы | 52°22 | 29°16′ | 3-III | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 14-VIII | 26-VIII | 13-X | 14-X | — |
| 6 | „ | Санюкі | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 17-IX | 23-VIII | 28-X | — | — |
| 7 | Бабр. | Паворчыцы | 52°43′ | 27°24 | — | 23-III | 23-III | — | 24-III | 5-IV | 10-IV | 4-IV | 24-IV | — | 14-V | 2-V | — | — | — | — | — | — |
| 8 | „ | Парычы | 52°50 | 29°23′ | 20-III | 25-III | 26-III | — | — | 9-IV | — | 11-IV | — | — | 13-V | 5-V | — | 8-IX | 28-VIII | 22-IX | 20-IX | — |
| 9 | Гом. | Чачэрск | 52°55′ | 30°55′ | 20-III | 4-IV | — | 10-IV | 15-IV | 14-IV | — | 14-IV | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 10 | Бабр. | Слуцак | 53°01 | 27°34′ | 12-III | 21-III | 20-III | — | — | 5-IV | — | 28-IV | — | 10-V | 12-V | 2-V | — | — | — | — | — | — |
| 11 | Маг. | Лазарэвічы | 53°17′ | 30°22′ | — | 22-III | 26-III | — | 15-IV | — | — | 13-IV | — | 28-IV | — | 26-IV | — | — | — | 11-IX | 12-IX | — |
| 12 | „ | Касьцюков. | 53°22′ | 32°03 | 17-III | 3-IV | 20-III | 15-III | 11-IV | 21-IV | 20-IV | 14-IV | 28-IV | 5-V | 11-IV | 29-IV | 25-V | 20-IX | 25-VIII | 7-X | 10-IX | — |
| 13 | „ | Чачэвічы | 53°30′ | 29°51′ | 21-III | 20-III | 24-III | — | 13-IV | 20-IV | — | 13-IV | 26-IV | — | — | 27-IV | — | — | — | — | — | — |
| 14 | Арш. | Горкі | 53°43 | 28°33′ | — | 17-III | 24-III | 11-IV | 12-IV | — | 14-IV | 7-IV | — | — | — | — | 9-VI | — | — | — | — | — |
| 15 | Менск. | Менск | 53°54′ | 27°33′ | 14-III | 30-III | 23-III | 10-IV | 17-IV | — | — | 13-IV | 9-V | — | — | 26-IV | — | — | — | — | 27-VIII | — |
| 16 | „ | Смалявічы | 54°03′ | 28°04′ | 21-III | 19-III | 24-III | — | 14-IV | 20-IV | 25-IV | 9-IV | 24-IV | 25-IV | — | 24-IV | — | — | — | — | — | — |
| 17 | „ | Барысаў | 54°15′ | 28°30′ | — | 24-III | 22-III | 12-IV | 15-IV | — | — | 4-IV | 30-IV | 8-V | 11-V | 26-IV | — | — | — | — | — | 30-X |
| 18 | Арш. | Горы-Горкі | 54°17′ | 31°00′ | 16-III | 1-IV | 29-III | 17-IV | 28-IV | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 19 | Менск. | Крайск | 54°31′ | 27°30′ | 16-III | — | — | — | — | — | — | — | 2-V | — | — | 29-IV | — | — | — | — | — | — |
| 20 | Віц. | Матушова | — | — | — | 25-III | 14-IV | — | — | — | — | — | 9-V | — | — | 5-V | — | — | — | — | 13-IX | 18-X |
| 21 | „ | Высачаны | 55°06′ | 30°28′ | 20-III | 20-III | 22-III | — | 14-IV | 25-IV | 29-IV | 16-IV | 1-V | 1-V | — | 29-IV | — | — | — | — | — | — |
| 22 | „ | Сялюты | 55°10′ | 30°20′ | 22-III | 25-III | 25-IV | 16-IV | 14-IV | 14-IV | 1-V | 9-IV | 6-V | 7-V | — | 29-IV | 26-V | 16-IX | — | — | 26-VIII | — |
| 23 | Пол. | Полацак | 55°29′ | 28°48′ | 12-III | 16-III | 18-III | 15-IV | — | — | 25-III | 3-IV | 27-IV | 30-IV | 6-V | 27-IV | 9-V | — | — | 9-IX | 7-IX | 9-X |
| 24 | „ | Пунішча | — | — | 4-IV | — | 18-IV | — | — | 28-IV | 22-IV | — | 6-V | — | — | 30-IV | — | — | — | 19-X | 19-X | 23-X |
| 25 | Смал. | Белы | 55°50′ | 32°57′ | 15-III | 17-III | 22-III | 26-IV | 17-IV | 20-IV | 26-IV | 3-V | 5-V | — | — | 1-V | 9-V | 21-IX | — | 5-IX | 25-VIII | 17-X |

# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

Т. П. Кулакоў.

## Комуна Шлях Саветаў.

*(Азарыцкі раён, Мазыршчына).*

Комуна Шлях Саветаў знаходзіцца ў паўднёва-заходняй частцы Крукавіцкага сельсавету Азарыцкага раёну, у адлегласьці 10 км ад адміністрацыйнага і экономічнага цэнтру раёну, м. Азарычы, ад бліжэйшага чыгуначнага разьезду Халоднікі Заходняй чыгункі — на адлегласьці 25 км і ад бліжэйшай рачной прыстані Мозыр — на Прыпяці — 50 км Комуна організавана летам 1929 году на надзельных землях вёсак Беразьнякі і Вішы, якія пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі атрымалі прырэзку з зямель былога маёнтку Вішы абшарніка Гатоўскага. Вёска Беразьнякі ў 1914 г. расьселена на хутары па Сталыпінскай сыстэме, а Віша заставалася і да організацыі комуны пры подварна-праспалосным землекарыстаньні. Да організацыі комуны ў в. Беразьнякі налічвалася 87 гаспадарак, Вішы—30 і ў был. маёнтку Вішы — 8 гаспадарак. Насяленьня ў паказаных паселішчах было 713 чалавек.

Мясцовасьць, занятая комунаю, прадстаўляе раўніну з нязначнымі ізоляванымі ўзгоркамі ды лагчынамі і толькі ўсходняя частка, што бліжэй да рэчкі Вішы, прадстаўляе нізіну, занятую сенажацямі.

На паверхні сустракаецца шмат імхоў і імшарын з значнымі залежамі торфу. Адзначым самы большы мох пад назваю „Струкаў Мох", распаложаны ў мясьціне „Грышын Лес" на захад ад сялібы комуны ў адлегласьці 3 км. Названы мох займае плошчу больш 30 га. Торф залягае ў ім на глыбіні 1,25 м.

Глеба пераважна супяшчаная на суглінавым падсьціле. Падзолістыя глебы сустракаюцца бліжэй к балотам і імхам. Пяскоў на тэрыторыі комуны налічваецца да 120 гектараў; звычайна яны пакрыты рэдкім хваёвым лесам з прымешкаю бярэзьніку ды асіньніну. Пад лясамі і хмызьнякамі занята да 300 гектараў плошчы. Лепшы лес сконцэнтраваны ў паўднёвай і ўсходняй частцы, дзе пераважаюць такія пароды: ясень, граб, дуб, бяроза, ляшчына, хвоя, асіна і інш. Хваёвы лес невялічкімі гаёчкамі раскіданы на заходняй і паўночнай частцы тэрыторыі. У лесе растуць грыбы: абабкі, падасінавікі, суравежкі, махавікі, падбалацянкі, лісянкі, зялёнкі і баравікі, але апошніх сустракаецца

мала. З атрутных грыбоў шмат расьце мухамораў, звычайна ў маладым хваёвым гушчары.

З ягадных расьлін сустракаюцца: буякі, журавіны, брусьніцы зрэдку чарніцы ды суніцы. З лекавых расьлін у лясох знаходзім шмат багуну, дзеразы і крушыны, а на балотах сустракаецца аер, валяр'яна і чамярыца.

З карысных выкапняў, якія ў недалёкай будучыні адыграюць значную ролю ў разьвіцьці гаспадаркі комуны, сустракаецца шмат торфу і гліны. Торф, як ужо адзначана вышэй, у вялікай колькасьці знаходзіцца ў „Струкавым Лесе“, але яго мы знаходзім у асобных імшарынах і на балотах, што на поўнач ад вёскі Віша ў мясьціне „Рудніца“. Торф часткова выкарыстоўваецца комунаю на ўгнаеньне.

У рудніцкіх балотах ёсьць жалезная руда, але яна покуль што не дасьледвана. Вада на паверхні паказаных балот чырванаватага колеру, у ёй вакольнае насельніцтва фарбуе палатняныя і суконныя тканіны.

Гліна сустракаецца чырвоная, шэрая і зеленаватая, апошняй мала. Вельмі багата гліны ў мясьціне „Лясьніца“ на поўнач ад в. Вішы, дзе яна залягае на глыбіні 0,4 м. і распаўсюджана на плошчы да 10—15 га. Колер гліны пераважна чырвоны. Каля сялібы комуны на адлегласьці 0,50 м. ёсьць чырвоная і шэрая гліна, апошняя па якасьці зьяўляецца лепшаю. Для скарыстаньня гліны комуна заканчвае пабудову цагельні, якая ўжо падрыхтавала сырцу-цэглы 30.000 шт. У хуткім часе будзе скончана пабудова „палённае“ печы для заводу і разгорнецца сталая праца па вырабу цэглы.

Гліна зеленаватага колеру сустракаецца на балотах каля рэчкі Вішы. Выкарыстоўваецца яна вакольным насельніцтвам для бяленьня печаў і хат.

Аб ранейшых формах землекарыстаньня ў в. Беразьнякі і Вішы ўжо сказана вышэй. Трэба толькі дадаць, што і спосабы вядзеньня сельскае гаспадаркі, як напр., апрацоўка зямлі, рацыянальнае скарыстаньне яе і догляд расьлін былі занадта адсталымі. Падрабязна аб гэтым чытач можа азнаёміцца ў нашым артыкуле—„Крукавіцкі сельсавет Азарыцкага раёну Мазырскае акругі“ ў № 11 „Н. Кр“. за 1929 год ст. 19—29.

Сталыпінскія хутары ў в. Беразьнякі, раскіданасьць гаспадарак па тэрыторыі на адлегласьці 2-7 км — цяжкая спадчына для комуны, але можна сказаць упэўнена, што комуна справіцца з гэтаю цяжкасьцю. Напрамак у гэтых адносінах узяты правільны. Комуна прыступіла да будаўніцтва кватэр і іншых памяшканьняў у цэнтры в. Беразьнякі, дзе адведзена сяліба комуне.

Комуна Шлях Саветаў організавана па ініцыятыве 12 гаспадарак в. Беразьнякі летам 1929 году і спачатку была сельска-гаспадарчай арцельлю. Соцыяльны склад організатараў быў наступны: бядняцкіх гасп. 3, серадняцкіх 8 і 1 кулацкая. Кулак, прымаўшы ўдзел у організацыі комуны, меў намер ашукаць беднату і серадняцтва. Меркаваньні яго былі: адрэзаць лепшую зямлю ды падзяліць паміж організатарамі і зрабіць пасёлак. Гэты спадман кулака сваечасова быў выкрыт раённымі ўстановамі. Апошнія дапамаглі організаваць сапраўдную колгасную гаспадарку, якая ў жніўні ўжо налічвала 42 індыв. гаспадаркі ў сваім складзе. 14 жніўня 1929 году колгасьнікі на агульным сходзе аднагалосна пастанавілі перайсьці ад арцелі да комуны. Комуна Шлях Саветаў нарадзілася. Ад слоў комунары перайшлі да

справы. 28 жніўня комуна вышла на першую баразну організаваным парадкам. Дасталося ў гэты дзень сталыпінскім межам!

Кулакі і заможнікі пасьміхваліся ды агітавалі супроць комуны, але комунары мелі ў сваіх шэрагах сталы актыў з беднаты, батрацтва і лепшых сераднякоў. Гэты актыў прыступіў да ўпартай і сталай



Будуюць новы дом у комуне „Шлях Саветаў“.

працы організаваным парадкам. Васеньняя сяўба была ў поўным разгары. Здабылі трыер, ачысьцілі насеньне, замянілі частку насеньня на лепшыя гатункі. У выніку — 180 га засеву жыта. Гэта адказ кулаком, гэта першы экзамен комунараў. Яго яны выканалі з гонарам.

Сяўба скончана. Комунары будуюць аграмаджаныя памяшканьні для рабочае жывёлы, перавозяць будынкі з хутароў на вызначаную сялібу, прыступаюць да аграмаджаньня ўсіх сродкаў вытворчасьці.

Склад комуны паступова ўзрастаў. У комуну ішлі сераднякі, заможнікі, прабіраліся і кулакі, якія паразбазарылі добра сваю маемасьць. Кулакі і заможныя сераднякі значна засьмецілі комуну. Пачаліся спрэчкі на грунце аграмаджваньня і разьмеркаваньня працы. Стары актыў комунараў даваў рашучы адпор шкоднікам, але гэтага было мала. Прышлося ўжыць іншыя спосабы барацьбы з шкоднікамі. Па патрабаваньню бядняцкай групы было раскулачана 6 кулацкіх гаспадарак і 2 з іх зусім ізоляваны (высланы з комуны). Пры раскулачваньні зроблены былі і памылкі, былі пакрыўджаны некаторыя сераднякі. Гэта дало повад няўстойлівым элемэнтам комуны выкарыстаць памылкі для сваіх уласных мэт і, як толькі прадставілася магчымасьць (зьмяшчэньне ў друку артыкулу Сталіна „Галавакружэньне ад посьпехаў“) захапіць сваю маемасьць і кінуць комуну.

У сакавіку адбылася чыстка комуны ад варожых элемэнтаў. Пасьля чысткі ў комуне засталіся толькі сапраўдныя комунары, якія

з посьпехам працуюць і зараз. У сучасны момант у складзе комуны ўсяго 78 гаспадарак, з якіх:

Беразьняцкіх 40, або 45% агульнай колькасьці гаспадарак вёскі
Вішанскіх 19, „ 63% „ „ „ „
З іншых вёсак раёну 8

У складзе комунараў, акрамя асоб, маючых або меўшых да ўступленьня ў комуну сельскую гаспадарку, ёсьць батракі-адзіночкі, служачыя і рабочыя. Соцыяльны склад комунараў наступны: рабочых 1, батракоў 14, беднякоў 54, серадняков 24, служачых 2 — (настаўніцы). Усяго насельніцтва ў комуне 406 чал., з якіх мужчын 192 і жанчын 214. Партыйцаў 2 чал. і комсамальцаў 27 чал. Па ўзросту маем такі падзел: да 13 гадоў 155 чал., ад 13 да 16 г. 30 чал., ад 17 і старэй 201 чал. Старшых і інвалідаў 20, з іх мужчын 7 і жанчын 13. Такім чынам працаздольных людзей у комуне 201 чал. дарослых і 30 падлеткаў.

Няпісьменных сярод насельніцтва ад 13 і звыш налічваецца 167 чалавек, з якіх жанок 94.

## Землекарыстаньне.

Землеўпарадкаваньне комуны праведзена ўвосень 1929 г. Комуне адведзена агульная зямельная плошча 2083 га. Па ўжытках: пахаці 692, сенажаці 660, пад лесам і куст. 350, выгану і няўдобы 234, пяскоў 120, саду 17, гароду 10. За кароткі тэрмін існаваньня комуна здолела прарабіць некаторыя зьмены ў разьмеркаваньні ўжыткаў: раскарчавана пад ральлю падлеснае плошчы 5 га і засеяна лёнам і просам, таксама раскарчавана 8 га на сенажаць і распачата капаньне канавы для асушкі 30 га забалочанае сенажаці.

Вясеньняя сяўба ў комуне ў бягучым годзе пачата своечасова і скончана ў тэрмін. Параўнаньне фактычнае плошчы засеву з плянавымі меркаваньнямі дае такі малюнак па асобных культурах:

| Культуры | Па пляну ў гэктарах | Факт. засеў | % | Культуры | Па пляну ў гэктарах | Факт. засеў | % |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Жыта . . . . | 170 | 180 | 105,8 | Бульбы . . . . | 70 | 60 | 85 |
| Пшаніцы . . . | 15 | 12,5 | —83,7 | Кораньплодаў . . | 6 | 3 | 50 |
| Аўсу . . . . | 80 | 55 | 68,7 | Вікі . . . . | 4 | 6,5 | 130 |
| Ячменю . . . . | 8 | 3,5 | 44 | Канюшыны . . . | 15 | 23 | 150 |
| Проса . . . . | 20 | 5,5 | 25 | Сэрадэлы . . . . | 8 | 5,5 | 68 |
| Грэчкі . . . . | 50 | 36 | 72 | Лубіну . . . . | 3 | 7,5 | 200 |
| Гароху . . . . | 2 | 3,5 | 175 | Кіяхоў . . . . | — | 0,25 | — |
| Лёну . . . . | 10 | 7,5 | 75 | Тытуну . . . . | — | 0,25 | — |
| Каноплянй . . . . | 2 | 2,2 | 100 | — | — | — | — |

Недавыкананьне засеву па шэрагу культур тлумачыцца тым, што складзены плян меў на ўвазе значна большы лік гаспадарак у комуне, якія вышлі з складу комуны ў вясну, і ім прышлося перадаць частку плошчы прызначанае для засеву ў комуне. Мелі месца і захват зямлі

з боку індывідуальных гаспадарак гвалтоўным парадкам (засеў уночы). У засеве комуны побач з зернавымі культурамі маем досыць значны % засеву кармовых траў, гэта вымагаецца агульным напрамкам вядзеньня гаспадаркі. Напрамак гаспадаркі бярэцца зернавы з жывёлагадоўчым і сьвінаводным ўхілам. Адпаведныя ўмовы для гэтага комуна мае.



Аруць поле ў комуне „Шлях Саветаў".

Значныя зьмены ўнесены комунаю як у тэхніцы палявое гаспадаркі, так у апрацоўцы глебы і падборы гатункаў markedнага насеньня. Акрамя гною, якім угноена 55 га яравога кліну, ужыты наступныя ўгнаеньні: супэрфасфату 67 ц пад авёс, калійнай солі 6,4 ц, попелу 19,2 ц пад лён, вапны 111 ц пад лён.

З палепшаных гатункаў насеньня ў гаспадарцы комуны ўжыты жыта „пяткоўскае" і „шацкае", авёс „пабеда". Усё насеньне ачышчана на трыеры і частка пратручана перад засевам.

Севазварот у гаспадарцы прыняты 5-польны і 8-польны.

Гароднiцтва. Пад гародамі была занята плошча ў 10 га. Засеялі гародніны: капусты засадзілі 4 га, буракоў 3, цыбулі 1, гуркоў 1 і астатняя плошча занята морквою, рэпаю, рэдзькаю і іншымі гароднымі расьлінамі.

Гародным расьлінам (гуркам) часткова пашкодзілі чэрвенскія замаразкі.

У комуне ёсьць стары сад да 2 га был. маентку Віша і ўвосень мінулага году засаджаны малады сад на плошчы 15 га, у якім налічваецца 1900 садовых дрэў.

Аграмаджана 64 рамачных вульлёў і 2 калодных з пчоламі, а 20 рамачных, ды 50 калод пустых. Пры раеньні ў бягучым годзе частка пустых заселена маладымі раямі. Вульлі разьмешчаны покуль

што ў 3-х асобных пасеках і да кожнае з іх прыстаўлены сталы „водчыц“—аматар з комунараў. У будучым мяркуецца ўсе пасекі злучыць у адну. Умовы для разьвіцьця пчалярства ў комуне добрыя:—блізасьць лесу, мурожных сенажацяй. Неабходна будзе ў будучым годзе вясной прадугледзець засеў меданосных траў.

## Сродкі вытворчасьці і будынкі.

Усе сродкі вытворчасьці як: будынкі, с.-г. інвэнтар, машыны, усіх відаў жывёла ў комуне абагулены. Як выключэньне, дальнім гаспадаркам, жывучым на хутарох, часова застаўлена па 1 карове ў часовае карыстаньне.

Сельска-гаспадарчых прылад і машын у комуне лічыцца: плугоў 40, барон 29, акучнікаў 7, драпачоў 3, сеялак 1, саламарэзак 2, калёс на жалезным хаду 27, упражкі 40 компл., малатарак 5—2 конныя, арфаў 3, жняярак 2.

Недахопу вялікага ў забесьпячэньні прыладамі і машынамі не адчуваецца.

З прадпрыемстваў комуна мае: 1 паравы млын=8 конскім сілам. Млын абслугоўвае патрэбы і вакольных вёсак. Ёсьць 1 воўначоска, 1 сэпаратар, 1 маслабойка. У хуткім часе будзе скончана пабудова цагэльні, аб якой гаварылася вышэй.

Коратка аб будынках і будаўніцтве. Раскіданасьць комунараў па хутарох не дае магчымасьці перайсьці да аграмаджаньня быту і сконцэнтраваньня ўсіх сіл і сродкаў вытворчасьці ў адным месцы. Вось чаму пытаньне будаўніцтва прыцягвае вялікую ўвагу комунараў і ў гэтым напрамку ёсьць значныя посьпехі. Перавезена з хутароў на сялібу комуны 3 дамы, збудавана стайня яшчэ ўвосень. Пабудавана $1^1/_2$-павярховая сталоўка і клюб. Будуецца 2-павярховы дом на 24 кватэры (гл. фотогр.). Будуецца абора для жывёлы даўж. 70×20 м. Пабудаваны леднік пры сталоўцы. Усе гэтыя будынкі будуць скончаны к восені, што значна палепшыць агульнае становішча комунараў. Рабочая сіла для будаўніцтва наёмная. Матар‘ялы бяруцца з лесу, што на тэрыторыі комуны і скарыстоўваюцца старыя будынкі комунараў. Працаю па будаўніцтву кіруе сам старшыня праўленьня комуны т. Бубліс Язэп.

## Жывёлагадоўля.

У гаспадарцы комуны жывёлагадоўля займае другое месца пасьля земляробства.

Усяго абагулена жывёлы ў комуне:

Коняй працоўных 63, маладняку 21, жарабец-поўардэн 1, кароў 140, бугаёў 2, бычкоў законтр. 13, цялят-аднагодак 45, вол 1, сьвіней 42, парасят 44, авец 180, ягнят 60.

Адчуваецца недахоп коняй як працоўнай сілы.

Разгледзім паасобныя віды жывёлы. З палпешаных парод коняй ёсьць 2 маткі, кабыла і 1 жарабец поўардэн, а астатнія—мясцовай пароды. Сярод маладняку ёсьць экзэмпляры мешанае пароды. Догляд за коньмі значна палепшаны ў параўнаньні з індывідуальнымі гаспадаркамі. Хлявы для коняй уцяплёныя, ёсьць станкі. Харчаваньне па норме. У летні час коні, незанятыя на працы, і маладняк пасуцца. Сярод малочнага быдла кароў ёсьць 6 экзэмпляраў палепшанае пароды,

а астатнія сваёй мясцовай пароды. Ёсьць 2 бугаі-вытворцы. Догляд за каровамі і наогул за быдлам мае паляпшэньне ў сэнсе кармовага харчаваньня, асабліва малочных кароў. Малочным каровам харчы выдаюцца адпаведна вагі. З моцных кармоў даюць макуху і вотрубі Малочнасьць кароў у сярэднім вызначаецца ў 8—10 літраў у дзень. Летам жывёла пасецца. Падкармліваюцца каровы і маладняк. У хуткім часе будзе скончана пабудова двара, што дасьць магчымасьць трымаць жывёлу ў лепшых умовах. Частка маладняку (бычкі) законтрактавана Азарыцкім спажывецкім таварыствам на мяса.

Сьвіньні пераважна мясцовай мала продукцыйнай пароды. З палепшаных набыты комунаю 2 маткі і храк ёркшырскае пароды, якія павінны зьявіцца рассаднікам сьвінаводзтва. На адкорме знаходзіцца 14 кабаноў, якія скарыстоўваюцца на сала і мяса па патрэбе і на іх месца ставяць замену з надворных сьвіней. Догляд і ўтрыманьне надворных сьвіней покуль што неўпарадкаваны і патрабуе неадкладнага паляпшэньня. Праўда, пытаньне гэта комунаю ставіцца, як адно з першачарговых.

Авечкі таксама мясцовай пароды. Догляд за імі покуль што дрэнны і мала чым адрозьніваецца ад індывідуальных гаспадарак. Зімою авечак кармілі сенам, а з раньняй вясны трымаюць на выпасе.

З птушак ёсьць 30 гусей старых і 35 гусянят. Пэрспэктывы і ўмовы для разьвядзеньня гусей у комуне ёсьць. Можна скарыстоўваць для гэтага сажалку ў был. маентку Віша і выган там-жа.

## Капіталы і іх склад.

Уступны пай для дарослага члена сям'і прыняты ў разьмеры 10 р. і паявы 120 руб. Ужо паступіла ўступных узносаў 905 р. і паявых 1000 руб. грашыма. У большасьці паі закладаюцца маемасьцю і сродкамі вытворчасьці. Маемасьць і сродкі вытворчасьці комунараў ацэнены і складзены сьпісы. За батракоў паі закладзены Азарыцкім раённым крэдытным т-вам з прызначаных для гэтае мэты фондаў. Даўгі комуны па крэдыту=14000 руб., галоўным чынам на будаўніцтва. Сталы вучот і разьлічэньне сродкаў па асобных капіталах яшчэ не ўпарадкаваны за адсутнасьцю адпаведнага працаўніка-рахункавода.

## Організацыя працы, разьмеркаваньне і аплата.

Па арганізацыйнай сутнасьці і структуры комуна прадстаўляе пераходную ступень ад сельска-гаспадарчай арцелі да вышэйшай формы колектыўнага аб'яднаньня—комуны.

У сучасны момант праца разьмяркоўваецца не па сем'ях, а па работніках. Ёсьць наступныя катэгорыі разьмеркаваньня працы:

1 група землябаў.
2 „ па ўходу за жывёлаю.
3 „ будаўнікі.
4 „ гароднікі.
5 „ працаўнікі ў майстэрнях і прадпрыемствах.
6 „ абслугоўваючага пэрсоналу.

На чале кожнае групы старшы групавод-брыгадзір, на абавязку якога ляжыць разьмеркаваць працу, сачыць за выкананьнем працы

і весьці ёй вучот. Пры наяўнасьці неадкладных прац у аднэй групе і адсутнасьці ў другой робіцца часовая перастаноўка працоўнае сілы з групы ў групу. Працоўны дзень пачынаецца а 7 гадзіне, перапынак на абед з 2 да 4 гадз. і зноў праца з 4-х да 7 гадзін. Выхад на працу, прыход і канец па званку.



Сябры комуны „Шлях Саветаў".

Сталым працаўнікем лічыцца ўзрост ад 16 да 60 гадоў мужчыны і да 55 гадоў жанчыны. Зразумела, што моладзь уцягваецца ў працу паступова „ад лёгкага к цяжкаму". Падросткі ад 13 гадоў таксама скарыстоўваюцца ў вольны час ад школьных зняткаў на лёгкіх працах. Старыя па ўласнаму жаданьню таксама працуюць. Зарплата ўстаноўлена 4-разрадная:

| | | | |
|---|---|---|---|
| I | разрад | 50 к.: | падпаскі, скароджаньне і наогул праца падросткаў. |
| II | „ | 65 „ | лягчэйшыя земляр. працы. |
| III | „ | 80 „ | асноўныя працы па землякробству. |
| IV | „ | 95 „ | абслугоўваючы пэрсонал, кіраўнікі груп і майстры. |

Расплата :0% натураю, а рэшта грашыма. Канчатковы разьлік у канцы году.

У часе хваробы зарплата захоўваецца на ўвесь час хваробы. Непаразуменьняў і спрэчак на грунце разьмеркаваньня працы амаль ня бывае. Дысцыпліна здавальняючая. Мерамі спагнаньня за ўпушчэньні і нядбайнасьці служаць: папярэджаньне, вымова, заўвагі на агульным сходзе. Самакрытыка, як мэтод зьнішчэньня недахопаў, разгорнута яна здавальняюча. Як загану ў працы комунараў, трэба адзначыць, гэта адсутнасьць такіх мэтодаў, як соцыялістычнае спаборніцтва, і ўдарніцтва, якія на жаль месца ў працы комуны не знайшлі.

Падзелу аплаты працы на мужчынскую і жаночую няма.

Кіраўніцтва комуны складаецца з праўленьня ў складзе 11 асоб, рэвізійнай комісіі з 3-х асоб і агульных сходаў, якія зьбіраюцца 1 раз у м-ц. Пляны працы ёсьць як агульны так і па асобных галінах гаспадаркі. Агронома сталага ў комуне няма. Агранамічная дапамога аказваецца Азарыцкім аграпунктам. Наведваньне аграномамі комуны частае. Таксама аказваецца дапамога з боку Азарыцкай райбольніцы і вэтамбуляторыі.




Дзеці комуны „Шлях Саветаў".

## Быт і культурны стан.

Дрэнныя кватэрныя ўмовы і іх раскіданасьць яшчэ па хутарох зьяўляюцца значнай перашкодаю да паляпшэньня гаспадарчага быту комунараў. Тым ня менш ужо можна бачыць розьніцу ў гэтых адносінах паміж комунарамі і індывідуальнымі гаспадаркамі. У кватэры комунара абразы—зьявішча рэдкае, іх месца займаюць портрэты правадыроў, плякаты, выразкі з часопісаў і газэт. У хаце параўнальна чыста, туды не заходзяць сьвіньні, куры. Падлога ў хатах мыецца да 1 разу ў тыдзень. Харчуюцца покуль што комунары паасобна, праўда ёсьць выпадкі харчаваньня некалькіх сем'яў разам, якія жывуць у аднэй хаце. Агульная сталоўка пабудавана і працуе. У агульнай сталоўцы харчуюцца ў часе работ і то толькі абедаюць, вячэраюць і сьнедаюць покуль што дома. Гэта вымагаецца зноў такі раскіданасьцю комунараў па хутарох. Агульнае харчаваньне і праца сталоўкі будзе разгорнута стала з сканчэньнем пабудовы дому, аб якім гаварылася вышэй. У рэволюцыйныя сьвяты абеды і гарбата ў сталоўцы гатуюцца для ўсіх комунараў. Звычайна наяжджае шмат гасьцей з родзічаў комунараў.

У харчаваньні комунараў заўважаюцца палепшаньні. Усе продукты разьмяркоўваюцца аднолькава. Справа з доглядам дзяцей значна пасунулася наперад. У комуне ёсьць яслі на 35 дзяцей і працуе дзіцячы сад у складзе 32 дзяцей. Дзеці ў яслях і садзе харчуюцца і карыстаюцца вопраткай. Комунары вельмі здаволены працаю ясляў і дзіцячага саду.

Культурныя запатрабаваньні комунараў наогул узрасьлі. Зімою працаваў лікпункт, на якім навучалася да 30 няпісьменных. У бягучым годзе мяркуецца ліквідацыя няпісьменнасьці, 100 процантаў а няпісьменных сярод комунараў яшчэ 167 чалавек. Вельмі часта ставяцца спэктаклі і кіно, апошняе дасылаецца Азарыцкім спажывецкім таварыствам. Наведваньне спэктакляў і кіно досыць добрае. Дзеці комунараў навучаюцца ў Вуглоўскай 2-комплектавай школе, якая з восені 1930 году рэорганізуецца ў 3-комплектавую і пераносіцца ў комуну. Памяшканьне для школы добрае—былы панскі дом. Школа зможа ахапіць 100 процантаў дзяцей школьнага ўзросту і справа ўвядзеньня ўсеагульнага навучаньня забясьпечана. Дзеці скончыўшыя школу паступаюць у Азарыцкую сямігодку, да гэтага часу іх навучалася ў сямігодцы 5 чалавек.

У комуне ёсьць культ.-бытавая камісія, якая наладжвае працу сярод комунараў у вольныя часы ад працы ў чырвоным кутку. Чытаюць газэты, кніжкі і наладзілі выданьне насьценнае газэты. Да гэтага часу выдана 3 нумары газэты. Зьмест газэт накіраваны ў бок паляпшэньня агульнае працы ў комуне і зьнішчэньня недахопаў.

Выпісваюцца комунаю наступныя газэты і часопісы: „Праўда“ 1 экз. „Савецкая Беларусь“ 3, „Зьвязда“ 2, „Бедната“ 1, „Беларуская Вёска“ 10, „Крест. газета“7, „Чырвоная Зьмена“ 12 і часопісы: „Шляхі Колектывізацыі“ 2, „Огонек“ 1, „Работніца і Сялянка“ 2 і „Лапаць“ 1.

Сямейны быт у комуне досыць устойлівы. Сварак у сям'і амаль ня бывае. Разводаў ня было. Праяў распусты таксама няма. Сем'і, якія былі падзелены да комуны (бацька з сынам) часта злучаюцца зноў і жывуць лагодна.

Рэлігійныя забабоны маюць месца ў нязначнай частцы комунараў—галоўным чынам сярод старых, якія просяць, каб на выпадак іх сьмерці паставілі ім хоць крыж. З боку гэтае часткі ёсьць жаданьне пасьвяткаваць „Вялікдзень“ „Міколу“, але гэта толькі жаданьне. Моладзь ды і дарослая частка комунараў пазбавілася рэлігійнага дурману.

З грамадзкіх організацый у комуне ёсьць: ячэйка мопру, асоавіахіму і бязбожніка. Працуюць яны здавальняюча. Ёсьць надзея ў хуткім часе заснаваць краязнаўчы гурток. Гутарка аб гэтым з кіраўнікамі комуны выклікае зацікаўленасьць краязнаўствам.

У складзе комунараў 2 партыйцы і ячэйка ЛКСМ з 27 чалавек. Як партыйцы, так і ячэйка карыстаюцца аўторытэтам сярод комунараў і астатняй часткі насельніцтва. Ячэйка ЛКСМ зьяўляецца застрэльшчыкам у правядзеньні ўсяе грамадзкае працы як у комуне, так і ў вакольных вёсках. Існуе досыць моцная група беднаты ў комуне. Наогул трэба сказаць, што комуна распалагае досыць моцным соцыяльна-вытрыманым актывам, які кладзе сваю энэргію і сілу на ўзмацненьне і пашырэньне комуны.

Застаецца сказаць аб агульных сходах, якія зьяўляюцца яскравым паказальнікам новага грамадзкага быту ў комуне. Сходы адбываюцца вельмі актыўна. Удзел прымаюць як мужчыны, так і жанчыны, якія часта прыходзяць на сход з груднымі дзецьмі. Жанчыны на сходзе да

драбязьлівасьці ўскрываюць усе балючыя пытаньні. Ад іх нічога ня ўтоіш.

У ўзаемаадносінах комуны з насельніцтвам індывідуальных гаспадарак вясною было шмат спрэчак на грунце засеву „іх зямлі“. Былі выпадкі, калі індывідуальнікі таптали ральлю комунараў. Кідаліся ў бойку, але комунары ў такіх выпадках былі вытрыманымі і стараліся ўладзіць спрэчныя пытаньні мірным шляхам. Выклікаліся прадстаўнікі раённых установ і організацый, праводзілася адпаведная растлумачальная праца і „страсьці“ індывідуальнікаў улягаліся. Бяднейшым гаспадаркам комуна аказвала дапамогу ў сэнсе апрацоўкі зямлі, насеньнем і іншае.

Сяліб і гародаў індывідуальных гаспадарак комуна не парушыла, а зямлю для яравога кліну ім адрэзалі добрай якасьці ў адным кавалку па-за комунаю, так што зараз спрэчкі зьніклі. Асобныя індывідуальныя бядняцкія гаспадаркі падаюць заявы аб прыёме ў комуну.

Заканчваючы кароткі агляд стану і працы комуны Шлях Саветаў трэба сказаць, што за кароткі тэрмін свайго існаваньня, комуна мае значныя посьпехі ў разьвіцьці гаспадаркі, накіраванай па соцыялістычнаму шляху.

---

**Поляк.**

# Саўгас Доўжа. (Віцебскі раён).

На адлегласьці 22 кілёмэтраў ад гораду Віцебску, у кірунку на Ленінград, па абодвух бакох чыгункі раскінуў свае абшары саўгас Доўжа.

Яго вялікія абшары 677 га падперлі вуглы будынкаў бліжэйшых вёсак Максімава, Сафонава, Канавалава, Саўчанкі і іншых, уперліся ў адно з самых бальшых вазёр Беларусі—Лосьвідзкае.

Яго абшары зьмяшчаюць цэлы ланцуг вялікіх і маленькіх вазёр морэннага паходжаньня. З іх досыць значнае—Сасно, меншае—Варон, сярэдняе па велічыні Бязыменнае і Баранаўскае; усе яны злучаны невялічкай рэчкай Даўжанкай.

Усёй плошчы пад вадой у саўгасе Доўжа налічваецца 146,13 га.

Усе абшары саўгасу цяпер разьбіваюцца наступным парадкам:

Ральлі налічваецца 232,6 га, што складае 13,8% усёй ральлі па Даўжанскаму сельсавету. Плошча ральлі з 1928 г. належным чынам упарадкавана, разьбіта на дзевяціпалёвы севазварот.

Сухадольных сенажацяў—74,55 га. Забалочаных налічваецца 51 га.

Выгану—17,44 га, гароды павялічыліся з 3,27 да 6,54 га, патрэбна адмеціць, што ў гэтую лічбу ўваходзяць і гароды рабочых.

Плошча лесу 110,52 га. На сягонешні дзень вядзеньня культурнай лясной гаспадаркі няма і ня было па саўгасу.

Назіраецца значнае памяншэньне кустоў і дарог з 1928 г., а затое павялічваецца плошча іншых угодзьдзяў:

| Гады | 1927 г. | 1928 г. | 1929 г. | 1930 г. | |
|---|---|---|---|---|---|
| кустоў . . | 65.39. | 12.00. | 8.30. | 8.30. | у га. |
| дарог . . | 32.23. | 5.13. | 5.13. | 5.13. | „ |

Затое ідзе зьмяншэньне парку; за лік яго павялічваецца гарод і прысады.

| | 1927 г. | 28 г. | 29 г. | 30 г. |
|---|---|---|---|---|
| парк . . . . | 6.34. | 3.27. | 3.27. | 3.27 га. |
| прысады . . . | 3.5. | 4.9. | 4.9. | 4.9. „ |
| гарод . . . . | 3.27. | 6.54. | 6.54. | 6.54. „ |

Плошча саду ў саўгасе досыць вялікая—16.35 га, якая ў два разы больш за ўсе сады Даўжанскага сельсавету. Да гэтага часу сельтрэст не знайшоў магчымым дазволіць разьвясьці пітомнік тут на месцы ці даць адкуль-небудзь дзічкоў, якія вельмі неабходны для замены цэлага шэрагу аджыўшых дрэў. Цяпер у садзе налічваецца ўсяго 16 тысяч дрэў.

Увесь рэльеф абшараў саўгасу носіць морэнныя адзнакі: узгоркі, бугры, невялічкія нізіны, па некаторых мясцох ёсьць невялікія балоты, сьляды быўшых маленькіх вазёр.

Глеба па саўгасу неаднолькавая, у абсолютнай сваёй большасьці сугліністая, пераходзячая ў некаторых мясцох у гліну а мясцамі супяшчаная. Такая рознастайнасьць глебы дае магчымасьць з выгадай разводзіць караньплоды, травяніста-кармовыя расьліны, тэхнічныя культуры і садоўніцтва.

Каля шосэ цягнецца цёмнай сьцяной стары парк. Пагардна ўзьнімаюць свае верхавіны стагоднія таполі, дубы, сосны, елкі і розныя іншыя дрэвы. Па абодвах бакох шосэ, цесным радам стаяць старыя плакучыя бярозы.

Парк займае досыць значную плошчу—3.27 га. Раней быў недаступным месцам для працоўнага люду; тут эксплёататары пражыгалі сваё жыцьцё, марнавалі час і нішчылі народнае багацьце.

Гэты парк, каб мог разсказаць, быў-бы найлепшы сьведка ўсіх тых злачынстваў, якія рабіліся ў часе панаваньня абшарнікаў. Ня раз у час паншчыны агалашаўся ён стогнам і енкам працоўнага люду, якога білі бізунамі, адлічвалі „двадзесьце пеньць і яшчэ пеньць“, ставілі на мароз і ўчынялі розныя іншыя зьдзекі.

Быўшыя тут паны ўмелі браць ад усяго карысьць. Апошняя паня Карніловіч пабудавала двохпавярховы палац амаль што дарэмна, ня прызнаўшы закончаную працу добраякаснай ад падрадчыка, пры некаторых захадах змагла павярнуць чыгунку і шосэ бліжэй да маёнтку, хоць па пляну намячалася ўсё гэта правесьці на значнай адлегласьці ад Доўжы.

Прышоў год Кастрычнікавай рэволюцыі і маёнтак Доўжа з месца эксплёатацыі працоўных стаў толькі месцам працы.

Зьмяніўся ўладар гэтых абшараў. Зорганізавалася адразу тут комуна.

У комуне было на 85% латышоў, якія зьвярнуліся з фронту грамадзянскіх боек на фронт гаспадарчы. Былі між імі, якія ніколі не працавалі на зямлі, але тут з усёй шчырасьцю пачалі працу. Былі тут і аднадумцы панскія, якія пры ўсякім выпадку стараліся нашкодзіць комуне, падарваць аўторытэт комунара; не абышлося і бяз тых, якія ставілі сваёй мэтай разьдзяліць жывое цела комуны на часткі. Пры наяўнасьці ўсіх гэтых элемэнтаў, надта цяжка прыходзілася працаваць сапраўдным комунарам. Да ўсяго гэтага патрэбна яшчэ дадаць ліхалецьце, як пошасьць жывёлы: за адну ноч падохла ад чумы семдзесят штук кароў.

У 1922 годзе комуна змагла набыць ізноў каля трыццаці кароў, у гэты-ж год комуна перастала быць комунай і стала саўгасам. Пуск фабрык і заводаў значна адцягнуў працоўную сілу з саўгасу, самую дысцыплінаваную і самую стойкую. Аслабела зусім працоўная дысцыпліна, скарацілася пасеўная плошча; прышлося паднімаць гаспадарку рознымі шляхамі; штрафамі, нагародамі, чысткай і іншым. І толькі такімі мерамі ўдавалася некаторым парадкам захоўваць саўгас. Асабліва ўвесь час кепска абстаяла справа з падлікам.

Па саўгасу Доўжа на сёнешні дзень пад ральлёй лічыцца 232.6 га і ўся гэтая плошча апрацоўваецца 33 коньмі. Лік коняй за апошніх шэсьць год вызначаецца ў наступных лічбах:

| Гады. | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. | 1929 г. | 1930 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| жарабкоў . . . | 2. | 1. | 1. | 3. | 3. | 2. |
| кабыл племянных . | 1. | 2. | — | — | 2. | 1. |
| рабочых коняй . | 14. | 25. | 20. | 21. | 24. | 33. |
| маладняку . . . | 16. | 2. | 3. | 3. | 8. | 10. |
| | 33. | 30. | 24. | 27. | 37. | 46. |

Ня гледзячы на значнае павялічэньне коняй за апошні год, усё-ж такі рабочыя коні надта перагружаны, на кожнага каня прыпадае каля 8 га, тады як максымальнай нормай лічыцца ўсяго 7 га. Акрамя гэтага, часамі коні скарыстоўваюцца для перавозкі адкідаў з піваварнага заводу кожны дзень, і адвозяць малако ў горад за 22 кілёмэтра.

Нагрузка цягавай сілы ня толькі павялічылася ў сувязі з павялічэньнем плошчы ральлі, але і дзякуючы палепшаньню апрацоўкі зямлі. Адначасова з павялічэньнем нагрузкі значна павялічылася ўшчыльненьне працоўнага дня.

Праца, якая выконвалася ў 1927 годзе ў пэўны час праз два гады непараўнальна хутчэй выконваецца.

| Гады | 1927 | 1928 | 1929 |
|---|---|---|---|
| | 8 дзён | 6 дзён | 4 дні |

Лічбы гэтыя відавочна паказваюць вялікія дасягненьні ў гэтым, напрамку.

Мэтавая ўстаноўка саўгасу на працягу ня так доўгага часу зьмянялася некалькі раз. Да 1926 году ўстаноўка была — паказальная аграмаджаная сельская гаспадарка. З выхадам саўгасу з групавога аб'яднаньня новая ўстаноўка — племянная гаспадарка і цяперашняя мэтавая ўстаноўка ізноў зьменена: саўгас зьяўляецца—малочнай фэрмай.

Трэба сказаць, што такая частая зьмена мэтавых установак часамі вельмі кепска адбівалася на гаспадарцы, а часамі нават шкодна: грошы затрачваліся, набываўся інвэнтар, а потым ён заставаўся стаяць бяз усякага скарыстаньня, іржавеў, а самае лепшае — не выкарыстоўваўся з поўнай нагрузкай.

Устаноўка саўгасу, як племгасу, выявілася ў тым, што тут былі застаўлены розныя жывёлы: пачынаючы ад каня і канчаючы казой. Праўда, магчыма козы тут зьявіліся, як выпадковае зьявішча, але-ж усё-ткі заставаліся да 26 году.

На сьвіным стадзе была завострана ўвага. Была зроблена ўстаноўка памагчы вакольнаму насельніцтву разьвясьці добрую пароду сьвіней. У саўгасе былі набыты сьвіньні чыстай пароды ангельскай

ёркшыры, маткі і хракі. З сьвіньнямі былі вельмі частыя зьмены, ў 26 годзе саўгас быў племгасам толькі рагатай жывёлы, з гэтай прычыны ў 1928 годзе зусім ужо адсутнічалі ў саўгасе сьвіньні, а потым ізноў былі заведзены.

| Гады | 1925 г. | 26 г. | 27 г. | 28 г. | 29 г. | 30 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| хракоў. . . . . | 3 | 2 | — | — | 2 | 2 |
| матак сьвіней . . | 21 | 12 | 2 | — | 10 | 18 |
| подсьвінкаў . . . | — | — | — | — | 9 | 10 |
| парасят . . . . | 11 | — | — | — | 11 | 18 |
| | 35 | 14 | 2 | — | 32 | 48 |

Калі правесьці параўнаньне, дык будзем мець:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 100 | 040 | 006 | 0 | 091 | 137 |

адгэтуль відаць, што ня гледзячы на рэзкія зьмены ў сьвінагаспадарцы, усё-ж на працягу шасьці год мы маем значнае павялічэньне—37%.

Што датычыцца малочнай жывёлы, дык яна ўвесь час павялічвалася.

| | 1925 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 гады. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| кароў дойных . . | 39 | 35 | 64 | 91 | 93 | 120 |
| быкоў племянных . | 3 | 5 | 7 | 5 | 5 | 5 |
| маладняку . . . | 29 | 31 | 21 | 16 | 60 | 75 |
| | 71—100 | 71—100 | 92—130 | 112—158 | 158—232 | 200—282 |

Разьбіраючы вышэйпаказаную табліцу, мы бачым, што малочнае стада з кожным годам павялічваецца, асабліва вялікія скачкі назіраюцца ў 1927 г. і 1930 г.

Нязначны прырост цялят у гэтым годзе тлумачыцца тым, што ў гэтым годзе ў самы ацел адбылася эпідэмія, якая ў значнай колькасьці зьнішчыла ацеленых цялят.

У значнай частцы каровы саўгасу належаць да ангельскай пароды, чырвонай масьці: частка ёсьць кароў беларускай пароды і апошнія часы прыбылі каровы украінскай пароды.

Гады два таму назад быў зроблен вэтэрынарны агляд усіх кароў на прадмет годнасьці да малочнай гаспадаркі і выяўленьня сухотнасьці.

З павялічэньнем колькасьці кароў і паляпшэньня догляду за каровамі значна павялічыўся ўдой малака за апошнія гады. Гэта відаць за 1928 і 29 г. г., калі амаль пры аднолькавай колькасьці кароў удой павялічваецца на 45%.

| | 1925 г. | 26 г. | 27 г. | 28 г. | 29 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| малака ў літрах . | 20.806 | 63.749 | 101.916 | 148.611 | 215.284 |

калі мы возьмем сярэдні ўдой, дык пабачым цікавыя лічбы:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| малака . . . . . | 533,8 | 1821 | 1591,4 | 1633,0 | 2314,8 |
| %% . . . . . . | 100 | 341 | 296 | 324 | 424 |

Да апошняга году амаль усё сырое малако перараблялася на масла і сыр: тут-жа быў організаваны сыраварны завод і маслабойня, пры заводзе таксама быў зьліўны пункт сялянскага малака. Усяго

было па гадох перапрацавана малочных прадуктаў наступная колькасьць:

| | 1926 г. | 27 г. | 28 г. | 29 г. |
|---|---|---|---|---|
| у літрах . . . . . | 126.283 | 215.183 | 190.678 | 194.560 |

У гэтую колькасьць малака ўваходзіць як малако саўгаскіх кароў, так і сялянскіх, але патрэбна адзначыць, што колькасьць сялянскага малака з кожным годам памяншалася, значная частка пападала яго на рынак непасрэдна; калі ўзяць тыя самыя гады, дык адносна сялянскага малака мы пабачым наступнае:

| | 1926. | 27. | 28. | 29. |
|---|---|---|---|---|
| у літрах . . . . . . | 43.171 | 74.573 | 35.435 | 27.315 |

Калі ня браць 27 год, дык колькасьць сялянскага малака з кожным годам зьніжаецца.

Масла і сыру было выраблена за гэтыя гады:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| масла кг. . . . . | 381 | 902 | 2149 | 3.456 |
| сыру . . . . . | 5.441 | 19.816 | 11.536 | 14.321 |

Калі мы зьвернемся да балянсавай каштоўнасьці ўсяго жывога інвэнтару, дык мы пабачым надзвычайны рост яго і навад з вялікімі скачкамі, асабліва за два апошніх гады (рублі)

| | 1925 г. | 26. | 27. | 28. | 29. |
|---|---|---|---|---|---|
| племянны . . . . | — | — | 453 | 1.841 | 1841 |
| рабочы . . . . . | 1710 | 4188 | 3291 | 4.519 | 4880 |
| продуктовы . . . | 1606 | 2340 | 4024 | 137.165 | 13880 |
| маладняк . . . . | 1396 | 854 | 410 | 3.141 | 8704 |
| усяго . . | 4.712 | 7.381 | 8.178 | 22.666 | 29.335 |
| у %% . . | 100 | 157 | 173 | 481 | 622 |

З гэтае табліцы можна бачыць, што рост ідзе надзвыйчана хутка і за пяць год коўшт жывога інвэнтару вырас у 6,2 разы.

Справа жывёлагадоўлі і вырабы малочных прадуктаў за гэтыя гады палепшыліся.

З палепшаньнем жывёлагадоўлі, з павялічэньнем колькасьці як рабочай жывёлы, таксама і продуктовай, у значнай ступені паляпшаліся і ўраджаі з году ў год.

На ня зусім вялікай плошчы ральлі, саўгас пераважнае значэньне аддаваў кармовым расьлінам і прапашным культурам, каторыя досыць добра родзяцца. У значнай меры павялічвае ўраджай і палепшаньне самага ворыва зямлі, якое ідзе не за лік павялічэньня працоўных рук, а з прычыны ўшчыльненьня працоўнага дня, бо колькасьць рабочай чалавечай сілы ня толькі не павялічваецца, але нават памяншаецца— раней было 36 чалавек, а цяпер 33. У значнай меры паляпшаецца ўраджай і з прычыны павялічэньня ўгнаеньня. Угнаеньне саўгас ужывае рознае, пачынаючы ад звычайнага гною і канчаючы рознымі штучнымі ўгнаеньнямі, асабліва за апошні год.

| | 1925. | 1926. | 1927. | 1928. | 1929. |
|---|---|---|---|---|---|
| у цэнт. гною . . . | 772.272 | 690.660 | 741.141 | 805.000 | 724.460 |
| супэрфас. . . . . | — | — | 8.093 | 22.252 | 5.690 |
| сульфамон. . . . | — | — | — | — | 1.735 |

| | 1925. | 1926. | 1927. | 1928. | 1929. |
|---|---|---|---|---|---|
| фосфар. мук. . . . . | — | — | — | — | 16.000 |
| калійная соль . . . | — | — | — | — | 200 |
| тамашлак . . . . | — | — | — | 869 | — |
| сялітра . . . . . | — | — | — | — | 120 |

Сказаць, што саўгас добра паставіў справу з угнаеньнем—ні ў якім разе ня можна, бо штучныя ўгнаеньні пачалі ўжывацца толькі з 27 году, а дзякуючы гэтаму некаторыя ўгнаеньні яшчэ не пачалі нават і дзейнічаць, з гэтага таксама году пачалося і вапнаваньне, але пакуль што ня прыходзіцца і гаварыць абім.

Значна залежыць павышэньне ўраджаю і ад машыннай апрацоўкі, але тут патрэбна сказаць, што на тэрыторыі саўгасу покуль што складаныя машыны ня ўжываюцца за іх адсутнасьцю: тыя-ж, якія ўжываюцца ў гаспадарцы, скарыстоўваюцца досыць добра. Ніжэй прыведзена табліца па скарыстоўваньню машын. У лік машын па абмалоту ўключаецца складаная машына з лёкамабілем, які зусім нерэнтабельна скарыстоўваецца на працягу ўсяго гаспадарчага году, за выключэньнем малацьбы. У далейшым патрэбна на гэта зьвярнуць увагу і замест яго патрэбна даць абавязкова трактар, які будзе скарыстоўвацца на працягу ўсяго гаспадарчага году.

| Машыны: | Лік маш. | 1925 Дзён. | 1925 Плошча | 1926 | | | 1927 | | | 1928 | | | 1929 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Глебаапрацоўч.. | 17 | 523 | 95,5 | 17 | 522 | 84,5 | 20 | 690 | 114 | 20 | 580 | 104 | 19 | 510 | 102,5 |
| Пасеўныя . . | 3 | 29 | 80,5 | 3 | 72 | 61,5 | 5 | 330 | 78,5 | 2 | 56 | 78,5 | 3 | 22 | 68 |
| Уборачныя . . | 10 | 50 | 87,5 | 9 | 42 | 92 | 8 | 39 | 80 | 8 | 46 | 93 | 9 | 31 | 78 |
| Па малацьбе . | 2 | 53 | 88,5 | 2 | 35 | 69 | 2 | 50 | 81,5 | 3 | 54 | 90 | 4 | 55 | 75,6 |

У зьвязку з лепшай выпашкай зямлі, угнаеньня і яшчэ іншых момантаў, павялічваецца паступова і ўраджай, калі ня лічыць гадоў недароду 1927-28.

| Ураджай на га у кг. | 1925. | 1926 | 1927 | 1928 | 1929 |
|---|---|---|---|---|---|
| жыта . . . . . . | 1366 | 1176 | 1490 | 362 | 725 |
| авёс . . . . . . | 674 | 518 | 704 | 806 | 12855 |
| віка семен. . . . . | 1112 | 946 | — | — | 2070 |
| віка карм. . . . . | 6806 | 5400 | 7200 | 7120 | 33548 |
| сенажаць . . . . | 1571 | 1542 | 2160 | 1112 | 695 |
| канюшына . . . . | 1391 | 1218 | 1470 | 1729 | 2307 |
| насен. канюш. . . | 198 | 182 | — | 116 | 110 |
| салома арж. . . . | 1660 | 1430 | 1770 | 533 | 1824 |
| яравая . . . . . | 781 | 654 | 805 | 1908 | 1228 |
| мякіна . . . . . | 53 | 51 | 58 | 112 | 194 |
| бурак карм. . . . | 9510 | 9224 | 5020 | 6263 | 25306 |
| бульба . . . . . | 9224 | 9089 | 6031 | 4785 | 10568 |
| | 35.335 | 31.530 | 26.706 | 23.935 | 79.860 |

Самая нізкая ўраджайнасьць падае на 28 год, год значнага недароду. Апошні год выдаўся добры ўраджай, але ня толькі дзякуючы

прыродным умовам, але і дзякуючы лепшай пастаноўцы сельскай гаспадаркі; калі мы возьмем процантныя адносіны, дык лічбы будуць наступныя, па тых-жа самых гадох:

100. 089. 078. 069. 230.

Самы меншы процант ураджайнасьці ўсіх культур на га падае на 28 г. Калі разабрацца ў ураджайнасьці кожнай культуры, дык мы пабачым, што ўраджайнасьць асноўных культур гаспадаркі, як малочнай базы, кармовыя расьліны і прапашныя культуры па ўсіх гадох стаяць непараўнальна вышэй за другія культуры, а асабліва вельмі добры ўраджай выдаўся на гэтыя культуры ў апошні 1929 гаспадарчы год. Гэта лішні раз падкрэсьлівае правільнасьць апошняй устаноўкі зробленай кіруючымі органамі.

З усіх культур па ўраджайнасьці зварачвае на сябе ўвагу віка, як зялёны корм, даўшая рэкордную лічбу, кармовыя буракі, бульба і канюшына.

Што датычыцца жыта, дык памяншэньне ўраджайнасьці тлумачыцца тым, што засеў быў зроблены ня тутэйшым жытам, а прывазным—піткуцкім і кліматычныя ўмовы зрабілі кепскі ўплыў на яго.

Наогул паляводзтва значна палепшылася за апошні момант. Жыта 1928 году прыходзілася на адну затрачаную адзінку працы—чалавека дзён 75 к., а ў 1929 годзе — 228 к, павялічэньне на 204%., а т. с. зьнізіўся сабекошт з 20 р. 80 кап. на 12 р. 71 кап. ці на 40% (без накладных выдаткаў). Бульба ў тыя гады з 131 кг. на 282 кг. ці 18% і кошт з 3 р. 42 к. на 2 р. 04 к. альбо 39%. Караньплоды—217 кг на 239 кг ці на 11%, кошт з 2 р. 65 к. на 1 р. 34 к.—50%. Авёс—149 кг на 616 кг ці 313% і кошт з 6 р. 46 к. на 4 р. 10 к. альбо 37%.

З гэтых вельмі цікавых лічбаў яскрава відаць, наколькі паляпшалася справа паляводзтва за апошнія два гады.

Паляпшэньне паляводзтва і жывёлагадоўлі ў значнай ступені патрабавала і большага ўкладу капіталу як у адну, так і другую галіну гаспадаркі; апошняе магчыма бачыць з ніжэйпаказанай табліцы.

| | 1925. | 1926. | 1927. | 1928. | 1929. |
|---|---|---|---|---|---|
| зямельн. ўгодзьдзі | 12059 р. 39 к. | 15228 р. 45 к. | 17284 р. 40к. | 16030 р. 99к. | 23570 р.77к. |
| | 100 | 126 | 143 | 133 | 195 |
| жывёлагад. | 4364 р. 11 к. | 8461 р. 00 | 23884 р. 58 к. | 29028 р. 80к. | 26278р.58к. |
| | 100 | 193 | 552 | 663 | 602 |

Калі ўзяць агульную суму, дык пабачым надзвычайна паступовы і нават законамерны рост укладаў у гэтыя галіны гаспадаркі:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| % % | 100 | 145 | 250 | 275 | 304 |

Асабліва рэзкі скачок назіраецца за 27 год—год значнага павялічэньня крэдытаў і большай увагі соцыялістычнаму сэктару. Калі-ж мы возьмем апошні год, дык тут непараўнана больш павялічыцца гэты процант у 1930 год, калі фактычная закупка рабілася на мясцовым рынку, а т. с. і на рынку значнай адлегласьці—Украіна.

Калі мы зьвернемся да колькасьці патрачаных чалавекадзён на паляпшэньне гаспадаркі, дык заўважым паступовы рост з маленькім хістаньнем у 26 г. і 29 г., дзе назіраецца вялікае зьніжэньне; што датычыцца каштоўнасьці аднаго дня, дык тут якраз наадварот ідзе па-

ступовае павялічэньне, што сьведчыць за ўшчыльненьне дня і палепшаньні матар'яльнага становішча рабочых:

| | 1925 г. | 26 | 27 | 28 | 29 |
|---|---|---|---|---|---|
| чалавекадзён . . | 14069 | 12886 | 14030 | 16374 | 15795 |
| | 100 | 094 | 100 | 116 | 112 |
| каштоўн. дня . . | 328 | 515 | 823 | 776 | 890 |
| | 1 р. 16 | 1 р. 84 | 2 р. 93 | 2 р. 75 | 3 р. 16 |
| % % | 100 | 158 | 252 | 235 | 273 |

Як відаць з табліцы каштоўнасьць аднаго дня ідзе з году ў год на павялічэньне за выключэньнем 28 году—году значнага недароду, недахопу крэдытаў і таннасьці рабочае сілы.

Акрамя адзначанага росту па ранейпералічаных галінах назіраецца рост і па ўсёй гаспадарцы ў цэлым.

Асноўны капітал павялічваецца з кожным годам: (гады 1926—29).

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 59.551. | 69.927. | 82.077. | 102.815. |
| у % % | 100. | 118. | 137. | 172. |

З павялічэньнем асноўнага капіталу, як звычайнае зьявішча павінна павялічвацца і запазычанасьць, але па саўгасу Доўжа яна ў значнай меры адстае ад асноўнага капіталу. Тут нават назіраюцца значныя скачкі як у бок зьмяншэньня, так і ў бок павялічэньня:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 2.850. | 2.848. | 6.691. | 11.861. |
| 100. | 099. | 239. | 416. |

Аб росьце гаспадаркі магчыма меркаваць па балянсу і звароту: апошнія выражаюцца ў наступных лічбах за тыя самыя гады 1926—29.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Балянс . | 67.549. | 76.021. | 121.690. | 180.790. |
| % % | 100 | 112. | 181. | 266. |
| Звароты . | 314.698. | 601.814. | 737.293. | вестак няма. |

Такі вялікі скачок за апошні 29 год тлумачыцца тым, што сума ўзята за васемнаццаць месяцаў.

Пры саўгасе Доўжа ёсьць млын і пры ім лесапілка.

Гэтыя даходныя крыніцы залежаць ад ураджайнасьці вакольных гаспадарак; што датычыцца лесапілкі, дык яна амаль абсолютна занята толькі абслугоўваньнем сваёй гаспадаркі.

Лік рабочых амаль што на працягу ўсяго часу існаваньня саўгасу заставаўся той самы з маленькім хістаньнем.

Контынгент рабочых досыць бягучы. Калі мы разаб'ем усіх рабочых па часе іх знаходжэньня ў саўгасе, дык будзем бачыць наступны малюнак: 1 год—10 чал.; 2 гады—7 чал.; 3 г.—9 чал; ад 5да 7 г.— 5 чал. і звыш—2 чал., а ўсяго налічваецца на сучасны момант 33 рабочых. Ніжэйпрыведзеная табліца дае нам разьбіўку ўсіх рабочых і служачых за азначаныя гады па соцыяльнаму складу і іншых рубрыках:

| Гады | Дарослых | Падлеткаў | К.П.Б. | К.С.М. | Бесп. | Батр. | Сялян | Інш. | Бел. | Руск. | Іншых | М. | Ж. | Ч. с. х. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1927 . . . . | 34 | 2 | 2 | 2 | 32 | 17 | 15 | 4 | 22 | 5 | 9 | 25 | 11 | 35 | 36 |
| 1929 . . . . | 30 | 2 | 1 | 3 | 28 | 17 | 10 | 5 | 25 | — | 7 | 21 | 11 | 32 | 32 |
| 1930 . . . . | 31 | 2 | 4 | 3 | 26 | 18 | 9 | 6 | 24 | — | 9 | 22 | 11 | 33 | 33 |

Бягучасьць рабочых, аб якой прыходзілася ўжо гаварыць раней, тлумачыцца кепскімі кватэрнымі ўмовамі ў саўгасе.

Зарплата выплачваецца па 9-разраднай сетцы і ў большай частцы па чацьвертаму разраду—1 руб. 30 кап. у дзень і з кожным годам ідзе на павышэньне:

| | 1926 г. | 27 г. | 28 г. | 29 г. | 30 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| зарпл. у сярэднім . | 23 | 28 | 30 | 38 | 41 |
| (у рублёх) | 100 | 121 | 130 | 169 | 175 |

Культурная праца па саўгасу праводзіцца. У саўгасе ёсьць двухкомплектавая школа, хата-чытальня, клюб, дзе час-ад-часу ставяцца пастаноўкі самімі-ж рабочымі. За апошні навучальны год існаваў лікпункт, на якім малая колькасьць асоб ліквідавалі сваю няпісьменнасьць, існавала школа малапісьменных.

Працуе вытворчая камісія і пастановы яе ў значнай меры паляпшаюць усю працу саўгасу.

Саўгас не прайшоў міма социялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва. Апошняе ўжывалася ў апошнія часы пры ўборцы ўраджаю. Што датычыцца спаборніцтва, дык яно было заключана між саўгасамі Доўжа і Цераспаль.

Асноўныя пункты: павялічэньне ўраджайнасьці, ужываньне больш палепшаных машын вытворчасьці, лепшы догляд жывёлы, агляд саду. Усе гэтыя пункты дагавору выкананы на ўсе 100 проц. Пункт-жа спаборніцтва між асобнымі рабочымі поўнасьцю ня выкананы. Асноўная прычына невыкананьня—існаваньне на тэрыторыі саўгасу продажы сьпіртусавых напіткаў. Некалькі разоў ставілася пытаньне аб забароне продажы напіткаў, але і да сягонешняга дня яна застаецца, гэта ў значнай меры павялічвае цяжкасьць павышэньня вытворчасьці працы, зьмяншае спаянасьць і організаванасьць усёй працоўнай масы саўгасу.

Саўгас за час свайго існаваньня стараўся выканаць ускладзеныя на яго партыяй і савецкай уладай абавязкі ў галіне падвышэньня ўраджайнасьці, палепшаньня жывёлагадоўлі ў індывідуальным сэктары. Саўгас раздаваў племянную жывёлу, абменьваў чыста-гатунковае насеньне на звычайнае і інш. Пачынаючы з 1925 г. саўгасам Доўжа ў жывёлагадоўчым напрамку зроблена наступнае:

| Гады | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. | 1929 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| злучана кабыл . . | 56 | 44 | 38 | 28 | 13 |
| „ кароў . . | 157 | 112 | 286 | 230 | 194 |
| „ сьвіней . . | „ | 60 | — | — | 6 |

Такое паступовае памяншэньне злучкі кабыл тлумачыцца павялічэньнем злучных пунктаў наўкола саўгасу Доўжа і павялічэньнем колькасьці сялянскіх жарабцоў; тое самае датычыцца і злучкі кароў.

Значны ўплыў мела на палепшаньне жывёлагадоўлі ў сялянскай гаспадарцы продаж маладняку сялянам:

| гады | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. | 1929 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Цёлак . . . . . | 4 | 4 | 8 | 4 | 17 |
| Бычкоў . . . . | 3 | 2 | 6 | 4 | 5 |
| Жарабят . . . . | 2 | 1 | — | 3 | — |
| Парасят . . . . | 10 | — | — | — | 108 |
| Усяго. . . | 17 | 7 | 14 | 11 | 120 |
| % % | 100 | 041 | 082 | 064 | 706 |

Як відаць з табліцы продаж маладняку асабліва дала вялікі скачок у апошні год за рахунак парасят, што датычыцца іншых гадоў, дык значная колькасьць маладняку ішла на папаўненьне свайго статку.

Таксама шмат зроблена саўгасам для вакольнага насельніцтва ў сэнсе паляпшэньня насеннага фонду і самай ачысткі, за тыя-ж гады:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Ачыст. азімага . . | 220 | 7012 | 2870 | 45841 |
| Ачыстка ярав. . . | — | 5350 | 10027 | 25344 |
| Абмен азім. . . . | 4799 | — | 1324 | — |
| Абмен аўсу . . . | 688 | — | 21700 | — |
| Прадана жыта . | — | — | — | 19798 |
| Канюшыны насеньня | 540 | — | 86 | — |

Ачыстка, як відаць з табліцы, пачынаючы з 26 г. з кожным годам павялічвацца і дасягае ў апошні год досыць вялікай лічбы.

Патрэбна адзначыць і тое, што саўгасам рабілася акаляючаму насельніцтву дапамога сельска-гаспадарчым інвэнтаром пачынаючы звычайным плугам і канчаючы касілкай і жняяркай; за тыя самыя гады мы маем наступныя лічбы:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пракат . . . . . . . . | — | — | 2 | 1 | 10 |
| Плугоў . . . . . . . . | 10 | 30 | 14 | 18 | 18 |
| Акучнік. . . . . . . . | 2 | — | 8 | 4 | — |
| Спруж. бар. . . . . . | — | 15 | — | — | 8 |
| Барон інш. . . . . . . | 12 | 27 | 15 | 14 | 6 |
| Веялак . . . . . . . . | 2 | 4 | 23 | — | — |
| Малатар. . . . . . . . | — | — | 22 | — | — |
| Жняярак . . . . . . . | — | 22 | — | — | — |

Зьмяншэньне апошні год дапамогі машынамі акаляючаму насельніцтву тлумачыцца тым, што непараўнальна больш аказаліся нагружаны машыны ў сваёй гаспадарцы, чым былі раней; аб гэтым сьведчыць і лепшая апрацоўка зямлі.

У апошні 1929 г. была зроблена маленькая спроба і іншай сувязі з акаляючым насельніцтвам — гэта рамонт сельска-гаспадарчага інвэнтару: было адрамантавана ў саўгаскай кузьні плугоў 32 шт., барон — 12, падкована коняй 64, адрамантавана 8 калёс і рознага інвэнтару сельска-гаспадарчага — 4.

---

**Е. П. Зырко.**

# Рэволюцыйны рух у Юравіцкім раёне.

1905 год у Юравіцкім раёне быў падрыхтаваны папярэдняй рэволюцыйнай чыннасьцю. Яшчэ ў 1902 г. у Юравічах сярод рабочай моладзі, сярод моладзі саматужніцкай ужо прыкмячалася рэволюцыйная ўзварушанасьць думкі, але гэта ня мела пэўнага організацыйнага аформленьня. У пачатку 1903 г. у Юравічах аформілася рэволюцыйная організацыя. Організацыя складалася выключна з яўрэйскай моладзі і яна ня мела ніякай палітычнай програмы і была досыць буйной — 50 чалавек. Організацыя мела кіраўнічае ядро і разьбілася на 4 гурткі для вядзеньня гуртковых заняткаў. На занятках чыталася рэволюцый-

ная літаратура і было абгаварэньне прачытанага. Кіраўнікамі тагочасных гурткоў Юравіцкай організацыі былі: Шэрман Гірша Лэйзэраў, Юравіцкі кравец, Бабіцкі Арон Масееў, Міляўская Эстра і Добкіна Шэйна. Апошняя кіравала рэволюцыйным гуртком, хоць сама была зусім няпісьменнай. Гурткі зьбіраліся рэгулярна два разы ў тыдзень і ўсе сябры заняткі наведвалі дружна.

Пасьля організацыя перайшла ад гуртковай працы да агульных сходаў. На сходах пачалі абмяркоўваць пытаньні і агульна-політычнага характару: аб зьнішчэньні самаўладзтва, аб стварэньні народнай рэспублікі на падставе простага, роўнага і тайнага выбарчага права, аб 8-гадзінным працоўным дні і аб перанясеньні сваёй працы на вёску, у беларускую моладзь. Ад Мазырскай організацыі ў Юравічы для кіраўніцтва быў прысланы ў форме студэнта грамадзянін м. Юравічы Мяланіч Рыгор Міхайлаў, пасьля чаго ў Юравіцкую організацыю пачала ўлівацца сялянская моладзь, сярод якой быў вельмі паважаны ўсімі, вытрыманы, сьвядомы і рашучы чалавек, малады каваль м. Юравіч Казлоўскі Юльян Данілаў. У 1904 г. актыў Юравіцкай організацыі складаўся:

1. Мяланіч Рыгор Міхайлаў—памёр.

2. Шэрман Гірша Лэйзэраў—кравец м. Юравічы, дзе жыве і працуе і цяпер.

3. Бабіцкі Арон Масееў—настаўнік Юравіцкяй яўшколы, цяпер сябра Мазырскага Акрсуду.

4. Казлоўскі Юльян Данілаў—памёр у ссылцы.

5. Міляўская Эстра—цяпер у Амэрыцы.

6. Палуян Сяргей Іванаў—сын Крышыцкага пана, быў выгнаны бацькамі і яго паўсюды шукала жандармэрыя. У Кіеве яго абкружылі і ён, каб ня здацца, застрэліўся.

7. Добкіна Шэйна—цяпер у Амэрыцы.

8. Гурэвіч Арон Хаімаў—цяпер працуе ў Рэчыцкай Аптэцы.

9. Іёфэ Зусь Шмуйлаў—цяпер у Амэрыцы.

10. Целеш Апанас Уладзіміраў—селянін с. Юравіч, дзе жыве і цяпер, працуе шаўцом.

11. Паташка Пятро Васілёў—селянін с. Юравіч. У 1928 г. быў пастухом у Юравічах.

12. Балаш Янка Маркаў—селянін хутара Берасьнёўкі, 20 гадоў быў у ссылцы (12 гадоў катаржнай працы адбыў і 2 гады на вольным пасяленьні, адкуль вярнуўся на бацькаўшчыну ў 1925 г.).

13. Паташка Рыгор Іванаў—селянін с. Юравіч, дзе жыве і цяпер.

14. Целеш Іван Андрэеў—селянін с. Юравіч, дзе жыве і цяпер, працуе краўцом.

15. Яшчанка Хвёдар Лаўрэнаў—селянін с. Юравіч, дзе жыве і цяпер.

Юравіцкая організацыя пачынае праводзіць свае масавыя адчыненыя сходы ў лесе, організуючы іх у сьвяты, каб магчыма было большаму ліку людзей наведваць іх. Сходы былі шматлюднымі. Сярод членаў організацыі абавязкі былі дасканала разьмеркаваны, бо ў 1905 г. організацыя перайшла на нелегальную форму працы і высочвалася паліцыяй. Кожны сход з усіх бакоў вартаваўся членамі організацыі, каб папярэдзіць зьяўленьне паліцыі.

Актыў організацыі сваю працу пераносіць і на вёску, і там наладжваецца цесная сувязь з т. Валадковічам, гр. м. Хойнікаў, і т. Акуленкам Сьцяпанам Аляксандравым, гр. в. Тульгавіч.

Організацыя распачала працу і сярод рабочых панскіх маёнткаў. Спачатку організацыя падштурхнула рабочых узьняць пытаньне аб павялічэньні заработнай платы і заснаваньні рэволюцыйных ячэек.

Працоўны дзень рабочых у панскіх маёнтках аплачваўся 25 к. Вясною 1905 г. організацыя пад кіраўніцтвам Паташкі Пятра Васілёва ў ліку 12 чалавек наладжвае дэмонстрацыю з чырвоным сьцягам на поле да рабочых з заклікам спыніць працу і дамагацца павялічэньня платы. Рабочыя кінулі поле, некаторыя з іх напалохаліся „дэмократаў“ з чырвоным сьцягам, іншых прагналі гвалтам. Падобныя выступленьні былі праведзены па ўсіх маёнтках.

Рэволюцыйная організацыя дамагалася таго, што паны былі згодны распачаць перамовы, у выніку іх працоўны дзень аплачвалі ў 40 к. Гэта ўмацавала аўтарытэт організацыі сярод сялян і заснавалася тры вясковыя рэволюцыйныя ячэйкі: Крышыцкая, Алексіцкая і Тульгавіцкая, але вытрымана—рэволюцыйнай паказала сябе толькі Тульгавіцкая ячэйка. У Крышыцкай ячэйцы на сходах толькі чыталіся проклямацыі і рэволюцыйныя брошуры. Алексіцкая організацыя была пад уплывам папа Ваяводзкага, які чытаў і тлумачыў рэволюцыйную літаратуру з папоўскага пункту погляду, адмаўляючы неабходнасьць рэволюцыйнай барацьбы. Кіраўнікі Юравіцкай організацыі выяжджалі ў Алексічы. У выніку іх прыезду актыў Алексіцкай організацыі выказаў згоду выступіць перад панам з патрабаваньнем павялічэньня зарплаты, але калі на гэта выступленьне блаславіць поп. А поп Ваяводзкі не параіў выступаць адной вёсцы. Гэтым часам у Алексічы зьявілася поліцыя, арыштавала ініцыятыўную групу, дала ёй бізуноў і гэтым справа скончылася.

Тульгавіцкая ячэйка была організавана былым ссыльным Сьцяпанам Акуленкам. Організацыя спачатку мела партыйную сямёрку: Акуленка Сьцяпан Аляксандраў (цяпер працуе ў Днепрапятроўску), Акуленка Міхал Аляксандраў (там-жа), Петралай Людамір Казіміраў (цяпер фэльчарам у Пэрсіі), Петралай Антон Казіміраў (памёр у ссылцы), Фрыдман Анцэль Янкелеў (у Тульгавічах арандуе млын), Фрыдман Піня Лазараў (у Амэрыцы), Валасік Язэп Мікалаеў (цяпер працуе ў Днепрапятроўску). Сямёрка індывідуальна апрацоўвае насяленьне для вярбоўкі ў свае шэрагі; організацыя апрача пералічаных мела яшчэ наступных членаў:

1. Пятручэнка Максім Іванаў—выехаў на Урал.
2. Акуленка Андрэй Навумаў—жыве ў Тульгавічах.
3. Міхед Рыгор Зосімаў—жыве ў Тульгавічах.
5. Бондар Язэп Хрытонаў—жыве ў Тульгавічах, член КПБ. Увашоў у колгас.
5. Краснабарод Віктар Іванаў—жыве ў Тульгавічах.
6. Міхед Максім Мінаў—таксама.
7. Туровец Сава Язэпаў—Старшыня Тульгавіцкага коопэратыву.
8. Зых Архіп Антонаў—жыве ў Тульгавічах, бядняк.
9. Міхед Арсен Мікітаў—таксама.
10. Петралай Валяр‘ян Казіміраў—таксама.
11. Краўчанка Мікалай—пераехаў на Урал.
12. Акуленка Хвёдар Навумаў—жыве ў Тульгавічах серадняк.

У выніку дзейнасьці ячэйкі вёска Тульгавічы робіцца рэволюцыйным цэнтрам на значнай тэрыторыі. Тут адбываюцца масавыя сходы, мітынгі, лекцыі, дыскусіі. Сходы ў Тульгавічах былі такімі шматлюднымі, што на іх амаль усё дарослае насяленьне вёскі прысутнічала. На сходы насяленьне прыходзіла прыбранае як у сьвяты, часта сходы цягнуліся два-тры дні з перарывамі. Чыны паліцыі ў ліку 2-3 былі бясьсільны ў Тульгавічах, баяліся нават на вочы паказацца, і жандармэрыя ўсё тульгавіцкае насяленьне лічыла дэмократамі.

У часе аднаго мітынгу ў 1905 г. т. Валатковіч, Акуленка і Казлоўскі ў м. Хойніках забіваюць урадніка. Гэта забойства пацягнула за сабой узмацненьне барацьбы з рэволюцыйнымі організацыямі наогул. Жандармэрыя шле ў в. Тульгавічы старога жандарма Міколу Пігулеўскага, якога ў 1919 г. у г. Гомлі чырвонаармейцы расстралялі. Пігулеўскі, як правакатар, у в. Тульгавічах вярбуе ў Тульгавіцкую організацыю мясцовага сядзельца (прозьвішча невядома), а ў Юравіцкую організацыю Шандаровіча Мотэля (цяпер у Амэрыцы).

25 сьнежня 1906 г. Тульгавіцкая організацыя наладжвае шматлюдны мітынг усяе вёскі і Тульгавіцкі сядзелец на мітынгу выступае супроць рэволюцыйнай агітацыі. У адказ на гэта ўдзельнікі мітынгу крычалі „далоў“. Тады сядзелец пачаў пагражаць наганам, які даў яму Пігулеўскі, каторы сядзеў схаваным на гародзе. Сядзелец хацеў забіць Акуленку Сьцяпана і Валатковіча. Народ ня даў яму магчымасьці выканаць намер і прагнаў сядзельца з трыбуны. Узьняўся вялікі тлум. Сядзелец хацеў страляць у члена організацыі Міхеда Максіма, але Казлоўскі Юльян стрэліў з паляўнічага ружжа ў сядзельца, і той паранены зьбег у маёнтак пана Солтана Константына. Маса народу бегла ўсьлед за сядзельцам да самага маёнтку, страляючы ў правакатара. Сяляне нават абкружылі дом Солтана, але сядзелец, пераапрануты, пасьпеў схавацца ў лесе. Сяляне за тое, што пан садзейнічаў схавацца правакатару, разбураюць яго маёнтак з крыкамі: „Далоў самаўладзтва!“ „Бі паноў!“ Ужо 1 студзеня 1907 г. усю вёску Тульгавічы абкружылі 200 казакаў і 50 жандараў. Да гэтага часу нават старому жандару Пігулеўскаму, ня гледзячы на дапамогу правакатара, не ўдалося схапіць ніводнага кіраўніка організацыі. Казакі і жандары, захапіўшы вёску, сагналі ўсіх мужчын вёскі (ад 15 г.) у цэнтар вёскі і распачалі публічную экзэкуцыю. Ёсьць грамадзяне, як напр. Фрыдман Анцэль, Міхед Максім, у якіх да гэтага часу захаваліся сьляды жандарскіх шампалоў і бізуноў. Кіраўнік організацыі схаваўся. Зьбіўшы ўсіх мужчын, жандары пачалі трусіць усе хаты і толькі ў аднэй вёсцы Тульгавічах было знойдзена два вазы рознага аружжа. На другі дзень правакатару Шандаровічу ўдалося заманіць у сынагогу для спатканьня тав. Казлоўскага Юльяна і там выдаць у рукі жандараў, якія адразу закавалі яго ў кайданы і пад канвоем 10 жандараў з голымі шаблямі вадзілі яго па Юравічах. Але т. Казлоўскі, які раней ужо сядзеў у Рэчыцкай і Арлоўскай турмах, трымаў сябе з гонарам і яго арышт на масу не зрабіў жаданага для жандараў уплыву. Рэволюцыйная організацыя Юравіч у часе аднэй перастрэлкі разагнала ўсіх жандараў Юравіч. Гэта было ў момант, калі організацыя пасьля свайго сходу організаваным парадкам з чырвоным сьцягам праходзіла па вуліцах Юравіч і страляла ў вакно дому пристава. Увосень 1906 г., калі з царскай арміі вярнуліся ўдзельнікі руска-японскай вайны, быў такі эпізод барацьбы: дэмобілізаваныя з гарэлкай сустракалі сваіх вясковых

таварышоў і п'яныя хадзілі па вуліцах. Было нейкае сьвята. На вуліцах шмат было народу, гаварылі аб рэволюцыйных выступленьнях рабочых, аб разгроме паноў у іншых раёнах. Сярод народу юравіцкая організацыя вяла агітацыю за зьнішчэньне самаўладзтва, за разгон поліцыі і ўлады, за організаванае выступленьне супроць паноў. Жандары арыштавалі некаторых прыбыўшых з арміі, з іх гр. Шаўлоўскага Івана Назарава моцна пабілі, хоць за яго і ўступіліся ўсе, хто быў. Поліцыя павяла Шаўлоўскага і іншых для допытаў к прыставу, але двор прыстава хутка быў абкружаны народам. Прыстаў Лявонаў загадаў страляць, і жандары спачатку стралялі ўверх, а потым і ў народ. Быў забіты грам. в. Бальшыя Аўцюцевічы Гарыст Іван Міхайлаў. Народ адступіў. З боку жандараў і поліцыі юравіцкага раёну найвялікшую актыўнасьць выявілі:

1. Барысенка Міхайла Сьцяпанаў — стражнік, лічыўся чалавекамзьверам, селянін в. Баруск, дзе жыве і цяпер.
2. Лабяк Сяргей Іванаў—стражнік, селянін сяла Юравіч.
3. Яшчанка Сьцяпан Аўсееў—стражнік, селянін сяла Юравіч.
4. Гарчанка Міхайла Рыгоравіч—цяпер памёр.
5. Каўщун Хвёдар Міхайлаў—гарадавы, селянін с. Юравіч.

У другіх мясцох ня было організаваных выступленьняў з боку рэволюцыйных організацый. Увесь рух быў пераважна эсэраўскім, бо яго програма ў канцы прыводзіла да аднаго: перадзелу панскай зямлі. Кіраўнікі рэволюцыйнай організацыі былі ўдалены: Валатковіча забілі, Казлоўскі Юльян і Мяланіч Рыгор памерлі ў ссылцы, астатнія былі пасаджаны ў турмы, і рэволюцыйны рух заціхнуў да 1917 г.

## Люты ў Юравічах.

Весткі аб лютаўскіх падзеях у Ленінградзе ў 1917 г. дайшлі ў юравіцкі раён праз 20 дзён у значна зьмененым выглядзе. Насяленьне недаверліва аднеслася да гэтых падзей Валаснoе праўленьне на чале са старшынёю кулаком в. Глінішча Мележам кіравала, як і раней, паводле законаў і парадкаў цара роўна 1½ месяцы. У красавіку 1917 г. у Юравічы прыходзіць інструкцыя аб неабходнасьці організаваць часовыя выканаўчыя камітэты. Валаснoе праўленьне, якое знаходзілася ў руках паноў, доўга знаёмілася з інструкцыяй. Ініцыятыўная група штурмуе валаснoе праўленьне і вымагае неадкладнага склiканьня валаснoга сходу і абвяшчэньня інструкцыі і дырэктыў адносна рэволюцыі. Праз тыдзень пасьля гэтага зьбіраецца валасны сход і абіраецца часовы выканаўчы камітэт у складзе:

1. Гаховіч—старшыня камітэту—Юравіцкі поп.
2. Еўплаў—член камітэту—пан маёнтку Каралін.
3. Барташэвіч—член камітэту—земскі фэльчар.
4. Позьняк—член камітэту—мясцовы настаўнік.
5. Зісэрман—член камітэту—ад яўрэйскага насяленьня м. Юравіч.
6. Клемпач Зьмітро—член камітэту—селянін в. Слабодкі.
7. Мележ Хвёдар—член камітэту—селянін в. Глінішча, як валасны старшыня, паводле інструкцыі павінен быў увайсьці ў камітэт у абавязковым парадку. Гэты камітэт утвораны быў для падтрыманьня і выкананьня дырэктыў часовага контр-рэволюцыйнага ўраду і склад яго цалкам гэтаму адпавядаў.

Камітэт на пасяджэньні зьбіраўся толькі тры разы, імкнуўся вырашыць тыя пытаньні, якія высунула рэволюцыя для сялян, але па сутнасьці ня вырашыў ніводнага пытаньня, бо вырашэньне супярэчыла інтарэсам паноў. У траўні 1917 г. у Выканком прыходзіць загад рэквізаваць жывёлу для арміі Керанскага. Вырашыць пытаньне аб рэквізыцыі жывёлы, не сказаўшы выразна, колькі яе ўзяць у паноў і колькі ў сялян—немагчыма было, і самастойна камітэт нічога ня вырашыў. Сялянская частка камітэту будучы меншай, дамагалася, каб увесь цяжар рэквізыцыі ўскласьці на паноў, а паны імкнуліся зрабіць наадварот. Камітэт вырашыў склікаць 2-гі валасны сход для канчатковага вырашэньня гэтага пытаньня. Такая пастанова ў юравіцкіх умовах азначала першую перамогу сялян над панамі. Склікаецца валасны сход, на якім старшыня Выканкому поп Гаховіч з боскага пункту гледжаньня даводзіў перад сходам неабходнасьць роўнага разьмеркаваньня рэквізыцыі між панамі і сялянамі. Дэлегаты сялян дамагаліся, каб жывёлу ўзялі толькі ў паноў. Сход быў вельмі шумны, і ў першы дзень былі нясупынныя крыкі і спрэчкі. На другі дзень на сход зьявіліся браты Акуленкі Сьцяпан і Міхайла і пад уплывам іх сход прыймае пастанову: 75% нормы рэквізыцыі ўзяць у паноў і 25% у сялян. Сход знайшоў неабходным пераабраць камітэт, бо: „справа папа — маліцца богу, а фэльчара лячыць людзей“. Замест папа Гаховіча старшынёю Выканкому абіраюць селяніна в. Тульгавічы Акуленку Міхайлу і заместа фэльчара ў склад Выканкому абіраюць селяніна в. Ужынец Сяргея Цімохава Лешчанку.

Маса сялянства ішла далей гэтай пастановы. Яна патрабавала, каб рэквізыцыя была зроблена толькі ў паноў. Выканком усімі сродкамі гэтаму перашкаджаў і ў жыцьцё была праведзена пастанова 2-га валаснога сходу аб процантнай рэквізыцыі жывёлы, як у паноў, так і ў сялян.

Пасьля гэтага ў палітычным жыцьці раёну пачынае прыкметную ролю адыгрываць Акуленка Сьцяпан, ён правільна зразумеў настроі і патрэбы працоўнага сялянства. На чарговым валасным сходзе па прапанове Акуленкі Сьцяпана прыймаецца пастанова — безадкладна ўзяць на падлік усе панскія маёнткі з іх маемасьцю і зьвязацца з Рэчыцкім Павятовым Выканаўчым Камітэтам, каб атрымаць адтуль адпаведныя дырэктывы. Для гэтай сувязі ў Рэчыцу абіраюць Сьцяпана Акуленку, а там ён застаецца старшынёй Рэчыцкай Зямельнай Павятовай Управы. Між тым пастанова аб рэгістрацыі ўсяе панскае маемасьці ў жыцьцё не праводзіцца, маса сялянства гэтым вельмі нездаволена і пад напорам сялянства Акуленка М. з выканкому выходзіць, за старшыню становіцца Клямпач Зьмітрок. З гэтага часу Выканком усімі сродкамі перашкаджае правядзенью ў жыцьцё сялянскіх прапаноў. А таму ў канцы лета 1917 г. паводле прапановы гр. Юравіч Казлоўскага Максіма (цяпер працуе ў Маскве), супроць жаданьня Выканкому ўсё заставіць па-ранейшаму — у Юравічах арганізуецца Валасны Савет Рабочых, Сялянскіх і Армейскіх Дэпутатаў і працуе побач з Выканкомам.

Такім чынам пачаўся пэрыод дваяўладзтва ў Юравічах. Першы Валасны Савет не абіраецца, але складаецца з асоб рашучых, адданых рэволюцыі:

1) Казлоўскі Марцін — старшыня савету, 2) Школьнікаў Шая, 3) Лешчанка Сяргей, 4) Касьцючэнка і 5) Паташка Зьмітрок Іванаў — сакратар савету. Барацьба за ўладу між Выканаўчым Камітэтам і Са-

ветам Рабочых, Сялянскіх і Армейскіх дэпутатаў разгараецца. Уся маса ідзе за Саветам. Савет зьвязваецца з Рэчыцай, у Юравічах організуе з рабочых і служачых профсаюз пад кіраўніцтвам настаўніка Попеля Юльяна, у вёсках Слабодцы, Агародніках і сяле Юравічах організуе сельскія саветы і падрыхтоўвае пытаньне аб конфіскацыі панскіх зямель і маемасьці. Часовы Выканаўчы Камітэт, які пачынае звацца Земскай Управай, перашкаджае працы Саветаў і дамагаецца перад Рэчыцкім Павятовым Выканкомам, каб Юравіцкі Савет разагналі. Апошняе не ўдаецца, бо прышоў Кастрычнік.

Пролетарская рэволюцыя стала вядомай у Юравічах 10 лістапада 1917 г. па старому стылю. Спачатку даведаліся аб разгоне ўлады Керанскага. Весткі аб рэволюцыі атрымоўваліся ад радні, якая была ў некаторых грамадзян у Ленінградзе ці Маскве. Мясцовыя органы ўлады, як Земская Управа так і Савет як і раней існавалі, але новых пастаноў ня прымалі. Ніякай барацьбы ў кастрычнікавыя дні ў Юравічах і Юравіцкім раёне ня было. Усе былі ў напружаным чаканьні зьмен. Лічылі, што новая ўлада, аб якой ніякага ўяўленьня ніхто ня меў, ёсьць часовая ўлада. Так цягнулася да 22 лістапада (па н. с.). У гэты дзень у Юравічы прыехалі прадстаўнікі Рэчыцкага Павятовага Савету Рабочых, Сялянскіх і Армейскіх дэпутатаў. Адбыўся шматлюдны мітынг, на якім прадстаўнікі абвясьцілі Выканком (Зем. Управу) ня дзейным, і ён ня выказаў супраціўленьня. Прадстаўнікі растлумачылі сутнасьць савецкай улады і дэкрэтаў аб пераходзе панскай зямлі да сялян бяз выкупу. Удзельнікі мітынгу аднадушна галасуюць за савецкую ўладу, а моладзь, якая прыехала з арміі Керанскага, тут-жа добрахвотна запісваецца абараняць савецкую ўладу. Такім чынам адзіным органам ўлады ў Юравічах цяпер зрабіўся Савет, склад якога астаўся ранейшы.

Пачалі конфіскаваць панскія маёнткі. Конфіскавалі маемасьць, а зямлі пакуль што не дзялілі, бо жыта было засеяна яшчэ панамі; вясной мелі плян перад севам падзяліць усю панскую зямлю. Зьдзейсьніць гэта не ўдалося, бо Юравічы былі окупаваны немцамі, а з імі вярнуліся і паны. Сялянства зноў пераходзіць да ўзброенай барацьбы з панамі і гэту барацьбу пачынае весьці сыстэматычна і організавана.

### Падпольле.

У канцы траўня 1918 г. у Юравіцкі раён ад Гомельскай організацыі бальшавікоў прыехаў т. Шахаў (клічка Маргун), які меў заданьне організаваць у Юравіцкім раёне падпольную організацыю бальшавікоў для падрыхтоўкі сялянства да зьнішчэньня скарападаўшчыны.

Вясною 1918 г. ў Смаленску быў зьезд заходняга фронту чырвонай арміі. Дэлегатам на зьезд быў гр. в. Слабодкі Кавальчук Рыгор Аляксандраў, які далучыўся на зьезьдзе да партыі бальшавікоў. Пасьля зьезду Кавальчук вярнуўся дамоў. Т. Шахаў зайшоў да яго і дагаварыўся аб парадку організацыі падпольнага камітэту. Выкананьне гэтай задачы ўзяў на сябе т. Кавальчук. Дагаварыліся падпольны камітэт скласьці з прадстаўнікоў асобных вёсак. Камітэт намячаўся з наступных таварышоў:

1. Дабравольскі Рыгор Цімохаў—в. Абухоўшчына.
2. Туровец Саўка Язэпаў—в. Тульгавічы.
3. Лапуста Мікіта Сымонаў—в. Ламачы.
4. Руль Мікола Цімохаў—в. Кажушкі.

5. Нагорны Хвёдар Міхайлаў—сяло Юравічы.
6. Целеш Іван Якубаў — " "
7. Целеш Павал Андрэеў — " "
8. Целеш Сымон Янкаў — " "
9. Барысенка — в. Ломыш.

На першы дзень тройцы 1918 г. каля м. Юравіч на Відолічах у густым алешніку быў прызначаны першы зьезд падпольнікаў. Усе падпольнікі сабраліся сваячасова і, выставіўшы варту, уселіся на зямлі і пачалі абмяркоўваць свае справы. Дэлегатаў было 20 чалавек. Першы зьезд разгледзеў 3 пытаньні: 1) аб організацыі партызанскіх атрадаў, 2) аб захаваньні панскай маемасьці, якая ўзмоцненым тэмпам вывозілася ў Нямеччыну, 3) выбары кіраўнічага ядра. Пасьля невялікай інформацыі аб задачах падпольнага камітэту наогул была прынята пастанова організаваць партызанскія атрады з батракоў у панскіх маёнтках і найбольш рэволюцыйна настроеных армейцаў. Таксама была прынята пастанова ўсімі сродкамі перашкаджаць немцам вывозіць маемасьць з панскіх маёнткаў і с. г. продукты, дзеля чаго партызаны бралі на сябе абавязак нападаць на невялікія нямецкія атрады і абяззброіўшы іх, узбройваць новаорганізаваныя партызанскія атрады. У кіраўнічае ядро падпольнага камітэту былі абраны: 1) Кавальчук Р. А. 2) Нагорны Хв. М. 3) Целеш І. Я.

На другі дзень пасьля зьезду падпольнікаў немцам стала вядома аб організацыі падпольнага камітэту і прынятых пастановах, і на другую ноч пасьля зьезду немцы пачалі арыштоўваць. Арыштаванымі былі гр. Юравіч Шахрай Уладзімер Антонаў і настаўнік Позьняк, але на другі дзень ураньні іх пусьцілі на волю. Організацыя іх палічыла сваімі ворагамі і ў сваёй далейшай чыннасьці была вельмі асьцярожна. Дзякуючы гэтаму ў часе нямецкай окупацыі ніхто з сяброў падпольнага камітэту ня быў арыштаваны, і камітэт зрабіў вялікую працу. У вёсках Юравічах, Слабодцы, Беразоўцы і Агародніках організуюцца партызанскія атрады, якія былі аб'яднаны ў 2 атрады: Юравіцкі і Агароднікаўскі. На чале першага быў гр. м. Юравіч Нагорны Піліп Назараў, на чале другога селянін в. Агароднікаў матрос Бальтфлёту Кароль Пятрок Палікарпаў.

Партызанскія атрады вялі працу вельмі консьпірацыйна. На першым сваім агульным сходзе партызаны прынялі пастанову: за здраду атраду, за выдачу тайны здрадніку сьмерць! Усе сходы наогул заносіліся ў протокол, была свая канцылярыя, вялася перапіска, быў падлік асабовага складу і маемасьці, асабліва ўсяго таго, што можна было захапіць у ворага. Партызанскія атрады актыўна вялі барацьбу за савецкую ўладу, хоць бывалі выпадкі, калі паасобныя партызаны бралі зусім ня тое, што трэба і за гэта кары ня мелі.

У лістападзе 1918 г. Агароднікаўскі партызанскі атрад у ночы зрабіў напад на нямецкі атрад лікам у 25 чал. у маёнтку Малыя Вадовічы. Пасьля перастрэлу немцы пабеглі ў Вялікія Вадовічы, партызаны выбілі іх і адтуль. Немцы пабеглі ў Юравічы, туды партызаны не адважыліся ісьці, вярнуліся ў лес і па хатах. У канцы лістапада ў Юравічы дайшла тэлеграма, што ў Кіеве ўрад Скарападзкага скінулі. Калі Юравіцкі атрад даведаўся аб гэтым ён абяззброіў мясцовую гэтманскую варту і заняў тэлефонную станцыю. Агароднікаўскі атрад прыбыў на падмогу, і два атрады, злучыўшыся, аднаўляюць савецкую ўладу, але не надоўга. Начальнік гэтманскай варты гр. м. Юравіч

Чарнецкі Іван Васілёў зьбег у Хойнікі, дзе ў той час былі немцы. Партызаны ў Юравічах організавалі самаабарону, начальнікам яе назначылі гр. Юравіч Луцкевіча Міхайлу Казімірава, а памоцнікам Целеша Паўлюка Ціханава. Праз два дні з Хойнікаў наступае вялікі атрад немцаў, які выбівае партызанаў з Юравіч і арыштоўвае Луцкевіча і Целеша. Луцкевіча зьвязваюць і кідаюць у 10 кроках перад кулямётам каб расстраляць, але нямецкі камандзір па тэлефону звоніць аб гэтым у Рэчыцу. Як відаць, адтуль яму паведамілі аб агульным адыходзе нямецкай арміі ў Нямеччыну. Такім чынам Луцкевіча не расстралялі. Для прыкрыцьця свайго манэўру камандзір нямецкага атраду пабітых Луцкевіча і Целеша вызваляе ад арышту, нават аддае ім аружжа і папярэджвае толькі не чапаць нямецкія фурманкі з продуктамі.

Такім чынам немцы з Юравіч едуць у Хойнікі. Усьлед за імі ноччу выяжджаюць і ўсе паны з раёну. Партызанскія атрады злучаюцца ў адзін, абіраюць агульна-партызанскі штаб у складзе 3 асоб і адна частка атраду займае маёнтак пана Бакуненкі, другая маёнтак Аскеркі (Вялікія Вадовічы). У гэты час у Нараўлянскім раёне быў Пятлюраўскі кавалерыйскі полк. Юравіцкі раён багацей за Нараўлянскі, а таму пятлюраўцы пачалі рабіць частыя налеты на маёнткі Юравіцкага раёну і забіраць там коняй, у сялян — продукты. Юравіцкія партызаны зразумела, не маглі пачынаць бойку з няроўнымі сіламі ворага, але аднойчы партызаны захапілі 4 пятлюраўцаў, арыштавалі іх і накіравалі ў Рэчыцу, пасьля чаго пятлюраўцы ўзьмацнілі свае налёты на Юравіцкі раён і м. Юравічы, дзе забралі шмат продуктаў і жывёлы. Штаб партызанскіх атрадаў прыняў пастанову распачаць мірныя перагаворы з пятлюраўцамі. 15 лютага 1919 г. у Юравічах склікаецца агульны сход усіх партызанаў, на якім начальнік штаба Каралёў П. робіць даклад аб гэтым. Сход вызначыў паслаць у Нароўлю дэлегацыю ў складзе Мяланіча Станіслава і Пангліша Язэпа. 16 лютага дэлегацыя, узброеная шаблямі і наганамі вярхом на панскіх конях, накіравалася ў Нароўлю, дзе быў раскватараваны 3 эскадрон Чаркаскага Пятлюраўскага палку. Дэлегацыя Юравіцкіх партызан была арыштавана, абяззброена і прыведзена да камандзіра эскадрону. Апошні даведаўся аб мэтах дэлегацыі і вызваліў з-пад арышту. Дагавор быў падпісаны ў 2 экз. і там указвалася: „З прычыны таго, што як чырвоныя Юравіцкія партызанскія атрады, так і Пятлюраўскі эскадрон зьяўляюцца рэволюцыйнымі атрадамі хоць і з рознымі ўстаноўкамі і мэта ў іх ёсьць агульная—вызваленьне нашай тэрыторыі ад нямецкіх окупантаў, а таму і згаджаемся: раён чыннасьці 3 эскадрона Чаркаска-Кавалерыйскага Пятлюраўскага палка вызначыць—Нараўлянскі раён, куды не павінны прасякаць Юравіцкія чырвоныя партызаны, для якіх раёнам чыннасьці лічыць Юравіцкі раён, куды не павінны прасякаць салдаты 3 эскадрону, у чым і падпісваем дагавор“. Падпісалі дагавор камандзір эскадрону, яго пісар і два чырвоных партызаны.

Барацьба на тэрыторыі Юравіцкага раёну спынілася да прыходу белапалякаў. Калі прышлі палякі, дзейнасьць партызан стыхійна аднавілася. Большасьць партызанаў добраахвотна ўлілася ў чырвоную армію і была за межамі Юравіцкага раёну. Найвялікшую дапамогу чырвонай арміі ў барацьбе з белапалякамі зрабілі сяляне вёсак Крышычы і Града. Наогуль трэба падкрэсьліць, што ўсё насяленьне раёну прыхільна адносілася да чырвонай арміі за выключэньнем кулацтва і заможных палякаў, якія дапамагалі белапалякам.

У чэрвені 1920 г. адыходзячыя паны рабілі дзікія зьдзекі над насяленьнем, забіраючы жывёлу, інвэнтар, гвалтуючы жанчын. Быў выпадак, што дзесяць польскіх жаўнераў у в. Ломыш схапілі гр. Ф., завялі на гарод, выставілі на вуліцы варту і па чарзе згвалтавалі яе. Гэты ўчынак абурыў усё сялянства. Гр. Зьмітрок Трасьцянок ня вытрымаў і закрычаў: „Досыць цярпець! Давайце сякеры, бярэце косы, вілы, мы іх зарубім, заколем!“ Мужчыны в. Ломыш узьняліся. Легіянэры зрабілі некалькі стрэлаў уверх, кінулі ахвяру, схапілі падводы і страляючы накіраваліся ў в. Абухоўшчыну. Пяць сялян в. Крышычы, узгадніўшы сваю дзейнасьць з чырвонай арміяй, заселі ў жыце каля в. Крышычы і захвацілі 10 чал. польскіх разьведнікаў і накіравалі ў вёску Агароднікі, дзе тады быў атрад чырвонай арміі імя Сьценькі Разіна.

Чырвоная армія прасоўваецца да Віслы. З гэтага моманту на тэрыторыі Юравіцкага раёну пачынаецца бесьперабойная праца савецкай улады па ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва. Праўда, быў яшчэ налёт балахоўцаў, якія на два тыдні затрымалі нормальнае разьвіцьцё мірнага будаўніцтва ў раёне, якія пакінулі новых 8 магілак у м. Юравічах, захапілі шмат жывёлы і, як саранча, зноў вярнуліся ў панскую Польшчу.

---

**У. Уладзіміраў.**

# Школьна-краязнаўчая экскурсія 8 Н.-Барысаўскай школы па БССР.

Падрыхтоўка да экскурсіі была праведзена з такім разьлікам, каб пачаць яе 6 чэрвеня. У склад экскурсантаў залічана было 11 вучняў-краязнаўцаў і кіраўнік гуртка. 6 чэрвеня зранку ў парку фабрыкі Чырвоная Бярэзіна была зроблена апошняя паверка збору, і ўмова ў гэты дзень без спазьненьня зьявіцца на вагзал за гадзіну да адыходу цягніка. Цягнік адыходзіць на Воршу з Барысава прыблізна а 5 гадзіне дня.

У вызначаны час на плацформе вагзала сабраліся экскурсанты, іх таварышы і сваякі, якія прышлі „правадзіць“. Вылучанымі вучнямі былі ўзяты па літарах білеты да Воршы. Экскурсанты напружна чакалі цягніка. Прышоў цягнік, хутка пагрузіліся і прасьціліся са знаёмымі і сваякамі. Шмат парад на дарагу пасыпалася, бо дзеці ў такую дарогу яшчэ ніколі ня пускаліся. Улажылі свой багаж, паставілі дзяжурнага і высунуліся праз вокны, каб прасьціцца яшчэ раз. Цягнік пакінуў Барысаў. Яшчэ некалькі хвілін шуму і ўсё хутка змоўкла. Вучань-экскурсант, вылучаны для вядзеньняназіраньняў уздоўж дарогі, прыняўся за запісы.

Уздоўж дарогі пабеглі поле, лес, балоты, вагзалы чыгунак. Вагзалы маленькія, кароткія астаноўкі цягніка. Навакол вагзалаў плошчы, загружаныя лесам, карою. На станцыі Слаўнае астаноўка большая. Тут можна захапіць некаторыя харчовыя продукты, асабліва малочныя. У суседнім вагоне з намі едуць з Менску інспэктары асьветы г. Воршы і акругі, якія, даведаўшыся, што мы едзем у Воршу, паведамляюць, што нам для астаноўкі адпушчана 4 школа па Ленінскай вуліцы. А палове дзевятага вечара мы ў Воршы. Наймаем фурмана за 1 р. 20 кап. з умо-

ваю давезьці рэчы і двох экскурсантаў да 4 школы. Пеша накіроўваемся ў горад.

Да горада ад вагзалу каля трох кілёмэтраў, але гэты прамежак амаль што ўжо забудаваны. Частка будынкаў са старых часоў, другая частка—будынкі рабочага гарадка новага часу і часткова новыя апошняга часу, прыватныя. Увагу вучняў зварочваюць слупы, на якіх павінна быць падвешана электрычная праводка Асінбуду, які будзе даваць сваю энэргію на дзесяткі кілёмэтраў ва ўсе акаляючыя яго гарады. Спускаемся з гары і ўваходзім у стары горад Воршу. Пераходзім мост і падымаемся да Ленінскай вуліцы, па якой накіроўваемся да 4 школы. 4 школа знаходзіцца на процілеглым ад вагзалу баку горада Воршы. Нас накіроўваюць у інтэрнат школы па Слабадзкой вуліцы.

Каб атрымаць сталы маршрут, нам патрэбна было ўбачыць Старшыню Акруговага Таварыства Краязнаўства т. Васілеўскага. Пасьля некаторага часу ўдалося адшукаць яго і ўмовіцца наконт правадыра. Таварыш Васілеўскі абяцаў нам а 7 гадзіне вечара прачытаць кароткую лекцыю па гісторыі Воршы і правясьці экскурсію на замак. Мы накіроўваемся на вінны завод Спартак, дзе нас сустракаюць ахвотна і вылучаюць правадыра. Знаёмімся з заводам, які пабудованы ў стары час, а цяпер пераабсталяваны.

Завод выпрацоўвае фруктовае віно з ягад і яблыкаў. За мінулы год завод вырабіў 9000 вёдраў і ў наступныя гады думае падняць выраб да 20.000 в. На заводзе працуе 65 чалавек, з якіх 5 кваліфікаваных, 10 жанчын. Адчуваецца парадак і чыстата ў памяшканьнях. Завод лічыцца ўдарным, прагулаў сярод рабочых няма. Добра пастаўлена культпраца, акуратна працуюць гурткі і добрахвотныя ячэйкі. Продукт вытворчасьці паступаў пакуль што на мясцовы рынак.

Пасьля агляду зав. Спартак накіроўваемся на новыя прадпрыемствы: Льнокомбінат, Хладбуд. Па дарозе наведваем музэй, які разьмешчаны ў царкоўным будынку старога гораду каля вуліцы Энгельса. Над уваходам надпіс: „Сельска-гаспадарчы музэй“. Калісьці гэта і быў толькі сельска-гаспадарчы музэй, але пасьля далучылі да яго краязнаўчы музэй, які паглынуў першыя экспонаты.

У музэі ёсьць досыць многа каштоўных рэчаў, але дзякуючы недахопу памяшканьня, аддзелы не адзначаны выразна. Экспонаты згрупаваны ўроскідку і як-бы трацяць сваю каштоўнасьць. Рэчы аднаго і таго-ж аддзелу перамешаны з іншымі аддзеламі, і, такім чынам, музэй падобны да складу рэчаў. Зусім слаба прадстаўлены этнографічны аддзел. Патрэбна было-б прывясьці ў сыстэму ўсе экспонаты і дадаць правільныя надпісы. З музэю па вуліцы Энгельса ўздоўж старога гораду накіраваліся на Льнокомбінат.

Тэрыторыя Льнокомбінату знаходзіцца ўздоўж чыгуначнага шляху з Воршы на Копысь паміж ст. Ворша і чыгуначным мостам праз Дняпро. Плошча абнесена плотам, у межах якога ўжо ўзвышваюцца будынкі: 6 складаў ільну, часальны і мэханічны цэхі, трансформатарная будка, кантора, дом на 36 кватэр для рабочых. Галоўны корпус падрыхтаваны да пабудовы, але пабудова затрымана з тэй прычыны, што пераглядаецца проект пабудовы. Мяркуюць пабудаваць для рабочых 17 дамоў па 36 кватэр кожны. Нават паводле сучаснага становішча комбінату можна судзіць што гэта будзе грандыёзнае прадпрыемства. Ужо цяпер працуе 1500 чалавек.

Супроць Льнокамбінату па другі бок чыгуначнай лініі раскінуты Бэконны завод, які займае агромную плошчу. Будаўніцтва не закончана, хоць ужо часткова праца ідзе. Сырцом зьяўляюцца сьвіньні і быдла, якія контрактуюцца як на Беларусі, так і на Украіне. Завод выпрацоўвае кансэрвы, каўбасы і мяса ў салёным выглядзе. Продукт адсылаецца ў Сталінград, Сьвярдлоўск і іншыя гарады СССР. Вырабляецца таксама і экспортны тавар, як кішкі для каўбас. Завод абсталёўваецца паводле апошняга слова тэхнікі Чыкагскіх бойняў. Працуе на ім 1200 чалавек. Адчуваецца дысцыпліна ў пастаноўцы працы на заводзе. Культпраца пастаўлена досыць добра. Ёсьць клюб, бібліотэка, шмат гурткоў. Бязумоўна ў недалёкай будучыні завод павінен адыграць важную ролю ў нашай гаспадарцы.

Паміж Льнокомбінатам і Хладбудам ёсьць вялікая падстанцыя Асінбуду, якая будзе падаваць і разьмяркоўваць электрычную энэргію сярод новых прадпрыемстваў.

Новыя прадпрыемствы, электрастанцыя, будынкі-кватэры, гэта новая будучая Ворша, якая цяпер ужо займае вялізную плошчу і пачаткам працы стварае ўражаньне магутнасьці ў соцыялістычным будаўніцтве.

Т. Васілеўскі намаляваў нам паступовы рост гораду Воршы. Экскурсанты ўважліва слухалі і разглядалі тыя об'екты, на якія паказваў рукою таварыш Васілеўскі. Вось замчышча, пры ўтоцы р. Воршыцы і Дняпра, а вось выцягнуліся ў шарэнгу сьведкі былога: касьцёлы (манастыры) і цэрквы, якія жывіліся каля свайго васала і выкарыстоўвалі выгоднае становішча географічнае і політычнае. Да замкавай часткі паступова прырасталі новыя вуліцы і кварталы ў напрамку да Маскоўскага тракту. Кожны такі прырост пры ўважлівым разглядзе яскрава кідаецца ў вочы.

Ад замчышча ідзем у новы парк, які таксама зьяўляецца гістарычным. Раней гэта быў парк дваранскай школы пры манастыры. Ён быў абгароджаны каменным мурам. Ад былога парку засталіся асобныя дрэвы-ліпы. Новы парк прасторны, асьвятляецца вечарам электрычнасьцю. Шэраг пляцовак раскінуты сярод групак дрэў. Мур разабраны, і тым павялічана плошча парку.

Толькі ў адзінаццаць гадзін вечара вярнуліся да месца начлегу

Паводле думак старшыні месцовага акруговага таварыства краязнаўства па Воршы могуць быць праложаны тры асноўныя маршруты: прамысловы, гандлёвы і культурна-гістарычны. Паколькі горад ня мае спэцыяльнай экскурсійнай базы, экскурсанты зараней павінны ўмовіцца з інспэктурай гораду, дзе будзе вызначана школа для астаноўкі. У першы дзень зранку трэба наведацца на новыя прадпрыемствы. Пасьля абеду можна пазнаёміцца з гісторыяй гораду і музэем. У наступны дзень—знаёмства з гандлёвымі і савецкімі ўстановамі. Амаль што ўсе ўстановы разьмешчаны па Ленінскай вуліцы, або яе працягу. Па гэтай вуліцы ёсьць рабочая сталоўка № 1. Для начлегу ёсьць 4 гасьцініцы і 2 дамы селяніна.

Ад вагзалу ў горад ходзяць досыць часта аўтобусы.

## II.

Каб папасьці з Воршы ў Асінбуд, трэба па чыгунцы ехаць да станцыі Хлюсьцін МББ, а далей перасесьці ў вагон па ўласнай магістралі Асінбуду і ехаць да Выдрыцы, дзе знаходзіцца старая элек-

трастанцыя і кантора. Тут у экскурсійнай камісіі бярэцца пропуск і па тэй-жа магістралі едуць да Арэхаўкі, дзе знаходзіцца асноўны корпус Асінбуду. Трэба зараней сьпісацца з экскурсійнай камісіяй Асінбуду, а інакш да агляду не дапусьцяць. Асінбуд наведвае так многа экскурсій, што патрэбна строгая ўстаноўка чаргі. Па прыезьдзе ў Арэхаўку трэба зарэгістравацца ў спэцыяльнага працаўніка па гэтых справах і атрымаць канчатковы пропуск.

Дзякуючы таму, што расьпісаньне руху цягнікоў не супадала з нашымі разрахункамі, мы вечарам умовіліся накіравацца пехатою на Асінбуд.

Уся мясцовасьць ад Воршы і да Выдрыцы трохі ўзгоркаватая.— Невялічкія нізіны чаргуюцца з прыпаднятымі палямі. Лясныя згуртаваньні складаюцца з ліставых дрэў і хмызьнякоў. Вёсак амаль што няма, а ўся прастора ўсеяна хутарамі. Урочышча Высокае, дзе ёсьць вёска, сельсавет, самы высокі пункт па ўсім шляху. З дарогі за многа кілёмэтраў відаць і Выдрыцу і Асінбуд.

У Выдрыцы галоўінжынэр абвясьціў, што нас могуць прыняць толькі 11 чэрвеня, аб чым нам паслана тэлеграма. Цяжка было пераканаць інжынэра ў тым, што мы выехалі раней тэлеграмы і што мы едзем па Беларусі, а таму дакладна дагаварыцца з усімі пунктамі маршруту нам ніколі ня ўдасца.

У рабочым пасёлку Выдрыцы ёсьць дзьве сталоўкі. Паабедалі. Каб ня траціць часу, пастанавілі пеша дабрацца да Дуброўны ў гэты дзень. Селі ў „Асінбудаўскі“ вагон, даехалі да Хлюсьціна. Ад Хлюсьціна да Дуброўны 7-8 кілёмэтраў. Бадзёра пусьціліся ў ход. Шлях ляжыць палямі. Толькі маленькія бярозкі пападаюцца насустрач. Перад Дуброўнаю шлях перасякаецца рэчкай Сьвінкай.

Ужо вечарэла, калі мы ўступілі ў горад Дуброўну каб аглядзець фабрыку Дняпроўскую мануфактуру, як называлі нам яе правадыры на фабрыцы. Дабіліся пропуску, атрымалі кіраўніка-майстра і сталі знаёміцца з прадпрыемствам. Трэба адзначыць, што фабрыка зрабіла вялікае ўражаньне на экскурсантаў. Надзвычайная дынамічнасьць у працы, мэханізацыя ўсіх цэхаў, чыстата і акуратнасьць у працы—усё гэта зразу зьвярнула ўвагу вучняў. Фабрыка разьмешчана ў вялікіх будынках (2), зьвязаных паміж сабою. Электрычная энэргія ў далейшым будзе атрымоўвацца з Асінбуду, дзеля чаго будуецца перадатачная падстанцыя. Ёсьць цэхі: аснавальны, клеячны, ткацкі, браковачны і фарбавальны. Сырэц, ніткі фабрыка атрымоўвае з Ленінграду. Працуе 1012 чалавек. Галоўную масу рабочых складаюць жанчыны. Фабрыка лічыцца ўдарнай, і сама праца пры наведваньні складае ўражаньне ўдарнай. Адчуваецца напружанасьць. За надзвычайным шумам нельга чуць, што гаворыць сусед. На фабрыцы моцны парткалектыў, добра пастаўлена культпраца. На тэрыторыі прадпрыемства ёсьць парк, дзе рабочыя праводзяць свой адпачынак. Мяркуюць пабудаваць побач другую фабрыку. Паводле слоў экскурсантаў: „Дняпроўская Мануфактура зрабіла Дуброўну горадам“.

Ужо зусім цёмна, калі мы пусьціліся шукаць сямігодку, каб пераначаваць. Школа знаходзіцца за Дняпром у будынку былога графа Любамірскага. Будынак двохпавярховы, каменны. Навакол будынку стары ліпавы парк, які адным краем крута абрываецца над рэчкай Дубровенкай. Рэчка ў гэтым годзе амаль перасохла. За рэчкай цягнецца фруктовы сад, абхоплены дэкарацыйнымі дрэвамі. Уздоўж берагу рэчкі

каля парку раскінута лугавінка. Усё разам складае ўражаньне натуральнага кутка прыроды.

Вечарам у школе пападаем на выпускны вечар сямігодкі, дзе нас зазываюць на шклянку гарбаты. Пасьля гульняў частка вучняў зазвалі некаторых экскурсантаў начаваць да сябе. Другая частка экскурсантаў была заклікана настаўнікамі. На другі дзень усе адзываліся добра аб адносінах дубравенскіх таварышоў. Рана а 7 гадзіне былі ўжо ў зборы, мыліся каля рэчкі і наведаліся на магілку „панскай сучкі", дзе ляжыць вялікі камень з надпісамі.

Загадчык школы, т. Чаботарэвіч, паказаў нам свой школьны краязнаўчы музэй. Трэба адзначыць, што ў музэі, хоць у модэлях, шмат цікавага аб данай месцовасьці. Цікавыя колекцыі мясцовых тканін, на якіх адчуваецца ўплыў Дняпроўскай Мануфактуры. Ёсьць значная колекцыя старадаўніх монэт. Музэй мае аснову, навакол якой можна разгарнуць далейшую працу.

Пасьля сьняданьня накіроўваемся на дняпроўскі мост. Па вуліцы праходзім каля амбуляторый. Заходзім на пошту і па тэлефону ўмаўляемся з Выдрыцай адносна экскурсіі на Асінбуд. Навакол нахіленай да Дняпра плошчы разьмясьціліся дзьве царквы і сінагога. У аднэй царкве зьмяшчаецца клюб і тэатар. Сінагога амаль не наведваецца яўрэямі і зьяўляецца помнікам таго архітэктурнага стылю, у якім пабудаваны і захаваліся сінагогі ў Воршы і Шклове.

З Дуброўны па знаёмай дарозе ідзем на станцыю Хлюсьціна і якраз пасьпяваем у вагон Асінбудаўскай дарогі, па якой едзем да Арэхаўкі, дзе і атрымліваем пропуск і правадніка, маладога інжынэра.

Галоўны корпус пачаў будавацца ў 1928 годзе. Станцыя будзе працаваць на торфе. Станцыя яшчэ не працуе, але калі будзе пушчана ў ход—будзе зьяўляцца магутнай крыніцай электраэнэргіі, якая будзе перадавацца ў Віцебск, Воршу, Дуброўну, Копысь, Шклоў, Магілеў. На станцыі ёсьць дзьве падстанцыі: адкрытая ў 110 тысяч вольт і закрытая у 38 тысяч вольт. Сярод рабочых ёсьць шмат ударных брыгад, якія імкнуцца як-мага хутчэй закончыць будову. Для рабочых пабудаваны трохпавярховыя вялізарныя будынкі, якія ў будучыні зложаць цэлы гарадок. Ёсьць рабочая сталоўка, коопэратыў, паравознае дэпо.

Ад Арэхаўкі вузкакалейка ідзе на балота, дзе распрацоўваецца торф—апалавы матар'ял для Асінбуду. Тут-жа ў Арэхаве наложаны вялізарныя крушні торфу, які падрыхтоўваецца для скарыстаньня, калі станцыя пойдзе ў ход.

## III.

Невялікі гарадок Копысь, які мае свае значнае гістарычнае мінулае ляжыць ад станцыі ў адлегласьці 2 кілёмэтраў. Па дарозе абмінаем невялікі лесапільны завод і па мосьце праз Дняпро ўваходзім у горад. Мост развадны на баржах. Па Дняпроўскім завулку пападаем на Ленінскую вуліцу, а далей на Акцябрскую і даходзім да сямігодкі. Загадчык школы прыняў нас добра, разьмясьціў у інтэрнаце. Продукты вечарам здабылі ў харчэўні па здавальняючых цэнах. У наступны дзень частка продуктаў была куплена на рынку.

Пасьля сьняданьня ідзем на кахельна-плітачны завод Пролетары. Завод пабудаваны ў 1914 годзе, а пераабсталяваны ў 1924 годзе, мае

тры корпусы. Завод працуе ў 2 і 3 зьмены па 360 чалавек. Матар'ялам для апрацоўкі зьяўляецца гліна, якой побач з заводам шмат. Іншыя матар'ялы паступаюць часткова нашы, часткова з замежаў. Завод мае цэхі: фармовачны, сушыльню, абрэзачны, сьцерачны, глазурны і сортыровачны. Продукт два разы абпальваецца, абмываецца. Дзякуючы вынаходкам рабочага Сарокіна, два віды станкоў перабудованы, што ў працы дае эканомію ў 6 рублёў на 1000 штук плітак. Тавар паступае ў Маскву, Ленінград, Харкаў і за межы.

Партколектыў, колектыў КСМ досыць моцныя і вялікія, аднак культпраца кульгае. Прамфінплян выкананы за першы квартал на 101,2%, за другі—101,14%. Продукцыя добрая па якасьці. Завод разгортваецца.

Месцам гістарычным і месцам, дзе насельніцтва Копыся скарыстоўвае культурна свой адпачынак, вечары, зьяўляецца Вал. Гэта невялічкая плошча, ня болей гэктара мае выгляд трыкутніка, адзін бок якога ідзе ўздоўж ракі Дняпра. Замчышча абгароджана валам і было абкопана ровам, ад якога захаваліся сьляды. Пасярэдзіне роўная плошча, якую перасякае дарожка. Па валу і пасярэдзіне парасьлі бярозы, ліпы і ясені. Ёсьць летняе кіно ў кутку Вала. Уваход на Вал толькі з боку рыначнай плошчы. Калі ўглядзецца на Вал з боку станцыі, то замчышча мае выгляд карабля і здаецца няприступным. Захавалася пляцоўка асноўнай вежы.

Помнікам паходу Пятра I супроць Карла XII, які ў той час накіроўваўся з Польшчы, зьяўляецца павець над тым месцам, дзе быў домік Пятра. Самога доміка няма. Надпіс сьведчыць, што Пётра начаваў у 1707 годзе. „Начаваў",—кажуць мясцовыя жыхары, а паводле Сямёнава ў Копысі Пётра чакаў швэдаў і жыў тут значны час. Павець цяпер абкружана маладым паркам, які насаджаны пры савецкай уладзе.

Ідзем па коопэрацыйных магазынах і іншых установах. Вылучаем экскурсанта і пасылаем сваячасова на станцыю, каб захапіць білеты да Шклова.

## IV.

Ад Копыся да Шклова 10—12 кілёмэтраў. Не пасьпелі аглянуцца, як мы ўжо ў Шклове. Новая мясцовасьць—новыя ўражаньні. Ад вагзалу да горада кілёмэтар, але дзякуючы таму, што прамежак гэты паступова забудоўваецца, адлегласьць няпрыкметна. Значна скарачаецца шлях дзякуючы вялізарнаму парку, які цягнецца ўздоўж дарогі ў горад. Ідзем па роўнай плошчы, якая прызначана для рабочага гарадку. Значная частка яе ўжо забудавана.

Накіроўваемся шукаць фабрычную школу. Таварыш Самахвалаў сустрэў нас на дарозе і павёў у школу, дзе мы і разьмясьціліся. У школе адчуваецца чыстата. Вечарам пасьля гарбаты хадзілі ў парк, аглядзелі клюб, пазнаёміліся з мясцовымі спортсмэнамі.

Рана да сняданьня хадзілі да Дняпра купацца, а затым умовіліся з 9 гадзін пачаць агляд парку і папяровай фабрыкі Спартак, якая знаходзіцца побач з паркам. Парк і фабрыка да вайны належалі былому міністру Крывашэіну. Парк займае вялізарную плошчу і мае ўсе дрэвавыя пароды мясцовага лесу. Пасярэдзіне парку клюб і круглая пляцоўка. Парк і клюб — культурны асяродак мясцовага насельніцтва. Адпачываем на траве і ідзем на фабрыку. Атрымоўваем у канторы пропуск і з праваднікам ідзем па цэхах. Ёсьць цэхі: трапічны, сортыровачны, рубачны, кацельны, рольнае, сушыльнае, аддзяленьні і іншыя.

Сырцом зьяўляецца: анучы, яловае дрэва, вапна, каўсьцічная сода, гліназём. Выпрацоўваецца абвёртачная папера, александрыйская, папяросная і гільзавая. Якасьць продукцыі высокая і на яе вялікі попыт.

Працуе на фабрыцы 1000 чалавек. Прамфінплян выконваецца з перавышэньнем. Сярод рабочых 120 партыйцаў і 85 комсамольцаў. 4 піонэр-атрады абхопліваюць 190 дзяцей рабочых. Ёсьць сталоўка, дзе ў часы перапынку праводзяцца гутаркі.

Трэба дадаць, што акрамя драўляных памяшканьняў для рабочых будуюцца вялікія каменныя будынкі па 36 кватэр. Некалькі гадоў таму назад для рабочых пры фабрыцы пабудавана каменная вялікая лазьня.

На рыначнай плошчы Шклова яшчэ захаваўся гандлёвы двор з вежамі. Накіроўваемся да возера, да „Старога Шклова", адтуль да школы. Пры ўваходзе ў Шклоў з боку станцыі стаяць два слупы з цэглы. У сярэдзіне слупоў пакоік з адным круглым вакенцам. Гэта былая застава, дзе зьбіраўся „правянтовы" збор за тавары, якія ўвозіліся, ці вывозіліся з гораду.

У Магілеў прыехалі вечарам і зьмясьціліся ў чыгуначнай школе. Вячэралі на вагзале.

З ранку наступнага дня 13 чэрвеня накіроўваемся ў Гарсавет, каб атрымаць указаньні, якія выбраць маршруты па Магілеву. Да Гарсавету ішлі па Першамайскаму проспэкту аж да круглага садзіка. Гарсавет разьмешчаны ў будынку, дзе ў часы імпэрыялістычнай вайны была стаўка галоўнакамандуючага франтамі. Па ўказаньню інспэктара мы накіраваліся, каб абгледзець музэй.

Музэй адчынены бывае з 1 да 4 гадзін дня. Мы прыбылі а 10 гадзіне. Прышлося павясьці перагаворы. Працаўнікі музэю ахвотна згадзіліся прапусьціць нас.

Магілеўскі музэй гэта ў поўным сэнсе слова ўжо навуковая ўстанова. У вочы кожнаму кідаецца будынак, дзе зьмяшчаўся калісьці банк. Досыць стылёвы. Усе экспонаты разьмяркованы па аддзелах, кожны аддзел у асобным пакоі. Ёсьць аддзелы: біолёгічны, дэндролёгічны, этнографічны, антырэлігійны, геолёгічны, мастацкі і інш.

Усе экспонаты, якіх тут надзвычайна многа як для акруговага цэнтру, разьмешчаны ў такой пасьлядовасьці, што зьяўляюцца жывою кнігаю. У біолёгічным аддзеле экскурсанты мелі магчымасьць пагадуглыніць тыя веды, якія даваліся ім у школе па біолёгіі; у дэндролёгічным — пазнаёміліся са шкоднікамі нашага лесу, мерамі барацьбы з імі, з пародамі лесу, з хваробамі лесу; этнографічны аддзел ахапляе шэраг фотаздымкаў тыпаў сялян Магілеўшчыны, іх вопраткі, вырабаў. Тут-жа выстаўлены модэлі будынкаў і рэчаў вырабу. Добра абсталяваны антырэлігійны аддзел, шмат каштоўных і па-мастацку выкананых карцін. Каб дадаць сюды яшчэ аддзелы: гандлёва-прамысловы, рэволюцыйны, то малюнак мінулага і сучаснага моцна захаваўся-бы для гледача. Па-моему трэба было-б этнографічны аддзел пашырыць фотаздымкамі асобных вуліц, паркаў, асобных частак гораду і населеных мясцовасьцяй, будынкаў, як Магілева, так і акругі. Гэта зрабіць лёгка і ўражаньне было-б паўней.

З музэю пайшлі на Вал. Так завецца гарадзкі парк над берагам Дняпра. Парк займае 1 га. Уздоўж і папярок ідуць прысады з клёну, ясеню. На тэрыторыі парку ёсьць рэстаран і летні тэатар.

У гэты дзень пасьля абеду рашылі паехаць на фабрыку штучнага шоўку, але не ўдалося, бо ўжо было позна і нельга было атрымаць пропуск. Вярнуліся ў цэнтар гораду і рашылі ісьці па Ленінскай вуліцы,

дзе шмат дзяржаўных устаноў і коопэратываў. Ленінская вуліца мае шмат тыповых гарадзкіх будынкаў і ня ўступае Першамайскаму проспэкту. Заглянулі на спортплашчадку і прынялі ўдзел у баскідбольнай ігры. Вярнуліся ў школу вечарам. У 11 гадзін вечара да нас прыехаў камандзір дывізіі т. Скугараў, які раней у Барысаве быў камандзірам палка. Таварыш Скугараў па-таварыску пагутарыў з экскурсантамі.

14 чэрвеня зранку пасьля сьняданьня паехалі на фабрыку штучнага шоўку. Пазнаёміліся толькі з будоваю, а ўбачыць процэсы хэмічных досьледаў ня прышлося дзякуючы тым формальнасьцям, якія мы сустрэлі ва ўсіх гарадох нашай экскурсіі, калі ня лічыць гомельскіх майстэрань імя Ланцуцкага.

Фабрыка штучнага шоўку—гэта Новы Магілеў. Па плошчы, якая забудоўваецца фабрыкай, гэта самая найбольшая з прадпрыемстваў нашага маршруту. Нешта грандыёзнае можна назіраць у будове фабрыкі. Не асобныя будынкі, а цэлы горад. Падвозяцца матар'ялы, падымаюцца шматпавярховыя будынкі з рыштаваньнем навакол іх. Патрэбен правадыр для павярховага агляду, або, калі можна так сказаць, географічнага агляду і разьмяшчэньня прадпрыемства.

Абедаем у новай фабрычнай сталоўцы, якая дабудоўваецца з разьлікам на 500 чалавек. Варочаемся на станцыю і пасьля некаторых гутарак рашаем замест астановак у С.-Быхаве, Рагачэве ехаць у Гомель, куды не разьлічана было ехаць. Пасылаем чарговых за білетамі.

У Магілеве раім ад вагзалаісьці па Першамайскай, дзе з правага боку вуліцы Дом Селяніна. Тут можна спыніцца нанач, калі ня ўмовіліся са школай чыгуначнікаў. Па гэтай-жа вуліцы з правага боку трохі далей ад вуліцы знаходзіцца музэй. У музэі, дзе ёсьць спэцыялісты-краязнаўцы, можна атрымаць тыя парады, якія лягуць у аснову азнаямленьня з Магілевам.

## VI.

У Гомель прыехалі ўранку, чуць займалася сьвятло. Пайшлі шукаць прыпынку. Чыгуначная школа была яшчэ зачынена, дзеля чаго распалажыліся ў садзіку дзіцячых ясьляў. Сон быў разбуджаны жанчынаю, якая ўбачыла, што ў садзіку нібы бяспрытульныя сьпяць. Пабралі рэчы і селі на ганку чыгуначнай школы. Дачакаліся настаўніка і разьмясьціліся ў клясе, дзе потым і начавалі. Рана накіраваліся шукаць Сельмашстрой. Дарогі ня ведалі і праблукалі доўга. Аказалася, што гэты дзень на фабрыцы быў адпачынак і працы ня было. Вярнуліся па чыгуначнай дарозе і завярнулі ў майстэрні вагонаў, дзе дырэктар пасылаў у мясцком, мясцком—да дырэктара, а апошні выліваў свае скаргі, што „надаелі экскурсіі“. Пабываць на заводзе не давялося. Пайшлі ў горад па Комсамольскай вуліцы. Па дарозе зайшлі ў тэатар, а далей у сталоўку па Трудавой вуліцы. У гэты дзень 15 чэрвеня рашылі пабываць у музэі і парку. Для ўстанаўленьня маршруту адшукалі экскурсійнае бюро пры АПА, дзе спраўкі не атрымалі, бо нікога ня было. Прышлося ісьці проста ў музэй.

Музэй знаходзіцца ў вялізным парку былога князя Паскевіча. Пасярэдзіне парку высока падымаецца дварэц, у якім зьмяшчаюцца фамільныя рэчы былога князя. Гэтыя рэчы і складаюць інвэнтар музэю. Увесь музэй такім чынам ёсьць як-бы склад надзвычайна каштоўных рэчаў. Напрыклад: кавёр расцэньваецца ў 30.000 рублёў, ложак—30.000 р. Шмат пасуды, мэблі, карцін, статуй, вазаў.

У дадатак ёсьць адзін пакоік — музэй рэволюцыі і яшчэ адзін— мясцовы краязнаўчы аддзел.

Музэй мае вялікія дасягненьні ў сэнсе прапускное колькасьці. Так, за май месяц прапушчана гледачоў 16.000 чалавек. Музэй адыгрывае вялікую агітацыйную ролю. Паводле слоў працаўнікоў музэю, яго наведвае шмат сялян, якія, пабачыўшы багацьці музэю, будынак і парк, кажуць, што ім цяпер зразумела, чаму паны раілі беднаце дабівацца раю, што яны, сяляне, для такога зямнога раю таксама ахвотна ад неба адмаўляюцца.

Парк падобны да дзікай рэліктавай рошчы, у якой пралажаны сьцежкі, пастаўлены бяседкі, пралажаны мосьцікі. У парку ёсьць высокая вежа, з якой можна бачыць ваколіцы далёка за горад. Парк імя Луначарскага з дварцом і музэем можа быць навуковым асяродкам і патрабуе належнай аховы. Ён зьяўляецца месцам адпачынку для працоўных Гомелю. Парк высока падымаецца над ракой Сажом, па якой ходзяць параходы. З боку чыгункі пры праезьдзе праз мост мясцовасьць мае выгляд сярэднявяковага замку. Дварэц па-мясцоваму так і завуць замкам.

17 чэрвеня зранку ідзем на Сельмашстрой, дзе дастаем пропуск і правадыра, маладога інжынэра. Завод пачаў будавацца ў 1927 годзе і мае быць закончаны ў гэтым 1930 годзе. Завод складаецца з 5 вялікіх карпусоў: кузьнечна-загатовачнага, чыгуна-ліцейнага, вытворчага і рэшта (2 корпусы) яшчэ нявядома для чаго будуць прызначаны. Выпрацоўвае завод сельска-гаспадарчыя машыны—саламарэзкі і сіласарэзкі. На заводзе працуе цяпер 1.500 чал. Усяго-ж будзе працаваць каля 3.000 чалавек. Будуецца пры заводзе сталоўка і клюб. Будова гэта зьяўляецца аднэй з вялікіх у шэрагу будаўніцтва ф.-заводзкіх прадпрыемстваў па Беларусі.

Паколькі чыгуна-ліцейны цэх пры аглядзе правадыром ставіўся ў параўнаньні з заводам Пролетарыем, мы з Сельмашстрою накіраваліся на ліцейны завод Пролетары. У цэхах не давялося пабываць, бо ў гэты дзень ня было дырэктара, без якога не далі дазволу.

Прайшлі па Савецкай вуліцы да сталоўкі № 40, дзе абедалі. Далей уздоўж Гогалеўскага парку дайшлі да сямігодкі, дзе зьмяшчаецца Пэдагогічны музэй.

Пэдагогічны музэй мае на ўвазе абслужыць школы Гомелю рознымі прэпаратамі, дапаможнікамі пры выкладаньні пераважна прыродазнаўства. У музэі ёсьць колекцыі мінэраляў, чучалы зьвяроў, птушак, рыб і прэпараты немясцовых жывёл. Ёсьць бібліотэка падручнікаў і мэтодычных дапаможнікаў, якімі можа карыстацца настаўнік. Пры музэі ёсьць таксама жывы куток, у якім разьмешчаны розныя дробныя жывёлы для досьледаў. Вядзецца дасьледчая праца для выяўленьня законаў спадчыннасьці. У музэй у час працы зьбіраюцца настаўнікі для прапрацоўкі матар'ялу як вучэбнага, так і наогул для перападрыхтоўкі. Пры музэі працаваў гурток юных натуралістых. Можна і трэба адзначыць, што такі музэй пажадана было-б мець у кожным горадзе, бо ён адыгрывае важную ролю ў працы школы.

Бязумоўна, гэтым ня вычэрпваецца ўсё, што магло-б быць цікавым для экскурсанта ў Гомелі, але пры нашых магчымасьцях мы гэтым і абмежаваліся.

VII.

Мясцовасьць ад Гомелю на Бабруйск зьяўляецца тыповай лесастэпавай паласою. Навакол чыгункі раўніна, якая дзе-ні-дзе перасякаецца рэчкай, або аздабляецца пушчаю ліставога лесу. Млыны-ветракі напамінаюць Украіну, і толькі будынкі беларускія.

Бабруйскі дрэваапрацоўчы комбінат—адно з буйнейшых прадпрыемстваў, якія сустракаліся на нашым шляху. Тут ёсьць цэхі: фанерны, лесапільны, беладрэўны, мэханічны і электрастанцыя. Комбінат займае вялізарную плошчу, на якой шмат будынкаў-гігантаў. Праца ва ўсіх цэхах мэханізавана. Комбінат пабудаваны і абсталяваны паводле апошняга слова тэхнікі. Матар'ял з ракі Бярэзіны пападае ў лесапільны цэх, расьпілоўваецца, сартуецца пры надзвычайна нязначнай затраце чалавечай энэргіі. У сушыльні зараз будзе высушвацца 35 вагонаў лесу за $1^1/_2$ сутак. На склады матар'ял развозіцца аўтовозамі. Будуецца сталоўка, клюб для рабочых комбінату. Працуюць фанерны і лесапільны цэхі, а другія пачнуць працу з восені. На комбінаце працуе 2230 чал., з якіх 380 партыйцаў і 430 комсамольцаў. Пры комбінаце 4 піянэратрады з 350 піянэраў.

Электрастанцыя комбінату думае пашырацца і пашырыць функцыі. Акрамя комбінату, яна будзе часткова абслугоўваць горад. Валавая продукцыя заводу будзе раўняцца 12 мільёнам рублёў за 1929-30 год.

Пры комбінаце маецца школа фабзавуча з інтэрнатам.

Пасьля экскурсіі на комбінат, наведваем Бобршвэй. Прадпрыемства па Социялістычнай вуліцы. На прадпрыемстве працуе 1.000 ч. Маюцца аддзяленьні: швэйнае, загатовачнае, і прасавальнае. Праца мэханізавана і організавана так, што несваячасовасьць працы аднаго затрымлівае працу другога, а значыць падштурхоўвае таварышоў. Калі экскурсія была на фабрыцы, то выраблялiся касьцюмы і плашчы.

Пасьля агляду швэйнай фабрыкі зайшлі ў гарадзкі парк па Социялістычнай вуліцы. Парк складаецца з фруктовых дрэў, пераважна яблынь. Захоўваюцца чыстата і парадак. Заглянулі, каб мець уяўленьне аб месцы, дзе праводзяць грамадзяне Бабруйску свой адпачынак.

Па Пролетарскай вуліцы № 24 знаходзіцца Акруговы краязнаўчы музэй, якім загадвае т. Славін. Таварыш Славін—поэта ў сваёй працы і заслугоўвае ўвагу. Экспонаты ў музэі разьмеркаваны з такім разьлікам, каб яны складалі комплекс ведаў і служылі для дэмонстраваньня пры правядзеньні гутарак з рабочымі, сялянамі. Маюцца аддзяленьні: прыродазнаўчае, этнографічнае, ахова здароўя, геолёга-археолёгічнае. Экспонаты некаторыя зроблены мастацкі па ўсім правілам. На ўсіх экспонатах акуратна нанесены надпісы. Цікава абсталявана карта электрыфікацыі СССР. На географічным абазначэньні месца электрычнай станцыі ўмацована маленькая электрычная лямпачка. Збоку, на сьцяне ўмацованы кружок з уключацелямі. Стоіць націснуць на кнопку і лямпачка на карце запальваецца ў тым ці іншым пункце. Таварыш Славін прывабіў некаторых зацікаўленых вучняў, якія зьяўляюцца памоцнікамі ў працы. Як відно па рэгістрацыі, музэй наведваюць, як адзіночкі, так і групы. Бабруйскі краязнаўчы музэй зацікавіў экскурсанта. Варта было-б музэю даць памяшканьне бліжэй да цэнтру і больш прасторнае. Маецца аснова, на падставе якой музэй можа разгарнуць сваю працу, пашырыць свае аддзелы, дадаць адсутнічаючыя.

У Менск прыехалі ноччу і на вагзале чакалі, калі пачнецца ў горадзе рух. Тутака распалажыліся на падлозе і заснулі. Раніцой пайшлі ў 20 школу, дзе нам далі адрас экскурсбазы.

Рашано было заглянуць на месца, дзе рыхтуецца выстаўка. Едзем трамваем на Камароўку да апошняе астаноўкі, а далей ідзем пеша. Пасьля перагавораў атрымоўваем дазвол і кіраўніка. Выстаўка яшчэ не адчынена, але некаторыя экскурсанты павінны разьехацца пасьля экскурсіі і ня будуць мець магчымасьці пабываць пасьля адчыненьня, а там у пажадалі паглядзець на падрыхтоўчую працу. Аграном паказаў усе павільёны, растлумачыў, для чаго кожны рыхтуецца. Далей пазнаёміліся з агрыкультурамі, вучасткамі шляху і інш.

XIII.

Падагульняючы вынікі, трэба адзначыць карысьць, якую дала экскурсія і тыя адмоўныя і прыкладныя бакі, якія заўважаны пры правядзеньні экскурсіі.

Экскурсія ставіла мэту пазнаёміцца з соцыялістычным будаўніцтвам краіны з тымі экономічна-культурнымі дасягненьнямі, якія зроблены пры савецкай уладзе, з гістарычнымі помнікамі і іншымі асаблівасьцямі маршруту. Мэта калі ня цалкам, то ў значнай меры дасягнута. Экскурсанты пабывалі на Асінбудзе, Дняпроўскай Мануфактуры у Дуброўне, Льнокомбінаце, Хладбудзе, Кафельна-плітачнай у Копысі, Папяровай фабрыцы Спартак у Шклове, фабрыцы штучнага шоўку у Магілеве, Сельмашстроі ў Гомелі, Дрэваапрацоўчым комбінаце і швэйнай у Бабруйску і інш. Памянёныя прадпрыемствы будуюцца па 5-гадоваму пляну рэконструкцыі і індустрыялізацыі нашай гаспадаркі, ці часткова пераабсталёўваюцца. Зразу пасьля кляснага тэорэтычнага матар'ялу перад вачыма вучняў вырасьлі сапраўдныя магутныя волаты прадпрыемстваў. Экскурсанты засыпалі правадыроў пытаньнямі і вечарам доўга перад сном дзяліліся сваімі ўражаньнямі. Кожнае новае прадпрыемства будзіла фантазію моладзі аб будучыні.

Экскурсія па сталоўках злажыла ўражаньне аб грамадзкім харчаваньні. Парк і тэатар паказалі дзе і як працоўныя праводзяць свой адпачынак. Вялікую карысьць прынясьлі музэі, дзе сабрана, згушчана мясцовая прырода, быт, заняткі, гісторыя. Пры выезьдзе з Барысава вучні адчувалі сябе, як кажуць зьвязанымі. Канец экскурсіі выпрацаваў у экскурсантаў сьвядомасьць, дасьціпнасьць, уменьне выканаць самастойна даручаную працу. Экскурсанты свабодней знаёміліся з тымі абставінамі і асобамі, якія здараліся на іх шляху. Праглядаючы кожны дзень новае, экскурсанты навучыліся ставіць пытаньні, крытычна адносіцца да разгляданага матар'ялу і даваць сваю ацэнку.

Экскурсія пазнаёміла ўдзельнікаў у сьціслай форме з этнографічнымі асаблівасьцямі беларусаў розных мясцовасьцяй БССР, а таксама і іншымі нацменшасьцямі. За час экскурсіі, як на кінофільме, прайшлі беларускія гарады, краявіды, якія злажылі пэўнае ўражаньне аб Беларусі.

На экскурсіі вучні самі вялі закупку харчоў, дарожных білетаў, вялі перагаворы з організацыямі наконт начлегу, правадыроў, ставілі дзяжурных каля рэчаў, вялі запісы па даручаных галінах, Адчувалася, што яны не зьяўляліся проста гледачамі, а мелі сталую працу.

На пунктах, дзе даводзілася начаваць, вучні падтрымоўвалі дысцыпліну і чыстату, за што адказваў старшыня. Падрыхтоўчая праца, якая вялася доўга па ўсіх пытаньнях экскурсіі, сказалася ў час экскурсіі.

Недахопамі ў час нашай экскурсіі служылі: цяжкасьць у набыцьці продуктаў харчаваньня, асабліва для сьнеданьня і вячэры, немагчымасьць увязацца на ўсіх пунктах у расклад часу вызначанага для экскурсій, адсутнічаньне на мясцох сталых экскурсійных баз, або асоб якія, далі-б сваю параду, як скарыстаць час у межах данага населёнага пункту, кароткі тэрмін для атрыманьня білетаў па чыгунцы пры ўмовах астановак, бюрократычныя адносіны адміністратараў (Дырэктар Гомельскіх чыгуначных майстэрань пасылаў нас у мясцком, мясцком да дыректара, а дырэктар зноў да мясцкому, скардзячыся на экскурсіі). Неабходна браць дазвол на фотографаваньне. Узятыя намі фотоапарат і пласьцінкі аказаліся непатрэбнымі, бо ўсюды нам адказвалі, чаму для гэтага ня ўзята паперка ад ЦБК, ці ня зроблена паметка на адкрытым лісту ЦБК. Адносіны ЦБК адкрыты ліст са штампам БАН мае вялікае значэньне ў дарозе.

Удзельнікі экскурсіі расказалі вярнуўшымся сваім таварышом аб сваіх уражаньнях і настолькі іх зацікавілі, што мне ўжо задаюцца пытаньні аб экскурсіі на будучы сэзон.

---

# ХРОНІКА.

## Выпіска з протоколу № 29 пасяджэньня Прэзыдыуму Беларускай Акадэміі Навук 30/X-1930 г.

*Слухалі:* Даклад аб працы ЦБК (т. Казак).

*Пастанавілі:* 1) Адзначыць, што краязнаўчыя арганізацыі і ў прыватнасьці „Наш Край" па зьместу сваёй працы не адпавядалі патрэбам сучаснага соцыялістычнага будаўніцтва, не адбівалі працы сярод меншасьцяў; праводзілі погляды самабытнасьці і былі пад уплывам нацыянал-дэмократаў, 2) Краязнаўчыя арганізацыі ў ліку сваіх членаў мелі надзвычайна нязначнае пролетарскае ядро і ў значнай меры былі засьмечаны варожымі нацдэмаўскімі элемэнтамі. 3) Далейшую структуру краязнаўчай сеткі прыняць у наступным складзе: на мясцох у раённых цэнтрах—раённыя краязнаўчыя таварыствы, пры гарсаветах—гарадзкія і на прадпрыемствах, саўгасах, колгасах, школах, тэхнікумах і ВЗУ'ах—краязнаўчыя гурткі. У сувязі з гэтым у трохдэкадны тэрмін пераапрацаваць існуючы статут ЦБК і ўнесьці на разгляд і зацьверджаньне Прэзыдыуму. 4) Даручыць ЦБК як першачарговую задачу—вывучыць склад удзельнікаў у працы па краязнаўству ў БССР і аслабаніцца ад усіх варожых элемэнтаў. 5) У аснову далейшай працы ЦБК пакласьці — вывучэньне працы па соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і прамысловасьці, культуры і быту працоўных мас гораду і вёскі, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на ўцягненьне ў працу краязнаўчых таварыстваў рабочых, колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкай часткі сялянства. 6) Лічыць неабходным зьмяніць назву часопісу „Наш Край". 7) Для рэдагаваньня краязнаўчага часопісу і выданьня вылучыць рэдколегію ў складзе т. т. Сэрафімава, Гэршэнбаўма, Шчарбакова, Крукоўскага і Самцэвіча. Адказным рэдактарам часопісу лічыць т. Сэрафімава. 8) Даручыць старшыні ЦБК т. Сэрафімаву на наступнае пасяджэньне Прэзыдыуму прадставіць сьпіс складу членаў прэзыдыуму ЦБК.

## Пяць год працы Рачаўскага Музэю Смаленскага Т-ва Краязнаўства (1924—1928 г.).

Гэты нарыс мае мэту азнаёміць чытачоў з гісторыяй узьнікненьня і пяцігадовай чыннасьцю музэю, організаванага ў прыгараднай частцы г. Смаленска—Рачаўцы, заселенай пераважна рабочымі з лікам каля 7000 жыхароў [1]). Кажучы аб гісторыі ўзьнікненьня памянёнага музэю, неабходна хоць коратка сказаць аб Рачаўскай бібліотэцы, бо з апошняй пачаў разьвівацца гэты музэй. Да рэволюцыі на Рачаўцы з культасьветных установ былі толькі 2 школы. З гэтае прычыны ня ўсе дзеці былі ахоплены школьнай сеткай і былі адданы вулічнай вучобе: хуліганству, злодзейству і г. д. Гаварыць аб пазашкольнай працы ў той час ня прыходзіцца, бо такіх установ тады там не існавала.

У 1919 г. сярод мясцовых працаўнікоў узьнікае думка аб організацыі на Рачаўцы бібліотэкі. У 1920 г. дзякуючы ўпартай энэргіі гэта думка была зьдзейсьнена. Бібліотэка паставіла сваёй мэтай аб'яднаць вакол сябе ўсе культурныя актыўныя сілы Рачаўкі для барацьбы на культурным фронце. Апрача гэтага, Рачаўская бібліотэка мела мэту адцягнуць моладзь ад хуліганства і зацікавіць бібліотэкай. Пры бібліотэцы заснаваўся гурток, у якім было да 150 дзяцей. Гурток складаўся з вучняў і дзяцей, якія не наведвалі школ. Соцыяльны склад большасьці гуртко́ўцаў—дзеці рабочых, ламавікоў, дробных рамесьнікаў і інш., па ўзросту ад 5 да 17 год. У гуртку было дзьве групы: старэйшая і малодшая, у малодшай заняткі вялі старэйшыя гуртко́ўцы пад наглядам кіраўніка. У старэйшай групе былі сэкцыі: драматычная, гістарычная, бібліотэчная, музыкальная, мастацкая, юных натуралістых і інш. Трэба ска-

---

[1] Матар'яламі для гэтага нарысу былі: справаздача аб 5-гадовай дзейнасьці Музэю, складзеная загадчыкам музэю Г. В. Парфёнавым, артыкулы і заметкі, надрукаваныя ў розных пэрыодычных выданьнях (гл. Музэй у друку).

зацьаб працы гістарычнай сэкцыі і сэкцыі юных натуралістых, бо гэтыя сэкцыі сваёй задачай паставілі вывучэньне свайго раёну, прычым у выніку працы і быў організаваны музэйчык. Апошні адчыніўся ўвосень 1924 г. з ініцыятывы Г. В. Парфёнава ў памяшканьні памянёнай бібліотэкі. Усіх экспонатаў тады ў музэйчыку налічвалася каля 100 і некалькі кніжок. У першы дзень адчыненьня яго наведала 40 чалавек. Пасьля, дзякуючы пропагандзе гурткоўцаў, лік навядальнікаў увесь час павялічваўся, разам з гэтым рос і самы музэйчык. У канцы году лік экспонатаў яго быў—497. У 1925 г. пры музэйчыку заснаваўся свой гурток у складзе 17 чал. Праца гэтага гуртка: зьбіраньне гэрбарыя, скамянеласьцяў, рэчаў старажытнасьці і вывучэньне рэштак будоў XII-XIII ст. ў Смаленску. Апрача гэтага, сіламі музэю вясною 1925 г. было зроблена абсьледваньне Любавіцкай воласьці ў географічным, этнографічным і археолёгічным стасунку. Матар'ял, здабыты ў часе абсьледваньня, папоўніў музэйчык. Увосень гэтага году музэйчык пасьцігла няшчасьце: зладзеі, узламаўшы дзьверы, скралі з музэю шмат монет, альбомы і кніжкі. Толькі нязначная частка выкрадзеных рэчаў была заўважана на базары. Гэта здарэньне ня спыніла працы музэю.

Але ў гэты час музэйчык перажыў і другое няшчасьце: яго памяшканьне было занята пад канцылярыю сьпірытусовага заводу. Члены музэйнага гуртка перацягвалі колекцыі музэю куды хочаш. Загадчык бібліотэкі паставіў пытаньне аб ліквідацыі музэю. Ужо прыходзіў прадстаўнік Дзяржмузэю аглядаць колекцыі і быў прызначаны дзень для перадачы іх Дзяржмузэю. Гэты дзень быў добра памятны для гурткоўцаў. Чакалі прыходу прадстаўніка музэю. Было ціха ў памяшканьні музэю. Некаторыя дзяўчаты плакалі—цяжка было ім разлучыцца з музэем. Загадчык музэю робіць прапанову пакінуць музэй на Рачаўцы і ўсе гурткоўцы з захапленьнем падтрымліваюць гэта. Узьнікла пытаньне—куды-ж разьмясьціць колекцыі? Парашылі спакаваць музэйчык, частку колекцый пакінуць у музэі, а другую перадаць на захаваньне гурткоўцам і кіраўніку. Да 15 кастрычніка 1926 г. музэйчык быў зачынены для агляду, бо ня было адпаведнага памяшканьня для разьмяшчэньня яго, але дзейнасьць музэю ня спынялася. Гурткоўцы зьбіралі новыя колекцыі, усю ўвагу зьвярнулі на вывучэньне мясцовай вытворчасьці.

Калі організавалася Смаленскае Таварыства краязнаўства, частка працаўнікоў Рачаўскага музэю ўваходзіць у склад Т-ва. 15 кастрычніка 1926 г. музэйчыку даюць адзін пакой у Рачаўскай бібліотэцы. Маленькі пакой 3×4 арш. ня мог зьмясьціць усіх экспонатаў, адчыніць музэйчык для агляду было амаль немагчыма. Закрылі два вакны, каб павялічыць плошчу для экспонатаў, але і гэта не дапамагло. Між тым навядальнікаў было шмат і праводзіць якую-небудзь культасьветную працу было немагчыма. У лютым 1927 г. музэй перайшоў у веданьне Смаленскага Т-ва краязнаўства, бо музэй з маленькага „музэйчыка", як называлі яго члены т-ва, вырас у зусім аформлены раённы музэй краязнаўства і плян яго далейшай працы разумеецца цяжка было зьвязаць з агульным плянам працы з дзяцьмі, якія наведвалі Рачаўскую бібліотэку. Матар'яльны бок музэю пасьля пераходу яго ў распараджэньне т-ва не палепшыўся, бо т-ва і само ня мела патрэбных сродкаў для пашырэньня краязнаўчай працы ў губэрні, але музэй выйграў у сэнсе паглыбленьня і пашырэньня сваёй дзейнасьці. У першую чаргу перад музэем паўстала пытаньне аб увязцы і супольнай яго працы з школамі. Была створана камісія, якая павінна была скласьці плян супольнай працы. Камісія ў першую чаргу вызначыла супольнымі сіламі ўзяцца за плянавае вывучэньне бытавых умоў раёну. У 1927 г. музэем былі зроблены такія працы: вяліся нагляданьні за землянымі працамі Гаркамгасу на Рачаўцы ў межах зьбіраньня археолёгічных рэчаў, зроблены досьледы Рачаўскіх гарадзішч, пад кіраўніцтвам члена т-ва І. М. Хозарава сябры музэйнага гуртка і члены т-ва дасьледвалі рэшткі будоў XII-XIII ст. на Духаўскай вуліцы. Усе здабытыя матар'ялы папоўнілі музэй. Музэй у 1927 г. быў адчынены 2 разы ў тыдзень, яго наведала 1574 чал. З прычыны цяснoты памяшканьня музэй наладжваў пэрыодычныя выстаўкі на асобныя тэмы. Першая гэткая выстаўка была наладжана ў 10-годзьдзе Кастрычнікавай рэволюцыі (з 2 па 18/XI—27 г.). У яе ўвайшлі таксама архіўныя матар'ялы Губархбюро, Дзяржмузэю і прыватных асоб. Выстаўку наведала 673 чал. Пасьля гэтай выстаўкі была наладжана другая „Рачаўка ў мінулым", якую да 1/I—1928 г. наведала 800 чал. Пры музэі ў 1927 г. працаваў гурток прыяцеляў музэю, у якім было 23 члены. Гурток зьбіраўся адзін раз у тыдзень і пад кіраўніцтвам вылучаных сяброў т-ва краязнаўства адбываліся бяседы па пытаньнях вывучэньня краю.

У 1928 г. музэй працягваў сваю працу па вывучэньню быту Рачаўкі, але адсутнасьць сродкаў ня дала магчымасьці правесьці гэта вывучэньне ў поўным абхопе. У гэтым годзе таксама вялася праца па організацыі пэрыодычных выставак. Першая выстаўка была ў часе правядзеньня антырэлігійнай кампаніі і на вялікдзень. Яе характар быў антырэлігійны. Другая выстаўка была прысьвечана 25-гадоваму юбілею чыннасьці Смаленскага прыгараднага пажарнага т-ва, якое для Рачаўскага раёну адыграла вялікую культасьветную ролю. Выстаўка адлюстравала 25-гадовую чыннасьць т-ва. Яна цягнулася з 1/V па 1/VI і яе наведала 1368 чал. Трэцяя выстаўка на тэму „Рачаўка ў мінулым і сучасным" з 15/VIII па 12/IX у памяшканьні бібліотэкі. Гэту выстаўку наведала 3042 чал. Посьпех гэтае выстаўкі і організацыя на Рачаўцы дзіцячага саду ЦРК прымусілі працаў-

нікоў музэю організаваць новую выстаўку ў 11 гадавіну Кастрычнікавай рэволюцыі і тэмай яе ўзяць „Дзеці Рачаўкі“. Т-ва краязнаўства, каб поўна адлюстраваць жыцьцё дзяцей гэтага раёну і дзейнасьць установ, якія ахоўваюць дзяцінства і мацярынства, стварыла камісію з прадстаўнікоў адпаведных установ. Камісія апрацавала плян, а неабходныя сродкі далі ЦРК, клюб „Красная Рачевка“ і Дзяржмузэй. Выстаўка адчынілася 7/XI—28 г. Бібліотэка падабрала адпаведную літаратуру і з свайго боку організавала кніжную выстаўку. Было намечана прачытаць некалькі лекцыі, але толькі адна бяседа была праведзена доктарам Ёфэ на тэму „Як выхоўваць малое дзіцё“. Лекцыі не адбыліся за адсутнасьцю памяшканьня. Выстаўку наведала 1600 чал. Пасьля гэтай выстаўкі новую выстаўку організавалі Смаленскае Т-ва Краязнаўства і Музэй, дзякуючы ініцыятывы газэты „Рабочий Путь“, якая абвясьціла мітынг-пераклічку і кампанію па перавыбарах саветаў. Выстаўка мела тэму „Што дала савецкая ўлада Рачаўцы за 11 год свайго існаваньня?“ Плян выстаўкі быў апрацаваны Выстаўкомам, які склаўся з прадстаўнікоў розных мясцовых установ і організацый. Былі адшуканы і неабходныя сродкі 153 р. 50 к. Выстаўка адчынілася 22 сьнежня ў школе дзевяцігодцы і разьмясьцілася ў 7 пакоях. Як цікавы момант агітацыі і популярызацыі выстаўкі, трэба падкрэсьліць піонэрскі паход па Рачаўцы з плякатамі, бубнамі, сьцягамі. Піонэры часам спыняліся на вуліцах Рачаўкі, заклікалі насяленьне наведаць выстаўку, тлумачылі сэнс і мэту выстаўкі. З 22/XII па 1/I—29 г. выстаўку наведала 1857 чал. Пасьля гэтага выстаўка была зроблена перасовачнай і абслугоўвала большасьць перавыбарчых сходаў. У організацыі гэтай выстаўкі прынялі ўдзел Губана, Гарана, Дзяржмузэй, Губархбюро, Губаддзелаховы здароўя, Гаркомтрэст, і ЦРК. Іх удзел быў ня толькі ў вызначэньні матар'яльных сродкаў, але і ў організацыі сваіх аддзелаў пад лёзунгам „справаздачы перад масамі“.

### Рост экспонатаў музэю.

Рачаўскі Музэй папаўняўся двайным спосабам: шляхам зьбіраньня экспонатаў сіламі гуртка прыяцеляў музэю і шляхам ахвяраваньняў. Ахвяраваньні ў большасьці былі без узнагароды. Так напр. Г. В. Парфёнаў ахвяраваў свае археолёгічныя колекцыі. Вялікі рост колекцый далі пэрыодычныя выстаўкі, асабліва па аддзелах гістарычнарэволюцыйнаму, прыродна-гістарычнаму, этнографічнаму і экономічнаму.

З прычыны адсутнасьці сродкаў на абсталяваньне і монтыроўку, экспонаты часткай знаходзяцца пад шклом, а часткай у скрынях.

### Наведваньне музэю.

У дзень адчыненьня музэю яго наведала, як ужо гаварылася вышэй, 40 чал. У далейшым лік навядальнікаў увесь час рос, што відна з табліцы:

| Гады | Наведала | Заўвагі |
|---|---|---|
| 1924 | 712 | Адчынены з восені |
| 1925 | 511 | працаваў толькі 2 месяцы |
| 1926 | 664 | працу распачаў з 15-X-26 г. |
| 1927 | 1574 | З 2-XI-27 г. перайшоў на пэрыодычныя выстаўкі. |
| 1928 | 9441 | |

З гэтае табліцы відаць, што наведваньне Музэю ў яго стацыянарным выглядзе было меншым, а пасьля пераходу Музэю на тэматычныя пэрыодычныя выстаўкі адразу наведваньне павялічваецца. Вельмі цікава параўнаць наведваньне Рачаўскага Музэю. б. Гарадзкім Гістарычна-Археолёгічным Музэем г. Смаленску.

| Гарадзкі музэй | | | | | Рачаўскі музэй | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Гады | Наведв. | Лік адчынен. | Сродкі музэю р. | к. | Гады | Наведв. | Лік адчынен. | Сродкі музэю р. | к. |
| 1890 | 1105 | 101 | 120 | — | 1924 | 712 | 38 | — | — |
| 1891 | 1919 | 99 | 120 | — | 1925 | 511 | 23 | — | — |
| 1892 | 1731 | 101 | 120 | — | 1926 | 664 | 27 | — | — |
| 1893 | 1636 | 102 | 120 | — | 1927 | 1574 | 54 | — | — |
| 1894 | 1456 | 93 | 120 | — | 1928 | 9441 | 90 | 201 | 50 |

З гэтага відаць, што наведваньне Рачаўскага Музэю куды больш чым гарадзкога.

Рачаўскаму Музэю ўдалося заваяваць сымпатыі насяленьня Рачаўкі, прыцягнуць яго ўвагу да пытаньняў вывучэньня краю.

Організацыя пэрыодычных выставак на асобныя тэмы спрыяла большай зацікаўленасьці да гэтых пытаньняў і як вынік мела большае наведваньне Музэю.

Наступная табліца характарызуе наведваньне па кожнай тэме:

| Назва тэмы выстаўкі | Лік наведвальнікаў |
|---|---|
| 1. Рачаўка ў мінулым . . . . | 1114 |
| 2. 25 год Смаленскага прыгараднага пажарнага Т-ва . . | 1368 |
| 3. Рачаўка ў мінулым і сучасным | 3042 |
| 4. Дзеці Рачаўкі . . . . . . | 1060 |
| 5. Што дала савецкая ўлада Рачаўцы за 11 год . . . . | 1857 |

Такім чынам ідэя пэрыодычных выставак апраўдала сябе і ў далейшым Рачаўскі Музэй будзе ісьці гэтым шляхам.

**Культасьветная праца Музэю.**

Гэта праца зяключалася ў азнаямленьні навядальнікаў з колекцыямі, у популярызацыі ідэй краязнаўства і правядзеньні на пэўныя тэмы бясед, экскурсіі і організацыі гуртка.

Адносна працы музэйнага гуртка трэба сказаць, што гурток стварыў музэй. Ня было-б гуртка—ня было-б і музэю. Праца гуртка заключалася ў набыцьці яго членамі тэорэтычных ведаў у розных галінах і практычных звычак у музэйнай працы, у падрыхтоўцы да правядзеньня экскурсій, выставак, у зьбіраньні матар'ялаў і дзяжурствах у дні адчыненьня музэю. У пачатку праца вялася лекцыйна, а потым лекцыі былі замянены бяседамі з уцягненьнем у гэту працу і саміх дзяцей, прычым яны іншы раз выступалі з судакладамі па тым ці іншым пытаньні ці з самастойнымі дакладамі.

З 1926 г. такія бяседы праводзіліся адзін раз кожны тыдзень. Лік сяброў гуртка:

| Гады | Усяго | Сталых | Часовых |
|---|---|---|---|
| 1924 | 68 | 26 | 42 |
| 1925 | 57 | 16 | 41 |
| 1926 | 7 | 7 | — |
| 1927 | 23 | 6 | 18 |
| 1928 | 13 | 4 | 9 |

Такім чынам лік сяброў гуртка штогодна зьмяншаўся, затое ствараўся пры музэі сталы актыў прыхільнікаў музэю лікам ад 6 да 12 чал. Апрача бясед з сябрамі гуртка праводзіліся экскурсіі, якія займалі ў працы гуртка віднае месца. Экскурсіі былі мясцовыя і працяглыя, па-за раёнам.

| Гады | Экскурсіі мясцовыя | Працяглыя | Усяго |
|---|---|---|---|
| 1924 | 9 | 1 | 10 |
| 1925 | 6 | 1 | 7 |
| 1926 | 4 | 1 | 5 |
| 1927 | 4 | 2 | 6 |
| 1928 | 4 | 1 | 5 |
| Усяго . | 36 | 6 | 42 |

Мясцовыя экскурсіі праводзіліся ў мэтах вывучэньня свайго раёну ў двох напрамках: у прыродна-гістарычным і гістарычна-археолёгічным. Прыродна-гістарычныя экскурсіі далі азнаямленьне з геолёгічным разрэзам Чортавага рову і інш. Разам з гэтым зьбіраліся скамянеласьці, знаёміліся з флёрай, наглядалі вадазборы рэчак і іх насяленьня. Гістарычна-археолёгічныя экскурсіі знаёмілі з рэшткамі матар'яльнай культуры. У 1924 г. была зроблена працяглая экскурсія ў Катынскую валасьць, дзе члены гуртка азнаёміліся з жыцьцём вёскі і дзейнасьцю валасных устаноў, агледзелі школьны музэй пры Катынскай школе. У 1925 г. была зроблена экскурсія ў Любавіцкую валасьць (абсьледваньне, зарысоўка, пляны гарадзішч валасьці), у 1926 г. экскурсія ў в. Нямыкары (нэолітычная стаянка), у 1927 г. у Кардымаўскую валасьць (абсьледваньне гарадзішч), у 1928 г. у Красьнінскую і Хахлоўскую валасьці (абсьледваньне ў этнографічным, архітэктурных і археолёгічных напрамках).

Спэцыяльных сродкаў на ўтрыманьне музэю ня было і ўся праца праводзілася бясплатна. Дзякуючы пераходу музэю на сыстэму пэрыодычных выставак пачаўся прыліў сродкаў. Так напр. для выстаўкі „Што дала савецкая ўлада Рачаўцы“ музэй атрымаў 153 р 50 к. Сродкі траціліся на набыцьцё экспонатаў, прыстасаваньне памяшканьняў, друкаваньне афіш, фотографаваньне і г. д. Такім чынам музэй працаваў бяз сродкаў і яго абсталяваньне было вельмі абмежаваным. Некаторае абсталяваньне ў часовае карыстаньне дала бібліотэка, але пры гэтым абсталяваньні нельга было раскласьці ўсе экспонаты. У 1928 г. музэй атрымаў тры шафы, адну вітрыну, некалькіківотаў і рам. Ківоты былі скарыстаны для археолёгічных колекцый. Свайго памяшканьня музэй ня меў. У 1924-25 г. ён зьмяшчаўся ў памяшканьні Рачаўскай бібліотэкі, прычым у канцы 1925 г. яго выселілі. У 1926 г. бібліотэка аддала музэю адзін пакой, у 1928 г. яму аддалі два пакоі ў поўсутарэньні.

**Бібліотэка.**

У ліку прынесеных музэю ахвяраваньняў з першых дзён яго заснаваньня былі і кнігі, якія і склалі бібліотэку музэю. У канцы 1927 г. бібліотэка налічвала 200 уласных кніжок і 800 кніжок было перадана ў карыстаньне Г. В. Парфёнавым, які пасьля падарыў гэтыя кнігі музэю. У пачатку 1929 г. бібліотэка ўжо налічвала 1500 кніг. Кнігі — выданьні аб мясцовым краі, прырода-гістарычная літаратура і розныя даведачнікі.

**Музэй у друку.**

Апрача справаздач, якія заслухоўваліся на розных сходах, дзейнасьць музэю высьветлялася і ў друку, напрыклад:

1. А. Руднев — „Из опыта работы с детьми в Смоленских библиотеках“, „Красный Библиотекарь“, № 12, декабрь 1926 г., стр. 63-64.

2. (... „Музейно-Рабочей Окраине“, „Рабочий Путь“, от 2/XI-1927 (у гэтай заметцы была асьветлена 3-летняя чыннасьць музэю).

3. В. Дмитриев „Краеведческая работа в Смоленской губернии за 1927 г.“, „Известия Центрального Бюро Краеведения“, 1928, № 3, стр. 8-9, и „Наш Край“, № 4/31, красавік 1928, стр. 60-61. (у гэтым артыкуле асьветлена работа музэю і яго гісторыя).

4. В. Дмитриев — „Этнографическая работа в Смоленской губ. за 1925-26 г.“, „Этнография“, 1826, № 2, стр. 367, дзе ёсьць указаньне на географічнае і экономічнае абсьледваньне Любавіцкай воласьці, зробленае музэйным гуртком пад кіраўніцтвам Г. В. Парфёнава.

5. В. Дмитриев — „10 лет этнографической работы в Смоленской губернии“ (1917—1927 г.), „Краеведение“, 1926, т. 5, № 10, стр. 585. У гэтым артыкуле ёсьць указаньне аб тым, што Рачаўскім музэем праводзілася вывучэньне быту свайго раёну.

6. [... „Рачевка в прошлом и настоящем“, „Рабочий Путь“, 1928, № 85, 188 и 194 (аб выст.).

7. [... „Всю ночь“, „Рабочий Путь“, 1928, № 88. У гэтай заметцы асьветлена работа музэю ў антырэлігійную кампанію пад вялікдзень.

8. [... „25 лет Смоленского Пригородного Пожарного Общесва“, „Рабочий Путь“, 1928, № 107. (аб выстаўцы).

9. [... „Что дала советская власть Рачевке за 11 лет своего существования“, „Рабочий Путь“, 1928. № 275; 1929, № 4 (аб выстаўцы).

10. В. Меландер — „Семь дней Рачевской выставки“, „Рабочий путь“, 1928, № 303.

11. Ант. Гр-ный — „Рабочая окраина готовится“, „Рабочий Путь“, 1929, № 10.

12. [... „С фото-аппаратом по городу“, „Рабочий Путь“ 1929, № 14 (фотографія „выставка рабочей Рачевки к перевыборам Советов“.

13. А Федоренко — „Перевыборная в нашем месткоме“, стенная газета „Свет и Тени“ коллектива 7 месткома Союза Рабпрос, январь 1929 г. (таксама аб выстаўцы).

У заключэньне гэтага кароткага нарысу трэба сказаць, што ня гледзячы на няспрыяючыя ўмовы (адсутнасьць сродкаў, памяшканьня і абсталяваньня), музэй вырас, зрабіўся раённым музэем, правёў вялікую працу як навукова-дасьледчага характару ў галіне вывучэньня свайго раёну, так і палітычна-культасьветнага, згуртаваў вакол сябе досыць значны актыў маладых прыхільнікаў музэю і г. д.

Будзем спадзявацца, што праца музэю, практыка, якую набыў ён на працягу 5 год свайго існаваньня, прынясе карысьць як музэю, так і нашаму савецкаму краязнаўству.

В. Дзьмітрыеў.

*Ад Рэдакцыі.* Рэдакцыя лічыць, што музэй зусім мала ўдзяліў увагі соцыялістычнаму будаўніцтву. Музэй у пераважнай большасьці займаўся старынай, а пытаньні індустрыялізацыі, саўгаснае і колгаснае будаўніцтва — асноўнае зусім выпала. Рэдакцыя спадзяецца, што ўвесь актыў ударным тэмпам перабудуе сваю працу і зробіць музэй люстрам соцыялістычнага будаўніцтва.

## Пададдзел мэтэоролёгіі на Сельска-гаспадарчай выстаўцы.

У сучасны момонт, у час рэконструкцыі гаспадаркі, у час калі павялічваецца колькасьць новых плошчаў для сельска-гаспадарчых культур, проблемы сельска-гаспадарчай мэтэоролёгіі набываюць асабліва важнае значэньне.

Рэконструкцыя с. г., патрэбнасьці плянаваньня ставяць актуальнае пытаньне аб прадугледжаньні ўраджаю, дзеля чаго неабходна ведаць у першую чаргу запатрабаваньні сельска-гаспадарчых культур да знадворных умоў, а таксама і ўплыў апошніх на сельска-гаспадарчыя расьліны.

У Амэрыцы шырака разгорнута праца ў галіне агро-мэтэоролёгіі — спэцыялізацыя культур па розных кліматычных раёнах, прогнозы ўраджаяў і г. д.

Існаваньне мэтэоролёгічнага цэнтру БССР пры Навука-Дасьледчым Інстытуце Сельскай і Лясной Гаспадаркі павінна было вельмі спрыяць разгортваньню вывучэньня Рэспублікі з геофізычнага боку, з боку надвор'я, выпрацоўкі кліматычнага раёнаваньня і разьвіцьцю сельска-гаспадарчай мэтэоролёгіі.

За апошнія гады праведзена вялікая праца па ўдасканаленьню кліматычнай характарыстыкі БССР.

Графічны матар'ял—графікі, картаграмы, дыяграмы павінны прадставіць вынікі прац па клімаце БССР, даць малюнак ходу паасобных элемэнтаў-тэмпэратуры, вільготнасьці вятроў, ападкаў, раскладу апошніх па тэрыторыі Рэспублікі.

Графічны матар'ял зможа прадставіць кліматычнае раёнаваньне Рэспублікі, а таксама вынікі, якія магчыма зрабіць на падставе разгляду клімату з боку сельска-гаспадарчага—адносна працягласьці вэгетацыйных пэрыодаў, тэрмінаў палявых прац і г. д.

Мэтэоролёгічная станцыя, якая дзейнічае на тэрыторыі выстаўкі, выяўляе ня толькі працу звычайнай станцыі з поўным абсталяваньнем і належнай колькасьцю прылад, але выяўляе ўсе асаблівасьці спэцыяльнай сельска-гаспадарчай мэтэоролёгічнай станцыі ў тым выглядзе, які выявіўся практыкай і тэорыяй з палявымі ўстаноўкамі прылад, з належным вучасткам для нагляданьняў над адпаведнымі культурамі згодна адпаведнаму севазвароту, з адпаведнымі нагляданьнямі над вільготнасьцю глебы і г. д.

Толькі налічча на выстаўцы гэткай мэтстанцыі з спэцыяльным ухілам у бок сельскай гаспадаркі мае значэньне на сельска-гаспадарчай выстаўцы.

Вывучэньне фізычных умоў жыцьця расьлін патрабуе дакладнейшых прылад.

Выстаўка гэтых прылад для агляду дасьць магчымасьць шырокім колам працоўных убачыць, як далёка і значна разьвілася тэхніка фізычных досьледаў. Г. Маслакавец.

## Што атрымала ЦБК і рэдакцыя „Нашага Краю“ ўтраўні—верасьні 1930 г.

Ад М. Пеўнява (Журавічы), В. Галуба (Азарыцкі р.), М. Дзям‘янкова (в. Рудня), Л. Казачэнкі (Браг. р.), Г. Здановіч (Журавічы), Н. Гаўрылава (Хоцімскі р.), П. Усыпкі, Т. Пратасэні (Староб. р.), П. Катушэнца (Кохан. р.), А. Слаўнікава (Краснап. р.), А Пяхоты—фольклёрных матар‘ялаў 360 №№.

Ад М. Цьвержанкова (в. Зеляніца Чачэв. р.) зборнік фольклёрных матар‘ялаў 395 №№.

Ад раённых т-ваў краязнаўства і паасобных краязнаўцаў розных анкет па вывучэньню экономікі раёнаў, рэліг. настрояў, этнограф. об‘ектаў і прыродных фарб—1250, мэтнагляданьняў і фэннагляданьняў 82.

Ад К. Буйніцкага арт. „Аб програме апісаньня колгасаў“.

Ад А. Немцава. Весткі аб дэвонскім вапняку ў Асіпавіцкім раёне.

Ад С. Нікіфаровіча. Праца гуртка натуралістых у Барыс. пэдтэхнікуме.

Ад М. Старавойтава арт. Калгасны рух у Людзьвінаўскім с. с. Азар. р.

Ад Ф. Сушкевіча арт. „Жлобінскія базары“ і „Маршруты па Жлобін. раёну“.

Ад проф. Салаўева „Аб чарапахах“ і „Дубовая філёксэра“.

Ад Я. Ярмашэвіча. Програма для вывучэньня фабрыкі.

Ад Анісовіча (Вушацкі раён)—арт. „Мінулае і сучаснае колг. Чырвоны Ўсход“.

Ад М. Войткі. Дарожныя нарысы краязнаўцы.

### Над чым працуюць краязнаўцы.

1. Вывучэньне Жлобінскіх базараў. ЦБК і Наш Край атрымалі ад Жлобін. раён. Т-ва Краязнаўства цікавыя матар‘ялы, апрацаваныя краязнаўцам Ф. Сушкевічам, аб Жлобінскіх базарах. Абсьледваньне базараў вялося на працягу з 1/XII-29 па 18/V-30 г. Абсьледваньне было рэгулярным і вельмі драбязьлівым. Яно пачыналася кожны базарны дзень з 6—7 г. раніцы. Разьмеркаваньне продукцыі на рынках Жлобіна паказана ў грашовых лічбах. Вельмі цікавы лічбы руху малочных прадуктаў і мясных, і асабліва цікавы весткі аб саматужных вырабах на базарах, бо матар‘ялы ілюструюць попыт на гэтыя вырабы і ступень задавальненьня яго. На жаль, чыста тэхнічныя прычыны затрымоўваюць апублікаваньне гэтых матар‘ялаў у „Нашым Краі“.

2. Вывучэньне шкоднікаў лесу. Чэрыкаўскі краязнаўца С. Зыкаў ужо некалькі год пільна вывучаў фаўну сасновага пня. Вынікі гэтай працы апублікаваны ў Нашым Краі. У дадатак да гэтага С. Зыкаў склаў сьпіс шасьціножак, сабраных на сасновых пнёх у Менскай і Магілеўскай акругах.) У сьпісе налічваецца больш 150 відаў, прычым каштоўнасьць сьпісу надзвычайна павялічваецца тым, што паказана каля 40 відаў, якія не ўвайшлі ў вядомы сьпіс М. Арнольда для шасьціножак б. Магілеўскай губ.

3. Апрацоўка матар‘ялаў студ. Краязнаўчай Экспэдыцыі ў Вульскі і Вушацкі раёны.

Як вядома, яшчэ летам 1928 г. у гэтыя раёны была накіравана з Менску студэнцкая краязнаўчая конфэрэнцыя, якая адной з мэт ставіла вывучыць расьліннасьць раёну. Вынікі апрацаваў т. Мацейчык (гл. „Наш Край“ 1930 г. № 7—8). У дадатак да гэтай працы складзены альфабэтны сьпіс расьлін, знойдзеных у памянёных раёнах. Гэрбары знаходзіцца ў Ботанічным Габінэце БДЗУ і ў дублікатах у Полацкага Т-ва Краязнаўства. Сьпіс зьмяшчае больш як 300 відаў.

4. Укладаньне новых програм краязнаўчай працы.

В. Самцэвіч склаў програму па вывучэньню быту ў колгасах, а Я. Ярмашэвіч—програму па вывучэньню фабрыкі. Програмы перасланы для разгляду ў ЦБК і зьмяшчэньня ў „Нашым Краі“.

## Кароткі агляд надвор‘я і стану пасеваў па БССР за II дэкаду верасьня 1930 году.

### Агульная характарыстыка.

Па агульнаму ходу надвор‘я ў падсправаздачную дэкаду захоўваецца васеньні тып, але з досыць частымі праясьненьнямі, а ў некатарыя дні нават стаяла роўнае сонечнае прахалодлівае надвор‘е васенняга тыпу.

Тэмпэратура паветра.

Другая дэкада верасьня па тэмпэратурнаму рэжыму адрозьніваецца ад першай нязначнымі ваганьнямі сярэдняй і сутачных тэмпэратур—іх больш роўным ходам. Ваганьні сярэдне-сутачнай тэмпэратуры за II дэкаду не пераважалі 3-4° і толькі ў паўночнай палове БССР яны дасягалі 5-6°. Больш цёплай была сярэдзіна дэкады 16—18, калі адзначаны сярэдне-сутачныя тэмпэратуры 11-12°, у пачатку і канцы дэкады тэмпэратура вагалась каля 7-8° і толькі ў паўночна-ўсходняй частцы БССР яна ў канцы дэкады 19-20-IX зьніжалася да 3—6°.

Наогул разглядаемая дэкада халадней папярэдняй на 1-2°. Сярэдне-дэкадная тэмпэратура II дэкады верасьня бягучага году амаль не адрозьніваецца ад адпаведнай дэкады верасьня мінулага году. Сярэднія дэкадныя тэмпэратуры па ўсёй БССР ніжэй адпаведных дэкадных тэмпэратур шматгадовых на 2°.

Максымальная тэмпэратура за суткі 21° Марына Горка 17—IX) Мінімальная тэмпэ-

ратура за суткі—2.5 (Стукачова, Волынецкий р. 20—IX).

Прымаразкі адзначаны ў наступных мясцох: Ворша—0.9 20—IX, Віцебск—1.8 20—IX, Стукачова—2.5 20—IX.

### Тэмпэратура глебы.

На глыбіні 10 см ад 11.4 (Менск) да 11.9 (Бабічы).

На глыбіне 20 см. ад 10.0 (Горкі) да 11.7 (Н. Каралёва Віцебск. раён).

На глыбіні 40 см. ад 10.8 (Горкі) да 13.1 (Н. Кавалёва).

На глыбіні 80 см. ад 11.8 (Менск) да 14.4 (Турск, Рагач. р).

Прымаразкі на паверхні глебы адбыліся амаль па ўсёй краіне ў пачатку і канцы дэкады. Мінімальная тэмпэратура глебы—5.0 (Н. Каралёва 20/IX).

Максымальная тэмпэратура на паверхні глебы 27.3 (Н. Каралёва 11/IX).

### Ападкі.

Выпаўшыя за дэкаду ападкі няроўнамерна разьмеркаваліся па тэрыторыі БССР: больш за ўсё ападкаў—значна вышэй за норму—выпала у паўднёва-ўсходней частцы БССР, менш за норму—у паўночнай і каля нормы у астатняй частцы краіны.

Ападкі выпадалі пераважна ў першай палове дэкады.

Дзён з ападкамі было ад 3 да 9, у пераважнасьці дождж. Град адзначаны ў наступных мясцох: Прапойск 11—IX, Барба—Веткаўскі р. 11—IX).

### Вятры.

Вятры панавалі ўсходніх румбаў. Моцных вятроў ня было. Некатарое ўзмацненьне вятроў адзначана ў сярэдзіне дэкады.

З зьявішч, якія вельмі рэдка наглядаюцца ў межах БССР неабходна адзначыць Паўночнае зьзяньне, якое назіралася ў ноч з 18 на 19—IX у Горках.

### Агляд хлябоў і пасеваў.

Пасеў азімых хлябоў працягваецца.

Зьвестак аб зьяўленьні шкоднікаў ня маецца.

27-IX-1930.

Гідра-Мэтэоролёгічны Інстытут.

# Краёвая бібліографія.

Працяг *).

Маньковский, И. Сабакаводство в Могилевском округе. Паляўнічы Бел. 928. № 4 (9) с. 37.

Мацьвяёнак, І. З гісторыі партызаншчыны на Магілеўшчыне. [1928]. Наш Край. 928. № 3 с. 37—43.

Мацьвяёнак, І. К. Магілеўшчына як об'ект краязнаўчага вывучэньня. Магілеўшчына. 927, т. І. с. 144—149.

Мацьвяёнак, І. К. Некаторыя краязнаўчыя тэмы Магілеўшчыны. (З дакладу, зробленага на Магілеўскай Акр. Краязнаўчай конфэрэнцыі. Наш Край. 927. № 3. с. 35—39.

Мацьвяёнак, І. Сялянскі рух на Магілеўшчыне ў 1905 годзе. Магілеўшчына. 927. т. І. с. 43—58.

Мацюкевич, Я. Даклады аб становішчы справы народнае асьветы па Калінінскай акрузе на 1-е студзеня 1925 г. (Па Соцвыху). Асьвета. 925. № 1. с. 158—169.

Машкоўскі, Ів. Дынаміка сельскае гаспадаркі на Магілеўшчыне. Магілеўшчына. 927. т. І. с. 59—68.

М. Б.. Хозяйство Магилевщины. (По материалам окрплана). Сав. Буд-ва. 926. № 11. с. 207—210.

Мельников, А. Д. Из деятельности летних яслей при сельском Диспансере в с. Братьковічах, Калінінского Округа в 1926 г. Бел. Мэд. Думка. 926. т. II. № 12-13. с. 119—124.

Мікалаеў, Т. С. Вясельле. Запісана ў Касьцюковіцкім раёне Калінінскай акругі. Наш Край. 928. № 6-7. с. 43—62.

Мірскі, І. Г. Матар'ялы да вывучэньня рабочага і сялянскага руху на Магілеўшчыне ў пэрыод 1903—1910 гадоў. Наш Край. 928. № 10. с. 49—55.

Міхайлаў, Я. Як будуецца новая вёска ў Калініншчыне і Магілеўшчыне. [Сельская гаспадарка]. Плуг. 926. № 7. с. 23—25.

Можаровский, Б. Геологическое обследование в окрестностях гор. Мстиславля. Зап. Гор. С.-Х. Ин-та. 924. т. I. ч. 2. с. 198—206.

Можаровский, Б. Послетретичные отложения и водоносные горизонты в верховьях реки Прони. Матер. Запомо. 923. № 2. с. 1—25.

Мусерскі. Дэмографічная статыстыка [Магілеўск. акр.]. Магілеўшчына. 927. т. І. с. 110—115.

Мусерскі. Кароткі агляд буйнае цэнзавае прамысловасьці Магілеўскае акругі за 1923—1926 г. Магілеўшчына. 927. т. І. с. 72—80.

Мусерскі. Рух кошту бюджэтнага набору па гораду Магілеву за час з 1-га красавіка 1924 г. па 1-е красавіка 1927 г. Магілеўшчына. 927. т. І. с. 80—84.

Озерский, Г. Работа Гомельских педкурсов по переподготовке сельских учителей. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 75. с. 46—49.

Окстолкер, Ц. Корниловские дни в Могилеве. Изв. Гом. Губ. Ком-та РКП. 922. № 28. с. 43-44.

Осьцін, А. Вынікі працы Магілеўскай Дасьледчай Станцыі лекавых расьлін. Плуг. 928. № 12. с. 18—21.

[... Отчет Могилевского О-ва Взаимного Кредита за первый операц. 1925 г. Могилев. 925. 21 стр.

[... Отчет Могилевского О-ва Взаимного Кредита. За второй операционный 1925-26 г. Могилев. 926. с. 26.

[... Отчет Могилевского Окружного Совета Профсоюзов. Март. 1925-1926 г. Могилев. 926. 92 стр.

[... Отчет о работе Могилевского Городского Совета Раб. Крест. и Красноарм. депутатов за период с 21/II 1927—1/I 1928 г. Могилев. 928. с. 35.

[... Отчет о работе Могилевск. Городск. Совета за истекший 1925 г. Могилев, 926. 20 стр.

[... Отчет о работе Могилевского городского Совета Раб. крест. и красноарм. депутатов созыва 1926 г. Могилев. Изд. Соха и Молот. 927. с. 23.

[... Отчет о работе Чауского Районного Исполнительного Комитета за 1925 г. Бюл. С. Н. К. БССР. 926. № 3. с. 74—90.

---

*) Гл. „Наш Край" 1929 г. №№ 5, 6-7, 8-9, 10, 11, 12 і №№ 1, 2, 3, 4, 5-6 і 7-8 1930 г.

Палікарпавіч, К. Неолітычная стаянка каля балота Печанеж на Калінінщчыне. Гіст.-арх. зборнік. № 1. 924. с. 235—241. 4 табл.

Полянская, О. Расьліннасьць Калінінскае акругі. Мат. да выв. флёры і фаўны. Бел. т. 2. с. 59—60.

Паніна, К. С.-Г. выстаўкі ў Калінінскай акрузе. Плуг. 925. № 10-11. с. 9.

[... Пастановы III-й Магілеўскай Акруговай Партыйнай канфэрэнцыі. Магілеў. 927. с. 76.

Паткоўскі, Чырвоны Крыж у Калінінщчыне. Бюл. Бел. Т-ва Чырв. Крыжу, 927. № 3—6. с. 27-28.

П. В. Перападрыхтоўка настаўніцтва ў Касьцюковіцкім районе Калінінскай акругі. Асьвета. 925. № 4. с. 83—86.

Полесицкий, Н. Ш. (Могилев). К вопросу о частоте политемии среди населения Могилевщины. Бел. Мэд. Думка, 927. № 1-2. с. 70-71.

Полесицкий, Н. Ш. Туберкулез в г. Могилеве. (по данным Могилевского ЗАГС'а и Тубдиспансера. Бел. Мэд. Думка. 927. № 6—8. с. 45—54.

[... Постановления расширенного пленума Могил. Окр. Исполн. к-та 27—29 I. 1925 г. Изд. Могилевск. Окрисполкома. Могилев. 925. с. 37.

[... Правила по санитарной части, обязательные для учреждений, предприятий, должностных и частных лиц г. Могилева и других городов и поселений городского типа Могилевского округа. Издан. на основании обяз. постановления Могил. Окрисполк. № 37-38 от 10. V. 1926 г. Могилев. изд. Соха и Молот. 926. 32 стр.

[... Практические меры по оживлению деятельности сельсоветов. (Утвержд. Пленумом Могил. Окрисполкома 27—29. I. 1925 г.). Могилев. 925. 12 стр.

[... Праца Расьнянскага Раённага Выканаўчага Камітэту з 31 сакавіка па 1 ліпня 1925 г. Бюл. СНК. БССР. 925. № 3. с. 64—74.

Прокопцев, Ж. Смерть генерала Духонина. (Заметки очевидца). Могилев. Изв. Гом. Губ. Ком-та РКП. 921. № 15. с. 49.

[... Пяцігадовы плян разьвіцьця народнае гаспадаркі Магілеўскай акругі. (1927—31 г.г.). [Магілеў I, выд. Магілеўск. АВК. 927. С. 40. [2]. 7 табл.

[... Работа Могилевского горсовета за 1925 г. Бюл. СНК. БССР. 926. № 3. с. 105—109.

Рагінкін. Становішча вэтэрынарнай справы. [Магілеўск. акр.]. Магілеўшчына. 927. т. I. с. 127—130.

Радзько, А. Бібліяграфія. [Магілеўшчыны]. Магілеўшчына. 927. т. I. с. 161—183.

Раманаў, Е. Гаворкі Магілеўскае губэрніі. Зап. Аддз. Гум. Навук I. Б. К. 928. кн. 2. с. 121—146. 1 карта.

Ратнэр, У. У Шклоўскім ЦРК. Шлях Коопэрац. 928. № 8-9. с. 60-61.

Ржавуская, Т. Насьценныя росьпісы ў царкве б. Тупічэўскага манастыра ў Мсьціслаўлі. Зап. Аддз. Гум. Навук I. Б. К. 928. кн. 6. с. 141—166.

Ржавуская, Т. Орнамэнтаваныя фоны ў магілеўскім малярстве XVII-XVIII ст. Зап. Аддз. Гум. Навук I. Б. К. 928. кн. 6. с. 179—182.

Розеншайн, А. В Калининском округе. (По материалам обследования Калининской организации инструктором ЦК). Вперед. 924. № 2. с. 79—87.

Рубінштэйн, Г. Дасягненьні і недахваты ў камунальнай гаспадарцы Калінінскай акругі. (Па матар'ялах абсьледваньня Кіраўніцтвам Камунальнай Гаспадаркі НК Унутраных Спраў БССР). Бюл. СНК. БССР. 927. № 6. с. 27—29.

[... Рэзолюцыі 3-й Магілеўскай Акруговай (XII-й чарговай) Канфэрэнцыі ЛКСМБ. (7—10. II 1927 г.). Магілёў, выд. Магіл. Акругкому ЛКСМБ. 927. с. 38. 2.

Рэмез. Праца Магілеўскай акруговай мэтадычнай камісіі за 1925-26 год. Асьвета. 926. № 5. с. 136—138.

Савельеў, А. Дасьледваньне пасеўнага матар'ялу Калінінщчыны. Працы Навук. Т-ва па выв. Бел. 928. т. V. с. 133—170. з картай. [Тэзісы на нямецк. мове].

Савич, Н. Аб расьліннай шаце Магілеўскай акругі. (Паводле абсьледваньня 1925 г.). Наш Край. 926. № 2-3 (5-6). с. 34—36.

Сафонаў, Е. А. Што зроблена Магілеўскай акруговай бібліятэкай імя К. Маркса. Асьвета. 927. № 2. с. 118—120.

Скалка, А. Быт (фольклёр) [Магілеўшчыны. Магілеўшчына. 927. т. I. с. 91—99.

[... Состояние партвоспитательной и политико-просветительной работы в Мстиславском районе. [Из материалов обследования]. Вперед. 924. № 1. с. 70—74.

[... — Справаздача аб дзейнасьці Магілеўскага Акруговага Выканаўчага Кам-ту Савету Раб., Сял., і Чырвонаарм. Дэпут. за 1924-25 і 1925-26 г.г. Магілеў. 927. с. 98. 2. (2-гі Магілеўскі Акруг. Зьезд Саветаў).

[... Справаздача Калінінскай Акруговай Касы Социяльнага Страхаваньня БССР за час з 1/XII. 1925 г. па 1/XII 1926 г. Клімавічы. 926. 20 стар.

[... Справаздача Магілеўскага Гарадзкога Савету Раб. Сял. і Чырвонаарм. Дэпутатаў за пэрыяд ад 21-га сакавіка 1927 г.—1 сьнежня 1928 г. Могилев. 928. с. 42.

[... Ставка и Октябрьская Революция (документы). Изв. Гом. Губ. Ком-та РКП. 920, № 5. с. 49—51.

Сташэўскі. Магілеўскае аддзяленьне дзяржаўнага беларускага музэю. Магілеўшчына. 927. т. I. с. 101—106.

Сушынскі, Язэп. Аб гандлі людзьмі на Магілеўшчыне. Магілеўшчына. 927. т. I. с. 35—43.

Сьвіршчэўскі, В. М. Матар'ялы для вывучэньня былла на Беларусі. Быдла Калінінскага і часткі Магілеўскага раёну. Праца Навук. Т-ва па выуч. Бел. Бел. 926. т. 1. с. 89—97. [Рэзюмэ на нямецк. мове].

Сьцяпанаў. Ц. Гісторыя места Магілева да наданьня яму Майдэборскага права. (1577 г.). Зап. Аддз. Гум. Навук. І. Б. К. 928. кн. 3. с. 299—361.

Тараймовіч, Я. Размываемасьць і перанясеньне грунтаў у рэчцы Вухлясьці Сельск. і Лясн. Гасп. 928. кн. 6. № 3-4. с. 72—85.

Т. Р. Сельхозкооперация в Могилевском округе. Шлях коопэрац. 928. № 3. с. 52-53.

Троська, Я. Краязнаўчая праца на Магілеўшчыне. Асьвета. 925. № 4. с. 96—100. Хроніка.

Троська, Я. Некаторыя моманты з дарэвалюцыйнае асьветы на тэрыторыі сучаснае Магілеўшчыны. Полымя. 927. № 1. с. 128—141. Магілеўшчына. 927. т. 1. с. 137—143.

[... Труды II-го Очередного Собрания Уполномоченных Могилевского Окружного Союза Потребительских Об-в. (27—29. XII. 1925 г.). Могилев. 926. Стр. 2. 48.

Трызно, С. Я. Чарговыя с.-г. пытаньні на Прыпяцкім Палесьсі. Сельск. і Лясн. Гасп. 928. кн. 5. № 2. с. 78—80. Хроніка.

Туркін, І. Як працуе с.-г. гурток вёскі Хватаўкі. (Бялыніцкі раён, Магілеўшчына.). Плуг. 926. № 5. с. 33-34.

Уралаў, С. Аб чым пяе Магілеўшчына? (Народная творчасьць). Чырв. Сейбіт. 927. № 15. с. 14-15.

Фалкін, Г. Практыка па-зашкольнай працы ШСМ (с. Княжыцы. Магілеўскай акругі). Асьвета. 928. № 2. с. 102—104.

Фрид, С. д-р и Полесицкий Н. Турбекулез среди детей города Магілева по данным Магілевского Тубдиспансера. Бел. Мэд. Думка. 926. т. 2, 10-11. с. 118—123.

Фрыдман, І. На акруговым зьезьдзе Каліншчыны. [Т-ва Чырв. Крыжу). Бюл. Бел. Т-ва Чырвон. крыжу 927. № 3—6. с. 28-29.

Циперман, По кустарно-промысловым артелям (Смолокуренная артель „Октябрь“, хут. Гребенево, Луполовского р-на). Шлях Коопэрац. 928. 7. с. 43-44.

Цыперман, Климовичское кредитно-промысловое т-во. Шлях Коопэрац. 928. № 7. с. 43-44.

Черницкий. Могилев в 1911—1914 г. (Из воспоминаний [Революционная работа]. Извест. Гом. Губ. Ком-та Р. К. П. 921. № 16. с. 39—42.

Черницкий, А. 1917 и 1918 годы в Могилеве. (Из воспомнинаний). Изв. Гом. Губ. Ком-та РКП. 924. № 60-61. с. 97—102.

[... Чырвоны крыж па Магілеўшчыне. Бюл. Бел. Т-ва Чырв. крыжу 927. № 7—9 с. 40—44.

Шастакоў, П. Рэмез, Б. Вынікі клюбных дзён у школах г. Магілева. Асьвета. 926. № 4. с. 41—46.

[... Эканамічна-культурнае становішча і праца савецкага апарату Клімавіцкага раёну, Магілеўскае акругі к 10-ці годзьдзю Кастрычнікавай рэвалюцыі 1917—1927 г. Клімавічы. 927. С. III.

[... Экономическае становішча Чэрыкаўскага раёну Калінінскае акругі. Бюл. СНК БССР. 926. № 9. с. 91—102.

Эпштейн, Б. Чем была вызвана забастовка на кожзаводе гр. Фраймана и Ко. в Могилеве. Праф. Рух Бел. 926. № 11 с. 10.

Эртман, З. На заре революционного движения в Чериковском уезде. (Из воспоминаний участника) [90 г.г.—1905 г.] Извест. Гом. Губ. Ком-та Р.К.П. 923. № 58, с .87-90.

Яцэвіч, М. Праца Магілеўскага Акруговага Зямельнага Аддзелу і яго дасягненьні. (Па даных Маг. Акрза). Магілеўшчына. 927. т. І. с. 68-71.

## Меншчына.

Абрамчук, М. Партийное воспитание Минской организации КП(б) Б. Вперед. 924. № 1. С. 102—105.

Адам. Отрывки воспоминаний старого революционера [Минск 80 г. г.]. Вперед. 923. № 1 (5). С. 92—97.

Адамов, В. В. и Савич, Л. И. Растительные ассоциации Комаровского болота в лизиметрах вегетационного павильона Минской Болотной Опытной Станции. Зап. Бел. Дз. Ін-ту С. Г. 925. ст. 4. с. 41—61. [Рэзюмэ на нямецкай мове].

Адамов, В. В. Семена сорных трав на низинном торфянике Комаровского болота. (Предварительное сообщение). Зап. Бел. Дз. Ін-ту. С. Г. 925. сш. 9. с. 121—132. [Рэзюмэ на нямецк. мове].

Адзярыха, М. Апісаньне Койданаўскага замку. Наш Край. 926. № 1 (4). с. 37—40

Азбукін, М. Мястэчка Шацак—Наш Край. 927. № 1. с. 44—50.

А. К. Сельска-гаспадарчая выстаўка ў Падблоні. (Меншчына). Плуг. 926. № 11. с. 9-10.

Александравіч, Л. П. і Бірыла, Я. Вынікі падворнага дасьледваньня вальлёвае хваробы ў гор. Менску. (Камісія па вальлёвай хваробе пры Мэдсэкцыі І. Б. К. Старшыня—праф. Рубашоў, С. М.). Бел. Мэд. Думка. 918. № 1. с. 29—38.

Альшванг и Фрумкина, врачи. Работа по детскому патронату в гор. Минске за 1926-27 г. Бел. Мэд. Думка. 927. т. III. № 9—12. с. 164—166.

А. М. Кайданоўскі раён Менскае акругі. (Кароткі нарыс эканамічнага стану раёну). Сав. Буд-ва. 927. № 5. с. 196—200.

А. С. Аб працы інстытуту цэхорганаў. (Менская акруга) Бальш. Бел. 927. № 6. с. 40-41.

А. С. Перевыборы бюро ячеек КПБ. (Минский округ). Бальш. Бел. 927. № 3. с. 39-40.

Аўчыньнікаў, Ф. Дні „Сьвята Ураджаю“ ў Заслаўскім раёне. Плуг. 925. № 12. с. 32-33.

